ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
15 ліпеня 1994 г. № 28 (3750) Кошт 250 руб.

## ПАСЛЯ ЮБІЛЕЮ, НАПЯРЭДАДНІ ЖЫЦЦЯ

***Васіль АЎРАМЕНКА: «Колькі б ні гаварылася аб шкоднасці абсалютызацыі любых з'яў, у жыцці нашага грамадства зноў і зноў прыходзіцца сутыкацца з імі. Вось і сёння, праз паўвека мы маем справу з адным з самых застарэлых і ўстойлівых савецкіх комплексаў — «культам вялікай вайны».***

**2—3**

## ГУЛАГ — КРАЙ ЛЮДСКОГА ГОРА І ПАКУТЫ

***Іван БАСЮК: «Асабліва мяне ўразілі вялізныя, сплеценыя з дзябёлых лясін, густа пераплеценыя, перавітыя ржавым дротам лагерныя вароты. Вароты ў пекла. Столькі гадоў прайшло, а ў мяне і зараз яны перад вачыма, іх журботная песня — рып... рып...»***

**5, 12**

## «ПА ЧЫГУНЦЫ СТАГОДДЗЯ ...»

***Вершы Міколы КУПРЭЕВА.***

**8—9**

## АКАДЭМІЯ РЭДЛІХ

***Лілія БРАНДАБОЎСКАЯ: «Многія з нас, каго яна адорвала ганаровым званнем сяброў, бываючы побач з ёю, атрымлівалі неацэнныя ўрокі гэтай акадэміі, дзе галоўнымі «прадметамі» былі сумленне, праўда, прыгажосць і дабро».***

**10—11**

## РЭАБІЛІТАЦЫЯ НЕРЭАБІЛІТУЕМАГА

***Алесь КАЗАННІКАЎ: «Летась на сельскагаспадарчую навуку з чарнобыльскай касы было выдаткавана больш як 366 мільёнаў рублёў (у цэнах на пачатак 1993 г.). Цяпер навукоўцы не супраць таго, каб прыбраць да рук і сродкі, што выдзяляюцца на іншыя чарнобыльскія мерапрыемствы».***

**13**

# ПАРАД ПРЭЗІДЭНТА



Учора, выходзячы пасля працы з рэдакцыі, убачыў, як праімчаўся па нашай вуліцы Захарава флагман аўтапарка рэспублікі — чорны «членавоз» з бел-чырвона-белым сцяжком на капоце і ў суправаджэнні дзвюх міліцэйскіх машын з уключанымі мігалкамі. Спачатку падумалася — а ці не зарана? Счакай, чалавеча, колькі дзён, усё яшчэ ў цябе будзе — уся п'янкая атрыбутыка ўлады ўжо напагатове.

Пасля ўбачылася ў гэтым самасцвярджальным лётанні па вуліцах спякотнага Мінска штосьці сімвалічнае...

Памятаю, у часы, калі наш жыццёвы ўклад здаваўся безвыходна непарушным, папулярным было выслоўе Караткевіча пра тое, што вось, маўляў, усё даў Бог беларусам, а каб не надта ганарыліся — паслаў адпаведнага складу начальства.

Першыя прэзідэнцкія выбары паказалі, што мы нават жартам дарэмна наракалі на Творцу. Ён не вельмі памыляўся.

20 ліпеня на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь уступіць чалавек, чый шлях на палітычную вяршыню пралягаў праз нізавыя армейскія палітаддзелы і дробныя партыйна-камсамольскія структуры. Была, праўда, у ягонай працоўнай біяграфіі такая сур'ёзная ўстанова, як шклоўская раённая арганізацыя таварыства «Веды», дзе дваццацічатырохгадовы будучы беларускі прэзідэнт працаваў адказным сакратаром.

Гэтыя радкі дыктуюцца, дальбог, не снабізмам — хоць, вядома, надзвычай спакуслівa згадаць, напрыклад, бліскучага Гавела і ягоных паплечнікаў, якія трапілі ў калідоры ўлады з выгнання — з эміграцыі ці проста з качагарак.

Я думаю, што былая сістэма і яе стрыжань — кадравая палітыка КПСС, не выбракоўваючы людзей кшталту А.Лукашэнкі як штосьці чужароднае, але і не даючы ім магчымасці рэалізавацца хоць бы ў «другіх сакратарах», цвеліла іх амбітнасць, прымушала марыць пра рэванш. Гэтыя выбары — трыумф ніжняга і сярэдняга ўзроўню партыйна-савецкай наменклатуры. Кебіч не прайграў. Яго, па сутнасці, «здалі» — свае, тыя, у чыёй падтрымцы ён не сумняваўся.

Што далей?

А нічога асаблівага, што карэнным чынам перамяніла б нашы ўяўленні пра нашую ж уладу, яе імідж, структуру і механізмы функцыянавання. Хіба ўвачавідкі ўбачым нешта з таго, што раней асабліва не вытыркалася, не выносілася з-за масіўных дзвярэй. Зрэшты, у гэтым сэнсе нас ужо мала чым можна здзівіць.

Можна чакаць, што мы пачуем ад прэзідэнта яшчэ не адну заяву, кшталту той, што ён толькі «ў панядзелак» зразумеў, якое катастрафічнае становішча ў эканоміцы краіны.

Можна прагназаваць серыю дэманстрацыйных эфектаў — імклівых і ўразлівых для пэўнай катэгорыі людзей, як праезд урадавага картэжу. Будуць, безумоўна, кадравыя перастаноўкі, ашаламляльныя наменклатурныя ўзлёты і балючыя падзенні.

Можна прадбачыць нагнятанне «надзвычайшчыны». Іншых метадаў выпраўлення становішча, хоць бы часовага, у мяркуемай прэзідэнцкай раці, хутчэй за ўсё, няма. Электарат Аляксандра Лукашэнкі — не той рэзервуар, адкуль можна чэрпаць свежыя ідэі, арыгінальныя канцэпцыі, новыя падыходы.

На жаль. Прэзідэнцкі мандат сапраўды мае аглушальную легітымнасць. Не лічыцца з гэтым нельга. Хоць бы дзеля таго, каб асэнсаваць самае галоўнае паражэнне мінулых выбараў — паражэнне тых сіл, якія спавядаюць ідэалы дэмакратыі, суверэнітэту, духоўнага адраджэння.

Хочацца спадзявацца, што паражэнне гэтае — часовае.

**Андрэй ГАНЧАРОЎ**

# «У НАРОД І КРАЙ СВОЙ ТОЛЬКІ ВЕРУ...»

***7 ліпеня ў парк імя Янкі Купалы прыйшлі людзі, каму блізкае да сэрца імя паэта, хто беражэ роднае слова, шануе спадчыну. Прыйшлі, каб адзначыць 112-ыя ўгодкі з дня нараджэння славутага песняра, сапраўднага народнага паэта Беларусі.***





Свята адкрыла дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Жана Дапкюнас. У сваім выступленні яна адзначыла, што праблема незалежнасці Беларусі, аб якой пісаў Янка Купала яшчэ ў 20-ыя гады, актуальна і зараз, калі Рэспубліка Беларусь становіцца на шлях самастойнага дзяржаўнага існавання. Вось словы Купалы: «Беларусь — гэта не геаграфічнае паняцце. Беларусь — гэта свет, гэта ідэя, гэта спадчына нашых бацькоў...

Пакуль жывы хоць адзін беларус — будзе жыць беларуская мова, пакуль жыве мова — жыве Беларусь. І што б ні тварылася на свеце, беларуская думка аб нацыянальнай і сацыяльнай волі як жыла, жыве, так і жыць будзе ».

Напрыканцы выступлення дырэктар музея падкрэсліла, што няма чаго баяцца беларусізацыі, пра што сяды-тады гавораць нашы нядобразычліўцы. Успомнім тут словы Купалы: «... даўно ўжо прыйшлі да пераканання, што свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус падняволены».

Эпіграфам да выступленняў на свяце вядомых беларускіх паэтаў могуць быць словы Максіма Танка, прысвечаныя Янку Купалу: «З крыніц тваіх жывучых песень мы ўсе пілі гаючы сок...».

Шчырыя словы ўдзячнасці і пашаны да песняра, боль за родную Беларусь гучалі ў выступленнях і вершах Сяргея Грахоўскага, Міколы Аўрамчыка, Вольгі Іпатавай, Сяргея Законнікава, Людмілы Паўлікавай, Леаніда Дранько-Майсюка, Міхася Шавыркіна.

Вершы Янкі Купалы прагучалі ў выкананні артыста Белдзяржфілармоніі Мікалая Казініна, у тым ліку і знакаміты верш паэта «Перад будучыняй». Горача віталі на свяце і артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Зою Белахвосцік, Аляксандра Лабуша, Віктара Манаева. У іх выкананні прагучалі сцэнкі са спектакля «Тутэйшыя» па п'есе Янкі Купалы. Як сугучна нашаму часу гучаць словы песняра: «Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас ні надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівыя, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй».

Закончылася свята выступленнямі самабытных фальклорных ансамбляў «Вяселле» і «Мінскі гармонік». Доўга яшчэ разносіліся па парку чароўныя гукі беларускіх мелодый і песень.

Купала заўсёды з намі на шляху да нашага духоўнага адраджэння з верай у народ і край свой, з надзеяй «...усю Беларусь — неабнятну, як мора, убачыць у ясным, як сонца, святле».

А 14 ліпеня а 18-ай гадзіне ў парку імя Янкі Купалы зноў гучалі беларускія мелодыі. Ля помніка паэту выступілі беларускія пісьменнікі і барды — лаўрэаты і дыпламанты Першага нацыянальнага фестывалю аўтарскай песні «Залатая Горка-94».

**Л. АСТАПКЕВІЧ**

Віншуем!

# ЗНАЁМЫ ГОЛАС



Віктару Вуячычу — 60. Для артыста эстрады гэткі час — як тры жыцці: у папулярнасці звычайна век кароткі... Але народнаму артысту Беларусі лёс наканаваў не толькі зведаць папулярнасць, але ў пэўным сэнсе і захаваць яе. Спявак падтрымлівае стабільную творчую форму, годна выступае перад даўнімі прыхільнікамі, для якіх знаёмы голас — як сімвал свайго часу. Вуячыч — асоба сапраўды папулярная ў свеце беларускай эстрады, дзе сёння ён ажыццяўляе мастацкае кіраўніцтва, працуе ў журы выканаўчых конкурсаў ды мае шэраг іншых грамадскіх спраў. Вуячыч — гэта песні І. Лучанка, многім з якіх ён даваў пуцёўку ў жыццё. Гэта творы іншых беларускіх ды папулярных маскоўскіх аўтараў. Гэта голас, знаёмы ўжо некалькім пакаленням слухачоў...

ведаем, але павінны імкнуцца ведаць як добрае, так і дрэннае, каб гістарычная ісціна адкрылася з розных бакоў. Гэта тым больш актуальна для Беларусі, дзе вайна ў пэўнай меры была і грамадзянскай, і яе поўная, а не толькі саветызаваная гісторыя яшчэ будзе напісана.

А што да юбілеяў, то іхні традыцыйны афіцыёзны гром з цягам часу мусіць ператварыцца ў больш спакойныя, чалавечныя формы, стаць днямі памяці ахвяр вайны, ушанавання ўсіх загінуўшых ад яе бязлітаснай рукі. Вайна, хай і вялікая, павінна заняць належнае месца ў сістэме нармальных чалавечых каштоўнасцей і антыкаштоўнасцей, а не быць аб'ектам рэгулярных ідэйна-палітычных спекуляцый і крыніцай мілітарысцкіх настрояў. Тым больш, калі мы збіраемся адмаўляцца ад старога і будаваць цывілізаванае дэмакратычнае грамадства.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

**P. S.** Для цікаўных магу дадаць, што аўтар не быў паліцаем і сваякі яго ваявалі на баку Чырвонай Арміі. Тым не менш, яму крыўдна за нашых людзей, за беларусаў, пацярпелых ад вайны і дасюль не асэнсаваўшых да канца яе сапраўдных прычын і вынікаў. Зрэшты, юбілеі хутка праходзяць, аціхае святочны тлум і рассейваецца хмель, а мы застаёмся сам-насам з жыццём, яго старымі і новымі праблемамі. І каб іх вырашаць, каб мяняць рэальнасць да лепшага, трэба мяняцца і нам самім, і нашым думкам і дзеянням.

**В. А.**

*г. Магілёў*

Пошта

# МУЗЕЮ Л. ГЕНІЮШ — БЫЦЬ!

Як вядома, доўгія гады замоўчвалася творчасць і грамадская дзейнасць выдатнай дачкі Беларусі Ларысы Геніюш. Яна пражыла нялёгкае жыццё самаадданага служэння Беларусі і паэтычным словам, і грамадзянскай непахіснасцю. Лёс правёў яе па сталінскіх турмах, этапах, перасылках, лагерах і доўгіх гадах ціхага цкавання на Радзіме.

Апошнім часам творчасць Л. Геніюш знаходзіць сваіх удзячных чытачоў; друкуюцца вершы, выдадзена кніга ўспамінаў «Споведзь».

Значнай падзеяй у культурным жыцці стаў спектакль «Белы сон» паводле твораў Л. Геніюш, пастаўлены тэатрам «Зніч». Яшчэ ў 1992 годзе на прэм'еры спектакля нарадзілася ідэя штогодна пачынаць тэатральны сезон тэатра «Зніч» спектаклем «Белы сон» у Зэльве, дзе апошнія чвэрць веку пражыла Ларыса Геніюш. Так упершыню была ўшанавана памяць паэткі. У Зэльву разам з тэатрам прыехалі пісьменнікі з Мінска і Гародні. На наступны, 1993 год у дзень памяці Л. Геніюш у Зэльве ўжо было шматлюдна. Да тэатра «Зніч» і пісьменнікаў далучыліся грамадскія арганізацыі — Жаночы хрысціянска-дэмакратычны рух Беларусі і «Бацькаўшчына», жыхары Зэльвы і наваколля, замежныя госці.

Сёлета тэатр «Зніч» і Жаночы рух будзе ладзіць дзве імпрэзы памяці Ларысы Геніюш — 9 жніўня ў Мінску і 22 жніўня ў Зэльве.

Традыцыя ўшанавання памяці Л. Геніюш нарадзілася. Надышоў час зрабіць наступны крок — стварыць мемарыяльны музей Л. Геніюш у Зэльве ў доме па вул. Савецкай, 7, дзе прайшла апошняя чвэрць веку паэткі, дзе былі напісаны большасць яе пасляваенных вершаў і ўспаміны «Споведзь».

Запрашаем дзяржаўныя структуры і грамадзянскія арганізацыі прыняць удзел у гэтай пачэснай справе.

**Людміла ПЕЦІНА,**
**старшыня Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі;**
**Галіна ДЗЯГІЛЕВА,**
**мастацкі кіраўнік тэатра «Зніч»**

# «ТАМ БРУІЦЦА ЛАНЬ...»

— такую назву атрымала свята ў вёсцы Чудзін на Ганцаўшчыне. Прысвячалася яно вядомаму фалькларысту і этнографу Аляксандру Сержпутоўскаму, 130-годдзе з дня нараджэння якога адзначае сёлета Беларусь.

Аляксандр Казіміравіч на пачатку дваццатага стагоддзя займаўся вывучэннем вуснай народнай творчасці беларускага Палесся. Ён сабраў шмат цудоўных палескіх казак, запісаў народныя звычаі, абрады. Зноў і зноў ён вяртаўся ў Чудзін, непадалёк ад якога на хутары правёў дзяцінства.

У свяце прынялі ўдзел кандыдат філалагічных навук У. Касько, які займаецца вывучэннем навуковай спадчыны А. Сержпутоўскага, паэт Алесь Каско, які нарадзіўся ў Чудзіне.

Цэлы дзень гучалі са сцэны Дома культуры чудзінскія казкі, народныя песні, прыпеўкі, загадкі, прымаўкі, прыказкі. Лялечны тэатр Ганцавіцкай дзіцячай бібліятэкі паказаў казку «Пану навука», якая запісана А. Сержпутоўскім у Чудзіне і стала шырока вядомай у Беларусі.

**Т. ВАЛУЕВІЧ**

# «ЕЎРОПА НОСТРА» Ў ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ



Фонд «Еўропа Ностра» аб'ядноўвае больш за 200 няўрадавых арганізацый у галіне рэстаўрацыі з 29-ці краін. Штогод «Еўропа Ностра» праводзіць конкурс на лепшую рэстаўрацыю. Летась ганаровым дыпломам было адзначана 16 аб'ектаў, і сярод іх — перліна беларускага дойлідства: Мірскі замак.

Каб уручыць узнагароду, нашу краіну наведаў генеральны сакратар «Еўропа Ностра» спадар Лестэр Барлей. Цырымонія адбылася ў адрэстаўраванай частцы Мірскага замка. У ёй бралі ўдзел міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка, намеснік міністра культуры і друку Г. Бураўкін, аўтар праекта рэстаўрацыі Д. Бубноўскі, госці з Польшчы, спецыялісты, непасрэдна занятыя на рэстаўрацыі замка, прэса.

Спадар Барлей гаварыў аб культурным адзінстве Еўропы, аб тым значэнні, якое надае «Еўропа Ностра» захаванню архітэктурнай і прыроднай спадчыны, паляпшэнню навакольнага асяроддзя.

П. Краўчанка выказаў надзею, што праз два гады ў Міры можа адбыцца міжнародны (найперш, еўрапейскі) фестываль, прысвечаны гэтаму замку. Думка, мяркую, цікавая, але для яе рэалізацыі трэба давесці да ладу не толькі сам замак, але і наваколле. Бо сённяшні Мір — гэта звычайнае беларускае мястэчка з усімі праблемамі, уласцівымі глыбінцы. Але калі падысці да справы з розумам, Мір можа стаць цэнтрам культуры і турызму.

Ды ўсё гэта — мары. Пакуль што самая надзённая праблема — далейшае фінансаванне рэстаўрацыі.

**В. БОГУШ**

ЛіМ
ЧАСАПІС

# ДА ВЕРАСНЁЎСКАГА «ГАРОХУ»

**Ці не на самае закрыццё шаснаццатага сезона прыпала прэм'ера «Прынцэсы на гарошыне» Х. К. Андэрсана ў Магілёўскім абласным тэатры лялек у пастаноўцы Мікалая Андрэева. Ён да ўсяго выступае і аўтарам інсцэніроўкі знакамітай казкі, запрасіўшы ў свой пастановачны хаўрус кампазітара Авеніра Вайнштэйна ды аднаго з патрыярхаў беларускага лялечнага мастацтва, вядомага мастака (дарэчы, аднаго з заснавальнікаў Магілёўскага абласнога тэатра лялек) Леаніда Быкава. У спектаклі заняты Г. Барысава, Н. Віктарава, Г. Лазуціна, Н. Суворава ды У. Тэвасян з М. Сцешыцам. Па ўсім відаць, менавіта «Прынцэса на гарошыне» распачне своеасаблівы рэспубліканскі тэатральны фестываль «Лялька» ў верасні, — прынамсі, выпрабоўваць трываласць магілёўскай «гарошыны», а то і дзяліць яе збіраецца ўжо шмат хто з лялечнікаў Беларусі. Мо менавіта яна зробіцца адметным прызам лепшаму тэатру?**

# НАМ ЗАСТАЕЦЦА ... «ПАМЯЦЬ»

**З'явілася чарговая, дванаццатая па ліку кніга гістарычна-дакументальнай хронікі «Памяць». Калі раней яны выходзілі ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, дык гэтая, прысвечаная Жыткавіцкаму раёну, пабачыла свет у выдавецтве. Увогуле, падобныя кнігі — а іх запланавана сто трыццаць — будуць выпускаць многія дзяржаўныя выдавецтвы.**

**Пра гэта гаварыў на прэзентацыі згаданых кніг у Доме кнігі кіраўнік арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні гістарычна-дакументальных хронік «Памяць» А. Петрашкевіч.**

**Цяпер на дарозе да чытача яшчэ дванаццаць хронік. Адзінаццаць з іх выйдуць сёлета. Калі ў першых кнігах у асноўным расказвалася пра ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, тых, хто стаў ахвярамі фашызму, а пра падзеі сівой мінуўшчыны часам гаварылася мімаходзь, дык цяпер у хроніках больш шырокі часавы ахоп матэрыялу. Ды і асэнсаванне падзей пазбаўлена ідэалагічнай афарбоўкі. Змяшчаюцца спісы тых: хто стаў ахвярамі сталінізму, загінуў у Афганістане.**

# ДАЛУЧЭННЕ ДА ВЫТОКАЎ

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры працуе выстаўка «Фальклор — духоўная спадчына народа». У экспазіцыі — рэдкія бібліяграфічныя выданні па фальклоры, сабраныя Янкам Саламевічам, даследаванні, напісаныя ў розны час навуковымі супрацоўнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, аўтографы З. Даленгі-Хадакоўскага...**

**Што да аўтографаў, дык на выстаўцы можна пазнаёміцца і з аўтографам песні, запісанай М. Гарэцкім ад маці. Яна, як вядома, была слынная спявачка, ведала нямала твораў песеннага фальклору. М. Гарэцкі ў свой час многія з іх запісаў і ў 1928 годзе выдаў зборнік «Народныя песні з мелодыямі». На выстаўцы і прадстаўлена адна з гэтых песень. А поруч — тканы пояс і вышываны ручнік — таксама сведчанне таго, наколькі таленавітым чалавекам з'яўлялася Е. Гарэцкая: гэтыя рэчы яны выткала ўласнаручна.**

**Ёсць на выстаўцы і этнаграфічныя замалёўкі старэйшыны нашай нацыянальнай графікі Анатоля Тычыны. Яны былі перададзены музею ўдавой майстра.**

# У МАСКВУ... БЕЛАРУСКУЮ

**запрашае ў другім нумары часопіса «Беларуская мінуўшчына» Г. Прыбытка. Яго артыкул «Беларуская Масква» ўяўляе сабой кароткі праваднік па сталіцы суседняй дзяржавы, што дазваляе пазнаёміцца з тымі месцамі Масквы, якія так ці інакш маюць дачыненне да Беларусі.**

**У нумары публікуюцца таксама артыкулы А. Сувалава «Ідэалогія і гісторыя» (пра стаўленне ідэалогіі да беларускай гістарычнай навукі з 1917 да канца 40-х гадоў), А. Дзярновіча «Адносіны Вялікага княства Літоўскага з нямецкімі дзяржавамі ў канцы XV — першай палове XVI ст.», працяг «Гісторыі Беларусі: год за годам» Г. Сагановіча, вершы Цёткі, палемічныя нататкі Р. Лазько «Хто ж знішчыў «Грамаду»?»**

**Уладзімір Анісковіч («Вялікаму караблю...») запрашае наведаць Нацыянальны архіў. Друкуюцца старонкі з дзённікаў В. Гарбука «Горыч і сум», артыкул У. Канановіча «Шляхецкая дэмакратыя», нататка З. Яцкевіча «Віленская археаграфічная» (у сувязі са 130-годдзем з дня ўтварэння Віленскай археаграфічнай камісіі), шэраг матэрыялаў, прысвечаных 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

Пошта

# МАЛПАВАННЕ — ЗАНЯТАК НЕ БЯСКРЫЎДНЫ

Наша мова багатая народнымі параўнаннямі. Частка іх — каля дзвюх тысяч запісаў — трапіла ў асобны раздзел трэцяга выдання «Беларускіх прыказак, прымавак, фразеалагізмаў» (склаў Ф. Янкоўскі). Ёсць тут і параўнанні, што асуджаюць розныя заганы чалавека, але таго, чаго я шукаў, на жаль, не знайшоў. Зусім не збіраюся папракаць выдаўцоў кніжкі — проста з адной нагоды мяне зацікавіла такая адмоўная людская якасць, як малпаванне.

... 12 сакавіка маскоўскія «Известия» паведамілі, што Інстытут расійскай мовы РАН падтрымаў прапанову дырэктараў Інфармацыйных праграм тэлебачання і радыё Расіі аб вяртанні да ранейшых найменняў шэрагу гарадоў, былых аўтаномій і дзяржаў блізкага замежжа (зноў — Белоруссия, Татария, Алма-Ата і г. д.). «Речь идет о защите русского языка как национального достояния», — рэзюміраваў дырэктар згаданага інстытута.

Шчыра кажучы, мяне трохі здзівіла такая выснова: няўжо новае напісанне паўтара дзесятка ўласных імён сапраўды пагражае вялікай і магутнай? Але гэта справа перш-наперш саміх яе носьбітаў. Супакойвала і тое, што тутэйшыя рускамоўныя газеты, прынамсі, падпарадкаваныя ўраду, не сталі (цьфу-цьфу!) чапаць назву нашай краіны, замацаваную Канстытуцыяй. Аднак жа, калі падцэнзурнае Нацыянальнае радыё Малдову, напрыклад, зноў пачало «велічаць» па-беларуску Малдавіяй, дык не абурыцца было цяжка. За апошнія гады мы ўжо прызвычаіліся да новага (для нас) наймення, больш арганічнага, як мне здаецца, для нашай мовы, чым старое. Але справа не столькі ў гэтым, колькі ў тым, што ў нас займаюцца самаўніжэннем матчынага слова.

Хто і чаму вырашыў, што Дзяржтэлерадыё суверэннай краіны павінна па моўных пытаннях падпарадкоўвацца дырэктывам чужаземных дырэктараў? У нас жа ёсць уласны акадэмічны Інстытут мовазнаўства, які, відаць, і павінен сказаць сваё важкае слова. Нядрэнна пачуць адказ і на такое пытанне: калі, дапусцім, старыя найменні некаторых гарадоў, рэспублік і дзяржаў лепей адпавядаюць граматычным і гукавым законам нашай мовы, чым новыя, дык чаму ў свой час мы адмовіліся ад ужывання першых і перайшлі да другіх? Ці не таму, што ўладу маючыя пільна сочаць за маскоўскім флюгерам, каб дакладна ведаць, куды дзьме вецер?

Дарэчы, некаторыя незалежныя выданні Расіі, радыё «Свабода», іншыя замежныя сродкі масавай інфармацыі па-ранейшаму называюць краіны СНД, прынамсі, Беларусь, у адпаведнасці з іх Асноўнымі Законамі.

Яшчэ нядаўна здавалася, што сляпое перайманне ўсяго таго, што «там» дзеецца ў розных сферах жыцця, адышло ў гісторыю. А вось і не. Пракамуністычная наменклатура са сваімі падпявaламі зноў бярэцца за старое. Характэрна, што капіраванне ўсходняга суседа — узяць тую ж гісторыю з выкарыстоўваннем вышэйзгаданых найменняў — часцяком робіцца, каб дагадзіць палітычнай кан'юнктуры, падыграць збанкрутаванаму ўраду, які выступае супраць беларускасці, праводзіць русіфікатарскую палітыку. Яго кіраўніку В. Кебічу, пэўна, не даюць спаць лаўры знакамітага аўтара брашуры «Марксизм и вопросы языкознания». Інакш ён не ўмешваўся б у дужа спецыяльную галіну навукі, не рабіў бы па тэлебачанні, мякка кажучы, сумнiўныя заявы наконт таго, што «Русский и белорусский язык — это единый язык».

Калісьці Ф. Дастаеўскі ва ўводзінах да сваіх «Критических статей» пісаў: «лакей обезьянничает их (паноў. — **Г. Л.**) манеры, замашки». Гэта быццам сказана і пра тых сённяшніх нашых чыноўнікаў і іх памагатых, хто надта стараецца, каб беларусы нічым не адрозніваліся ад «старэйшага брата», былі рахманымі, не мелі нацыянальнай самасвядомасці. Калі ж перафразаваць выказванне пісьменніка, дык, відочна, атрымаем параўнанне, якога не стае ў кнізе Ф. Янкоўскага — «малпуе, як лёкай». Гэта дакор і таму наменклатуршчыку з Дзяржтэлерадыё ці з самога Дома ўрада, які ўзяў пад казырок, даведаўшыся пра рашэнне трох расійскіх дырэктараў.

І няма тут аніякага згушчэння фарбаў, як можа сяму-таму здацца, бо малпаванне, асабліва на палітычным узроўні, зусім не бяскрыўдны занятак. Яно зневажае не толькі годнасць чалавека, але і ўсю нацыю. Я ўжо не кажу пра тое, што будаваць незалежную дзяржаву без самастойнага мыслення — значыць, узводзіць паветраныя замкі.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

# ПЕРАКРЫЖАВАННІ ЛЁСАЎ

На Пастаўшчыне ў г.п. Варапаева жыве дачка вядомага беларускага селекцыянера І. Сікоры — Лідзія Іванаўна Сікора. Вельмі цікавы лёс у гэтай жанчыны, на яе жыццёвым шляху было шмат незабыўных сустрэч.

... У 1937 годзе, калі ёй ішоў 21-ы, яна ўпершыню прыехала ў Вільню наведаць малодшага брата, які займаўся ў Землямерным вучылішчы. У інтэрнаце па вул. Полацкай, 9 ён жыў разам са студэнтам агранамічнага факультэта універсітэта Адамам Дасюкевічам. У гэты дзень усе разам вырашылі пайсці ў кіно. А ў 1940 годзе Лідзія Іванаўна выйшла замуж за А. Дасюкевіча, які быў старшынёй Беларускага студэнцкага саюза, прымаў актыўны ўдзел у палітычным руху хадэкаў (хрысціянскіх дэмакратаў) Беларусі, працаваў у рэдакцыі газеты «Беларуская крыніца». Жылі сціпла, але шчасліва. Толькі іх шчасце не было працяглым: у 1943 годзе ў Паставах А. Дасюкевіч быў расстраляны гітлераўцамі, там, на старых могілках горада, яго магіла. У Лідзіі Іванаўны захаваўся дыплом агранома універсітэта Стэфана Баторыя А. Дасюкевіча, выданы 15 студзеня 1939 года, N 186.

Стрыечным братам яе мужа быў А. Станкевіч — лідэр БХД. Цудам захавалася фота А. Станкевіча з надпісам, якое ён падараваў Л. Сікоры ў першы дзень 1944 года: «Дарагой, горам прыгнечанай, Лідзе; ад таго, хто ёй шчыра спагадае і хто заўсёды гатоў быць ёй успамогай. Вільня, Кс. Ад. Станкевіч. 1.1.1944».

... У далёкім 1937 годзе адбылося яшчэ адно знаёмства. У тым жа самым інтэрнаце здымаў пакой падчас сваіх гастроляў у Вільні М. Забэйда-Суміцкі. Загадчыца інтэрната Марыя Іосіфаўна Шутовіч аднойчы пазнаёміла маладых людзей, якім наканавана было сустрэцца яшчэ не раз.

Неяк ужо пасля смерці мужа Л. Сікора пачула па радыё імя спевака і яго пражскі адрас. Вырашыла напісаць і атрымала адказ. Бачыліся апошні раз у 1944 годзе ў Вільні. Пасля аднаго з канцэртаў, на якім Лідзія Іванаўна не здолела стрымаць слёз, спявак прызнаўся, што ён не мог спяваць: «Дзе ты, маё шчасце? У якім мне краі-полі на твой след напасці?..»

На фатаграфіі, якую падараваў Л. Сікоры ў той вечар М. Забэйда-Суміцкі, ёсць надпіс: «Даражэнькай сяброўцы Лідзе Дасюкевіч на добры ўспамін. М. Забэйда. Вільня, 5.V.1944».

Гады маладосці нагадвае яшчэ адно фота, на якім яе муж — А. Дасюкевіч (у акулярах), у цэнтры М. Забэйда-Суміцкі, за спеваком — Максім Танк...

**І. ЗЯМЧОНАК**

*г. п. Варапаева*



# МАКЕТ ЁСЦЬ — МУЗЕЯ НЯМА

Будынак гэты стаіць у Віцебску даўно. Ён — помнік прамысловага дойлідства XIX стагоддзя. Занядбаны, напаўразбураны, не цешыў ён людское вока.

А сёння люба-дорага глянуць на яго: адрамантаваны, пафарбаваны, з пералівамі аконных вітражоў, ён нібы запрашае не толькі паглядзець на сваю зграбнасць і абноўленасць звонку, але і зайсці ў яго, каб даведацца, што схавана за прыгожымі сценамі.

А за сценамі яго ўжо каторы год вядуцца рэстаўрацыйныя работы, мяняецца планіроўка, каб сваё месца занялі тут экспанаты абласнога літаратурнага музея. І трэба аддаць належнае будаўнікам «Віцебскбелрэстаўрацыі», якія зрабілі ўсё магчымае для аднаўлення будынка, мастаку-афармічелю з Мінска У. Кандрацьеву — аўтару экспазіцыі першага паверха музея, аўтару сцэнарыя экспазіцыі музея С. Казловай, яго супрацоўнікам. Усе яны дамагаюцца хутчэйшага адкрыцця музея і робяць усё, што залежыць ад іх, для гэтага. Як кажуць, спяць і бачаць урачыстыя мінуты яго адкрыцця.

Ды, на жаль, і наяве і ў сне можна ўбачыць толькі пакуль што цудоўны макет экспазіцыі будучага музея — адзінага такога ў рэспубліцы. У пастанове ж пасяджэння навукова-метадычнага савета Віцебскага краязнаўчага музея запісана адкрыць музей да 1 ліпеня гэтага года.

Не атрымаецца — з горыччу даводзяць супрацоўнікі музея. Няма сродкаў для ўвасаблення макета ў экспанаты. А сродкі для набыцця экспанатаў з Мінска, Масквы, былых рэспублік запатрабуюцца, безумоўна, і не малыя. Дзе іх узяць? Упраўленне культуры аблвыканкама ўклала іх у рэстаўрацыю будынка, у макеты і г. д., значныя і пакуль што дадатковымі не валодае. У Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь таксама няма, бо музей жа лічыцца а б л а с н ы м! Дзіўнаватая, скажам так, пазіцыя: можа, ужо і Віцебская вобласць адышла пад Смаленскую?..

Што ж рабіць у такой сітуацыі? Закансерваваць будынак і тое, што ўжо зроблена і знаходзіцца ў ім? Ці не атрымаецца тут, як у прымаўцы, што скупы плаціць двойчы?

А адкрыццё літаратурнага музея стала б знамянальнай падзеяй не толькі для горада, бо, як ужо зазначалася, ён будзе адзін такі ў Беларусі і мяркуецца называцца ў далейшым музеем літаратуры і пісьменства.

Я знарок не хачу знаёміць чытачоў са сцэнарыем музея: усе могуць зайсці ў яго (г. Віцебск, праспект Фрунзе, 13), пацікавіцца макетам, планіроўкай, даведацца аб задумках яго супрацоўнікаў і выказаць свае думкі і ўражанні публічна. Мне хочацца сказаць наступнае: такі музей патрэбен быў Віцебску і вобласці даўным-даўно, бо гэтая зямля спрадвеку славілася асветнікамі-прапаведнікамі свайго народа, літаратарамі еўрапейскага маштабу. Славіцца яна і сувязямі з пісьменнікамі блізкага замежжа. Тут сляды Пушкіна, Успенскага, Лажэчнікава, Дэльвіга...

Мне вельмі блізкая ідэя супрацоўнікаў музея паказаць СЛОВА, увасобіць яго як бы матэрыяльна праз розныя формы падачы і паказу, як бы ўкласці ў яго не толькі семантычнае значэнне, а і матэрыю, да якой можна дакрануцца.

Супрацоўнікі будучага (калі ён будзе!) музея, усе літаратары вобласці звяртаюцца з вялікай просьбай да ўсіх уладных структур — гарадскіх, абласных, рэспубліканскіх: дапамажыце адкрыць літаратурны музей. Зрабіце так, каб будынак на пр. Фрунзе, 13 не быў прывідам музея, а сапраўдным музеем літаратуры і пісьменства. Хаця б першы паверх змог прыняць у хуткім часе (пра ліпень ужо няма гаворкі) удзячных наведвальнікаў.

А што іх будзе шмат, сумнявацца нельга. І музей у далейшым саслужыць неацэнную службу і нам, і нашым нашчадкам. У справе выхавання маладых літаратараў, у дапамозе настаўнікам роднай мовы і літаратуры, усім тым, хто цікавіцца літаратурай — «старой» і «новай».

Бо ён будзе працаваць на адраджэнне Бацькаўшчыны.

**Алег САЛТУК,**
**сакратар Віцебскага аддзялення СП Беларусі**

## Лагерныя вароты ў паўнеба

Бывае, аднойчы ўбачыш нешта такое, што зафіксуецца ў памяці на ўсё жыццё...

Ехалі мы неяк па глухіх сібірскіх мясцінах і натрапілі на ўкатаную, але даўно закінутую дарогу. Праехалі колькі там па той дарозе і... знямелі. Вачам адкрыўся сярод лясной глухамані, непралазнай балаціны зусім цалюткі пасёлак з вялізных драўляных баракаў, але... без следу жывога чалавека. Нават калодзеж захаваўся пад стрэшкай. Уздоўж пасёлка цягнуўся калючы дрот. Месцамі ржавая калючка паламалася, яе кавалкі, нібы падвешаныя за хвост гадзюкі, гайдаліся пад ветрам.

— Лагер, — сумна ўздыхнулі мае спадарожнікі. — Былое гулагаўскае ўладанне.

Асабліва мяне ўразілі вялізныя, сплеценыя з дзябёлых лясін, густа перавітыя ржавым дротам лагерныя вароты. Вароты ў пекла. Столькі гадоў прайшло, а ў мяне і зараз яны перад вачыма, іх журботная песня — рып... рып...

# ГУЛАГ — КРАЙ ЛЮДСКОГА АДЧАЮ І ПАКУТЫ...

## Ці былі лагеры ГУЛАГа на Беларусі?

Калі я пры сябрах успамінаю гэтую жахлівую карціну, некаторыя пачынаюць мяне супакойваць: «Кінь ты нудзіцца! Гэта ж тыповы расійскі малюнак і расійская гісторыя. У нас, на Беларусі, дзякуй богу, лагераў не было...»

Сапраўды, нават у самыя жахлівыя 30-я гады на Беларусі гулагаўскіх лагераў не было. 6 лістапада 1929 года была прынята пастанова, паводле якой вязні, асуджаныя да трох год пазбаўлення волі, адбывалі пакаранне ў сваёй рэспубліцы, а на тэрмін звыш гэтага накіроўваліся ў лагеры АДПУ СССР, галоўным чынам у Расію. Санкцыі крымінальных кодэксаў таго часу былі настолькі жорсткімі, што нават за не вельмі цяжкае злачынства, як правіла, давалі не меней 10 гадоў зняволення.

У 30—40-я гады меліся перасыльныя турмы і лагеры ў Мінску, Віцебску, Магілёве, Слуцку, Гомелі, якія былі здольны адначасова ўтрымліваць не менш чым 15—20 тысяч асуджаных. Тэрмін знаходжання этапіруемых у беларускіх перасыльных турмах і лагерах мог цягнуцца ад некалькіх гадзін да некалькіх месяцаў, але ўсё ж ён быў не працяглым, у сярэднім складаў 12—14 сутак.

Мяркуючы па дакументах, пакутнікі з Беларусі адбывалі тэрміны зняволення ў наступных расійскіх лагерах ГУЛАГа: Архангельскім, Дзмітраўскім, Варкуцінскім, Пячорскім, Котласкім, Салікамскім, Сяміпалацінскім, Томскім, Асінаўскім, Марыінскім, Кузнецкім, Краснаярскім, Тайшэцкім, Енісейскім, Магаданскім, Усурыйскім і іншых. Таму ГУЛАГ — гэта факт гісторыі ўсяго СССР.

## З гісторыі ГУЛАГа

Сістэма ГУЛАГа арганізацыйна афармлялася больш за трынаццаць гадоў. Першыя канцэнтрацыйныя лагеры ў Расіі паявіліся ў часы грамадзянскай вайны. Вясной 1919 года УЦВК РСФСР прыняў пастанову аб лагерах прымусовых работ, якія ўтвараліся ва ўсіх губернскіх гарадах і ў некаторых паветах. Паводле гэтай пастановы, канцлагер у жніўні 1920 года адкрыўся і ў Мінску. Паступова складвалася і сістэма кіраўніцтва месцамі зняволення. Спачатку яны падпарадкоўваліся тром ведамствам — ВЧК, НКУС, НКЮ. 25 чэрвеня 1922 года была прынята пастанова аб перадачы гэтых месц у падпарадкаванне аднаму органу — Народнаму камісарыяту ўнутраных спраў РСФСР. Затым прайшла доўгая чарада рэарганізацый і перайменаванняў органаў кіраўніцтва месцамі зняволення: спярша гэта быў ГУМЗ — Галоўнае ўпраўленне месц зняволення, затым ГУППУ (Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных установ), а пасля — ГУППЛ (Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў). 7 красавіка 1930 года было выдадзена Палажэнне аб лагерах Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення СССР і ўтворана Галоўнае ўпраўленне лагераў —жахлівы ГУЛАГ, які Салжаніцын трапна ахрысціў архіпелагам. Так, сапраўды, гэта быў цэлы архіпелаг.

У пасляваенныя гады, у сувязі з рэарганізацыяй органаў дзяржаўнай бяспекі, ГУЛАГ быў перададзены ў падпарадкаванне Міністэрства юстыцыі СССР. Восенню 1956 года было вырашана рэарганізаваць лагеры ГУЛАГа ў папраўча-працоўныя калоніі з перадачай іх у падпарадкаванне Міністэрства ўнутраных спраў СССР. На гэтым і завяршаецца афіцыйная гісторыя маркотнага ГУЛАГа.

## Дзе і для чаго ўтвараліся лагеры ГУЛАГа?

Галоўны прынцып стварэння лагераў ГУЛАГа —забяспечыць паднявольнай рабочай сілай буйныя будоўлі пяцігодак, дзе выкарыстаць працу вольнанаёмных грамадзян было складана. Гэта — лесанарыхтоўкі, будаўніцтва новых заводаў, электрастанцый, руднікоў, чыгунак, якія ўзводзіліся ў мясцовасцях, значна аддаленых ад населеных пунктаў. Для ўзору спашлёмся на гісторыю сумнавядомага Дубраўлага. У 1929 годзе ў лясах Мардовіі для патрэб Масквы была арганізавана масавая нарыхтоўка дроў. Спачатку тут працавалі камсамольцы-добраахвотнікі. Але драўніны патрабавалася ўсё больш і больш, таму іх неўзабаве замянілі вязнямі-крымінальнікамі. Пачынаючы ж з 1937 года ў лагерах Поцьмы і Яваса паявіліся першыя палітычныя зняволеныя. Сярод іх была жонка былога камандуючага Беларускай ваеннай акругі Е. Убарэвіча, жонка маршала М. Тухачэўскага, тут быў расстраляны дванаццацігадовы сын Рыхарда Зорге...

Дубраўлаг уяўляў сабой класічны ўзор сталінскіх месц зняволення. Ад станцыі Поцьма, строга на поўнач, была пракладзена вузкакалейка, справа і злева ад яе, па лясах і балотах, раскіданы лагерныя пункты і аддзяленні. «Сталіца» — пасёлак Явас. У цэнтры Яваса — Упраўленне мардоўскага лагера.

Ляснымі лагерамі, падобнымі як дзве кроплі вады на Дубраўлаг, у даваенныя гады была густа пакрыта ўся еўрапейская поўнач, Урал, Сібір, Далёкі Усход. Толькі ў Архангельскай вобласці дзейнічалі два велізарнейшыя лесанарыхтоўчыя лагеры — Каргапальлаг і Мехрэньлаг.

Шмат лагераў адкрывалася пры буйнейшых прамысловых новабудоўлях і расфарміроўвалася з заканчэннем іх будаўніцтва. Сіламі нявольнікаў ГУЛАГа былі пабудаваны тысячы кіламетраў чыгунак: Котлас — Варкута, ветка на Салехард, Караганда — Балхаш, чыгункі ўздоўж фінскай і персідскай граніц, Тайшэт — Лена (пачатак сучаснага БАМа), чыгунка на Сахаліне, другія ўчасткі Сібірскай магістралі...

Пакутнікамі ГУЛАГа былі пабудаваны электрастанцыі: Куйбышаўская, Усць-Каменагорская, Ніжнетуломская (каля Мурманска), Камская... Вязнямі ўзведзены гарады: Нарыльск, Дудзінка, Северадзвінск, Дубны... Рукамі гулагаўскіх зняволеных пабудаваны Балхашскі меднаплавільны камбінат, Салікамскі папяровы камбінат, Беразнікоўскі хімічны камбінат, часткова Магнітагорскі і Кузнецкі камбінаты, часткова Маскоўскі дзяржаўны універсітэт імя М. Ламаносава...

Асаблівая і найбольш таямнічая старонка гісторыі ГУЛАГа — будаўніцтва аб'ектаў атамнай прамысловасці. Стварэнне савецкай атамнай бомбы ажыццяўлялі два вышэйшыя кіраўнікі: навуковую і тэхнічную частку праекта — І. Курчатаў, арганізацыйнае і матэрыяльнае забеспячэнне — Л. Берыя. Зняволеныя ГУЛАГа ўзводзілі звышсакрэтныя гарады, якіх і сёння няма на картах, здабывалі радыеактыўныя элементы — уран і радый, працавалі на заводах па выпрацоўцы цяжкай вады, на многіх іншых строга сакрэтных аб'ектах атамнай прамысловасці.

Рукамі вязняў дабываліся апатыты на Кольскім паўвостраве, плавікавы шпат на Амдарме, многія рэдкія металы.

Нават па пералічаных аб'ектах (а гэта толькі частка зробленага вязнямі) можна ўявіць: у 30—50 гады ГУЛАГ быў дзяржавай у дзяржаве, імперыяй у імперыі.

## Беламорканал — новабудоўля тачкі і кайла

Першай буйной самастойнай новабудоўляй у гісторыі ГУЛАГа быў Беламорканал. Сёння многія, трымаючы ў руках пачкі папярос са схемай Беламорканала, амаль нічога не ведаюць пра гэтую сумнавядомую будоўлю 30-х гадоў. А. Салжаніцын прыводзіць такія параўнанні: Панамскі канал даўжынёю ў 80 кіламетраў узводзіўся 28 гадоў; Суэцкі канал даўжынёю ў 160 кіламетраў — 10 гадоў, Беламорска-Балтыйскі даўжынёю ў 227 кіламетраў быў выкапаны нявольніцкай рыдлёўкай ўсяго за... дваццаць месяцаў. І гэта на поўначы, праз лясы і балоты, без экскаватараў, трактароў, на адной ручной працы. Нездарма людзі дасведчаныя называюць Беламорканал будоўляй рыдлёўкі, тачкі і кайла. Каб выканаць каласальныя аб'ёмы работ, на будаўніцтве канала адначасова працавала 100 і больш тысяч зняволеных. А. Салжаніцын у сваім вядомым «Архіпелагу ГУЛАГу» прыводзіць успаміны былога прараба аб умовах працы на канале: «Пасля рабочага дня на трасе застаюцца трупы. Снег запарошвае іх твары. Нехта скурчыўся пад перакуленай тачкай, глыбока засунуўшы рукі ў рукавы, і так замёрз. Там замерзлі двое, прыхінуўшыся адзін да другога спінамі... Ноччу едуць сані і збіраюць трупы. Вазніцы кідаюць іх на сані з драўляным грукатам. А ўлетку ад непрыбраных трупаў — ужо косці, яны разам з галькай трапляюць у бетонамяшалку».

Наступным стаў Волгаканал (1936 г.). На гэты раз зняволеныя капалі канал глыбінёй больш 5 метраў і шырынёй у 85 метраў. Ізноў усе земляныя работы выконваліся пры дапамозе кіркі, рыдлёўкі, тачкі, на нішчымнай баландзе, пад вінтоўкай стралка. У 1952 годзе быў выкапаны нявольнікамі трэці канал — Валгадон...

## Злы геній Нафталій Фрэнкель, які падаў Сталіну ідэю ГУЛАГа

Хто ж той злы геній, які прыклаў свой чорны талент для стварэння ГУЛАГа — краю адчаю і непамерных людскіх пакут? Па думцы А. Салжаніцына і другіх даследчыкаў, такім злым геніем быў Нафталій Аронавіч Фрэнкель, турэцкі яўрэй, чалавек дзівосных паваротаў лёсу. Нарадзіўся ён у Канстанцінопалі. У Марыупалі заснаваў фірму і хутка стаў мільёншчыкам. У яго былі параходы і нават уласная газета. Перад рэвалюцыяй удала перавёў свае капіталы ў Турцыю і, здавалася, тым забяспечыў сабе бязбеднае жыццё. Але нейкая сатанінская сіла зноў пацягнула Фрэнкеля назад, ужо ў чырвоную Расію. У часы НЭПа ён вяртаецца ў СССР і стварае біржу па скупцы каштоўнасцей і золата. Яго, па законах тых смутных часоў, арыштоўваюць і адпраўляюць у страшэнны Салавецкі лагер. Але і на Салаўках здатны да камерцыі Фрэнкель не разгубіўся. У лагеры ён адкрыў майстэрні па вырабе скур і пашыву з іх цудоўнай галантарэі, якая прадавалася ў Маскве ў спецыяльнай краме, а выручка паступала ў касу Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення. Камерцыйныя справы Фрэнкеля пайшлі настолькі паспяхова, што яго асобай зацікавіліся вышэйшыя ўрадавыя колы. І тут здарылася неверагоднае: з Масквы за зняволеным Фрэнкелем прыляцеў спецыяльны самалёт, каб даставіць яго на прыём да самога... Сталіна. Аб чым раіўся Сталін з вязнем Фрэнкелем — гэта назаўсёды застанецца тайнай, бо ні стэнаграм, ні жывых сведкаў той патаемнай крамлёўскай размовы не засталося. Вядома толькі, што Фрэнкель прапанаваў Сталіну кардынальны план перабудовы месц зняволення, які прывёў у захапленне правадыра народаў. Сталіну настолькі даспадобы прыйшоўся і сам Фрэнкель і яго план, што ён тут жа, у ходзе размовы, прызначыў яго, вязня, на адказнейшую пасаду — начальнікам будаўніцтва ўсяго Беламорканала. За Беламорканал Фрэнкель атрымаў волю, ордэн Леніна і генеральскую пасаду — начальніка будаўніцтва БАМЛага, на які было ўскладзена завяршэнне пракладкі другіх шляхоў Сібірскай чыгункі. Але ў грозным 1937 годзе хваля рэпрэсій не абмінула і генерала НКУС Нафталія Фрэнкеля — ён зноў быў арыштаваны і пасаджаны ў турму. Але і на гэты раз яму казачна пашанцавала. Пачалася няўдалая для СССР вайна з Фінляндыяй, якая выявіла адсутнасць надзейных шляхоў зносін з ваюючай арміяй, што загрузла ў карэльскіх снягах і балотах. Сталін з турмы выклікае Фрэнкеля і ставіць перад ім неверагодную задачу: зараз жа, зімою, без усякай папярэдняй падрыхтоўкі, не маючы ні складоў, ні аўтамабільных дарог, усяго за тры месяцы пабудаваць тры чыгункі: адну ракадную (уздоўж фінскага фронту) і дзве для зносін тыла з ваюючай арміяй. Фрэнкель паабяцаў Сталіну сіламі вязняў пабудаваць за тры месяцы тры чыгункі, але выканаць задумку не паспеў, бо скончылася фінская кампанія.

Пасля фінскай вайны Фрэнкель застаўся ўзначальваць ГУЛЖД — Галоўнае ўпраўленне лагераў чыгуначнага будаўніцтва, неабсяжную гулагаўскую імперыю, заснаваную на паднявольнай працы. Па ацэнцы А. Салжаніцына, Фрэнкель быў чалавекам выключных здольнасцей, які свой геній прысвяціў нядобрай справе — ГУЛАГу. Узначальваючы буйнейшыя будоўлі, ён ніколі не меў у сваім штаце галоўнага інжынера, самыя складаныя інжынерныя праблемы паспяхова вырашаў сам. Быў нізкага росту, любіў насіць чыгуначную генеральскую папаху, фрэнч ваеннага пакрою. Як і Троцкі, Фрэнкель гадамі жыў у спецыяльным поездзе, на якім матляўся па сваіх чыгуначных лагерах, раскіданых па неабсяжных абшарах Расіі. Памёр у 50-я гады ў Маскве ў чыне генерал-лейтэнанта.

## Фрэнкелеўская ідэя ГУЛАГа

Але вернемся да першай сустрэчы Фрэнкеля са Сталіным. Як можна меркаваць па далейшым падзеям, на сустрэчы ў цэнтры ўвагі была адна праблема — як прымусіць знясіленага нявольніка ГУЛАГа прадукцыйна працаваць. «Голадам!» —адназначна выказаўся Фрэнкель і прапанаваў памеры лагернага пайка вызначаць у залежнасці ад працэнта выканання вытворчай нормы. Па прапанове Фрэнкеля вязні ГУЛАГа былі падзелены на чатыры групы: А, Б, В, Г. Група «А» — вязні, якія выкарыстоўваліся на асноўнай вытворчасці. Група «Б» — вязні, якія працавалі на аб'ектах, не аднесеных да асноўнай вытворчасці, групы «В» і «Г» — непрацуючыя вязні: слабасільныя (дахадзягі), адмаўленцы ад работы, хворыя, пасаджаныя ў карцэр і г. д. Сэнс падзелу вязняў на групы заключаўся ў тым, што кожная група атрымлівала свой харчовы паёк, ці, па-лагернаму, «кацёл». «Катлы» ў кожным лагеры падлічваліся па-свойму, але ў аснове падліку — група, да якой належаў зняволены, і працэнт выканання ім вытворчай нормы. А. Салжаніцын прыводзіць наступныя звесткі аб «катлах» Краслага часоў вайны: пры выкананні нормы менш чым на 30 працэнтаў — кацёл карцэрны: 300 грамаў хлеба і міска баланды на дзень; ад 30 да 80 працэнтаў — штрафны: 400 грамаў хлеба і дзве міскі баланды; ад 80 да 100 працэнтаў — вытворчы: 500—600 грамаў хлеба і тры міскі баланды. За перавыкананне нормы ішлі «катлы ўдарныя»: 700—900 грамаў хлеба і ў дадатак адна або дзве міскі кашы.

## «Сухія расстрэлы»

Нормы выпрацоўкі ў лагерах былі настолькі высокімі, што зняволеныя называлі іх «сухімі расстрэламі». На лесапавале дзённая норма — пяць кубаметраў драўніны на вязня. Гэта азначала: пілой-лучкай патрэбна дрэвы спілаваць, адсекчы галлё, сабраць яго і спаліць, камлі разрэзаць на патрэбныя памеры, на сабе іх выцягнуць да агульнага штабеля і саштабеляваць. Хто калі-небудзь працаваў у лесе, той разумее, што гэта за аб'ём работы. І так кожны дзень, на баландзе, на пайцы хлеба. Па ўспамінах Шаламава, самы фізічна моцны зняволены за сезон лесапавала даходзіў да знямогі, станавіўся знявечаным інвалідам-калекам. Інвалідаў, па фрэнкелеўскай сістэме, пераводзілі на паніжаны «кацёл»... Таму ў лагерах бывалыя вязні сумна зазначалі: «Зводзіць у магілу не малая пайка, а вялікая». Смяротнасць у лагерах ГУЛАГа была непамернай. Па справаздачах НКУС СССР за 1934—1937 гады, у лагерах ГУЛАГа штогод памірала ад 20 да 28 тысяч чалавек. У перадваенныя і ваенныя гады смяротнасць узрастала галапіруючымі тэмпамі: у 1938 годзе загінула больш за 90 тысяч, у 1941 годзе — больш за 100 тысяч чалавек. Пік лагернай смяротнасці прыходзіцца на 1942 год, калі толькі па афіцыйных звестках у лагерах ГУЛАГа загінула 248 тысяч 877 чалавек, у 1943 годзе — 166 тысяч 967 чалавек. У наступныя гады (да 1947 года ўключна) смяротнасць у лагерах складала ад 18 да 60 тысяч чалавек штогод. Але на гэтую маркотную статыстыку ніхто ў той час не звяртаў аніякай увагі. Галоўнае для лагера — вытворчы план, усё іншае «спісвалася» выкананнем, а яшчэ лепш — перавыкананнем вытворчых паказчыкаў. За перавыкананне планавых заданняў лагерная адміністрацыя атрымлівала ўрадавыя ўзнагароды — ордэны і медалі, грашовыя прэміі, пазачарговыя званні, павышэнні па службе. Жыццё вязня ў тыя змрочныя часы расцэньвалася, як «лагерны пыл», бруд, смецце, што не мела аніякай каштоўнасці. А. Салжаніцын спасылаецца на формулу Фрэнкеля: «Вязень карысны для дзяржавы першыя тры месяцы, пасля таго ён нікому не патрэбны».

## Таямніцы і архіўныя знаходкі

Людзей заўсёды будзе цікавіць: колькі ж гаротнікаў прайшло праз ГУЛАГ? Абагульняючыя звесткі аб колькасці лагерных вязняў дакладна не вядомы і сёння. Гэтая змрочная статыстыка надзейна схавана ад людскіх вачэй у закрытых архівах і архіўных фондах. Працуючы працяглы час у мясцовых і цэнтральных архівах Расіі, сярод фондаў і спраў, якія ніякага дачынення не мелі да органаў дзяржаўнай бяспекі, я неспадзявана натыкаўся то на даведкі аб іх рабоце, то на стэнаграмы допытаў, то на чэкісцкія рапарты, то на балючыя лісты-звароты гулагаўскіх пакутнікаў у вышэйшыя інстанцыі з надзеяй адшукаць справядлівасць і абарону.

Але найбольш пашанцавала навукоўцу В. Зямскому, які ў грамадзянскіх архівах адшукаў, як гэта ні дзіўна, значную частку гулагаўскай дакументацыі і, што асабліва каштоўна, з абагульняючымі звесткамі аб рабоце сістэмы ГУЛАГа і яго асобных падраздзяленняў.

(Працяг на стар. 12)

страчвае празрыстасць задумы, лёгкасць успрымання. Калі б размова ішла пра раман у навелах, дзе кожная частка мае свайго героя і характарызуецца пэўнай ідэйна-фармальнай завершанасцю, нагаданыя вышэй якасці былі б у той ці іншай ступені апраўданыя. Перад намі ж, калі нават адштурхоўвацца ад назвы, раман лёсу, разгорнутая гісторыя жыцця і кахання яго і яе, дзе, безумоўна, ёсць трэці і іншыя, сярод якіх гэтыя двое знаходзяцца, працуюць, радуюцца, плачуць, гнуцца, выпростваюцца, страчваюць, знаходзяць. Якраз яны, Іван Адамавіч Гаркуша і Зоя Пятроўна, Мікалайкава ўнучка, змяняючы адзін аднаго, і вядуць рэй, няпростую бяседу пра тое, як яны пазнаёміліся, пабраліся, як заваёўвалі права кахаць.

Так паступова, нягледзячы на ўжо адзначаную загрувашчанасць дзеяння, наперад усіх пытанняў, над якімі б'ецца аўтарская думка, выходзіць роздум пра лёс чалавека, долю яго. Як жа разгадаць, «ці яна Богам наперад нам наканаваная, доля наша, пуцявіна адзіная, простая ці пакручастая, як каму пашанцуе; ці, можа, сама ты ўсё жыццё і снуеш яе, і тчэш долю сваю, — як тое палатно, што не перад табою, мабыць, сцелецца, а за табою, бо яго ж пасля яшчэ і беляць — на роснай траве ды на сляпучым снезе пад весну. Пісьменнік уважліва сочыць і падрабязна перадае ўсе душэўныя зрухі сваёй гераіні, шчыра спачувае ёй. І калі Гаркушу ён характарызуе пераважна праз учынак, дзеянне, сутыкненні з іншымі персанажамі, то Зою Пятроўну — больш праз адчуванні, настрой, думкі, проста выраз твару, «ціхі сум... з яе чароўных «месячных» вачэй», адкрытасць споведзі, не прапускаючы магчымасці ўсумніцца ў неабходнасці яе самаахвярнасці дзеля гэтага дзіўнага памочніка ляснічага. «Як у багне, завязла ў Гаркушы, дык няўжо ж не магла яна сабрацца з духам, тузануцца з усіх сіл і вырвацца на волю?».

Але дзе яна, тая бабская воля? Мабыць, па-рознаму, зусім інакш разумеюць яе, як і долю наогул, мужчына і жанчына. Часцей за ўсё першы, увасабляючы розум,развагу, будуе, вызначае сваё жыццё сам. Другая, кіруючыся пераважна інтуіцыяй, прымае лёс як наканаванне, як штосьці, пасланае звыш. Інакш можа не змірыцца з ім, шукае, прыкідвае нешта, але няма ўпэўненасці, што яно будзе лепшым. Бо гуляючы з лёсам, нядоўга і разгневаць яго, здробніць, і тады ты атрымаеш толькі частку, д о л ю яго. Але чаму ж так ные душа, чаму не пакідае іншы раз маркота? Зоя сама ведае адказ: «Калі б жа дзеўка аднаго розуму слухалася, а то ж ёсць і сэрца...».

Бадай, як і кожнаму з нас, гераіні давялося шмат перажыць. І ўсё-такі лёс літасцівы да яе: ён падараваў ёй такое адданае і незвычайнае, як і сам Гаркуша, каханне. Канешне, яно было б лепш, каб давялося пражыць лягчэй, у нармальных умовах, не горбячыся ў лесагадавальніку, не задыхаючыся ад тарфяных бураў, што сталі звыклай з'явай на асушаным Палессі. Але лёс не любіць пераборлівых, патрабуе катэгарычнага адказу: або быць побач з тым, хто кахае цябе, узамен прымаючы пэўныя цяжкасці, або шукаць нечага лягчэйшага, толькі ўжо без асаблівай надзеі атрымаць сапраўдныя — таму што каханнем народжаныя — падтрымку, клопат і боль за цябе. Што перад імі юнацкае захапленне аднакласнікам, да якога гарнулася і які не пойдзе, нават не паспрабуе пайсці супраць волі бацькі, каб парадніцца з Мікалайкавым адроддзем, а пасля толькі і будзе гаварыць аб загадкавай жыццёвай драме Зоі і шматзначна ўздыхаць? Што перад каханнем Гаркушы жаданне Лёшкі Гамона яшчэ раз паласавацца маладой ды прыгожай, скарыстацца разгубленасцю дзяўчыны?

Не, што ні кажыце, а ён, Іван Адамавіч Гаркуша, застаецца непераўзыдзеным. Клапатлівы муж, прыроджаны лесавод, сумленны чалавек. Мікалайкава закваска! Гэта, калі замест таго, каб галадаць, на раскарчаваных самім жа дзялянках проса пасеяць; замест таго, каб лапці насіць, сябе і вяскоўцаў у боты абуць, садраўшы скуру і хоць як абрабіўшы яе з забітай немцамі жывёлы; гэта ўмець кожную ўладу перахітрыць, не даючы сябе ў крыўду, гэта ўпэўненасць у тым, што кожны павінен сабе жыццё ўладкоўваць, а астатняе — жаночыя сантыменты. Зыходзячы з такіх мерак, не дацягвае наш герой да Мікалайкавага тастаменту, хоць ім і колюць вочы Гаркушу. Уменне пажартаваць, арганічнае непрыманне ўсякай несправядлівасці, некаторая рэзкасць характару — пагроза толькі для пыхлівых, для тых, хто звык ціха і бесклапотна сядзець на ўтульных месцах, пускаць іншым пыл у вочы, гуляць у дэмакратыю. Ён можа сапсаваць, здавалася б, ідэальна падрыхтаваную паказушную касьбу на чале з першым сакратаром ЦК, змяніць прадстаўлены зверху план пабудовы газаправода, які пагражае яго лесу. Гэта за ім, сваім лесам, не бачыць Гаркуша белага свету. І лес прызнае яго за свайго. Нават апавядальнік, які не выяўляе да героя асаблівых сімпатый, вымушаны згадзіцца з гэтым. Як, скажам, у дадзеным урыўку: «Так ён расказваў мне даўнюю боль, а сам заставаўся ў сваім лесе, жыў кожную хвіліну яго жыццём. Прывідна слізгануў на прагалку імгненны цень, і Гаркуша ўскінуў галаву — доўга сачыў, які напроці сонца, у бялёсай паўдзённай смузе, кружыў ледзь бачны ястраб. А пасля нешта жаўтлявае невыразна мільганула ў сасонніку, і Гаркуша спружыніста нахіліўся набок — усмешкаю прыжмураных вачэй правёў хвастатага ліса. Потым, абхапіўшы рукамі калені, гэтак жа ўсмешліва цікаваў за мурашом на рукаве. Лес, з яго дрэвамі і звярамі, птушкамі і кузуркамі, быў, несумненна, Гаркушавай стыхіяй...». Хочацца дадаць — як і самога пісьменніка. Наогул, пейзажныя замалёўкі ствараюць адметную лірычную настраёвасць рамана, асабліва выдаюць у аўтары паэта. На маю думку, якраз у прозе М. Кусянкоў выявіў сябе лірыкам у большай ступені, чым ва ўласна паэзіі. Такую раскошу прыродных апісанняў у сучаснай літаратуры пасля В. Казько, В. Карамазава сярод маладзейшых можна сустрэць хіба толькі ў А. Кажадуба, Х. Лялько. Мабыць, сапраўды трэба не проста назіраць, а і ведаць, адчуваць, нарэшце, жыць гэтымі лесам, пасівелай пушчай, векавым гушчаром, каб заўважыць, што «А ў ім ля кожнай смуглае чарнічкі — Як рыцар з востраю шпагаю — камар» або «Здалёк відаць — на шыі ў мухамора, Нібы ў сеньёра, белае жабо» («Дуброва»).

У арыгінальнай сказавай кампазіцыі твора, шматгалосай, даверліва-размоўнай, але, на жаль, са шматлікімі паўтарэннямі, вобраз лесу выконвае своеасаблівую аб'яднальную функцыю.

Самому апавядальніку (аўтар не хавае біяграфічнай супрычыненасці да ўсяго, што адбываецца ў творы) застаецца толькі занатоўваць сказанае героямі. І таму мы маем магчымасць зрэдку слухаць яго самога, успрымаць фарбы і гукі яго лесу, уважлівым зрокам, чуйным слыхам назіраць за яго прыгодамі, пададзенымі без усялякай самазадаволенасці, больш іранічна і нават бязлітасна ў адносінах да самога сябе. Узяць хоць бы скасаванне Гаркушам-практыкам яго, таксатара з адукацыяй, летняй працы па вымярэнню паўнаты лесу. Але і тут не столькі асабістая крыўда душыць апавядальніка, колькі жаданне нібыта зрушыць з п'едэсталу апантаную зацятасць гаркушызму наогул. А як жа, «за паўлета столькі сапсаваў мне Гаркуша крыві — адно здзеклівым пацвельваннем, а цяпер і гэтае трызненне, гэтая фантасмагорыя, — ён забракаваў маю работу! Але ж мне з ім не векаваць, а яна ж, Зоя, усё сваё жыццё прынесла яму ў ахвяру!..»

Можна ўзгадаць і цудоўна выпісаную карціну палескай карыды з племянным чорным бугаём, што аднолькава бясслаўна закончылася як для двух міжвольных яе ўдзельнікаў («Яшчэ не апамяталіся мы з ляснічым ад перажытага, а Гаркуша, выстаўляючы ў наш бок здзіўлены твар — так нечакана, бач, кінулася яму ў вочы, што мы за канаваю, па-езуіцку здзекліва спытаў: «А як вы там апынуліся?» так і для самога віноўніка, вымушанага здацца пад націскам умелых дзеянняў каморніка і таго ж Гаркушы («... магутна ўспароўшы рогамі, лбом і эратычна чуйнай пысаю проціleглы адхон, бугай бездапаможна абсунуўся ўніз, у гразкую канаву. На міг здалося: нейкая рагатая пачвара, што вякамі жыла ў бяздоннай палескай багне, раптам зірнула з яе на белы свет залепленымі тарфяной крошкай дагістарычнымі вочкамі»).

Здаецца, у эпілогу і пасляслоўі аўтар канчаткова адкрывае забрала, прамым тэкстам гаворыць пра школу змрочнай філасофіі свайго героя, сфармуляванай коратка: «Усё ідзе на пагібель». Ён імкнецца аспрэчыць яе, марыць пра нейкі магчымы і небывалы поспех на незабруджанай радыяцыяй тэрыторыі Беларусі, зноў развенчвае і адмаўляе ўбогі гаркушызм, жадаючы вывесці яго на чыстую ваду. Толькі не ўдаецца яму падмануць уважлівага чытача, замяніць, лічыце, на вачах плюс на мінус, прадставіць героя антыгероем і наадварот, хоць ён быццам стараецца давесці: «Як не быў, так і не быць яму героем... Кожны час выбірае сабе ў героі таго, хто найбольш яму дагаджае, такіх ён узнімае на п'едэстал і ўзносіць да нябёс, таму калі той, нядаўні мінулы час не прызнаў і адрынуў Гаркушу, дык, можа, яго прызнаў сваім героем час цяперашні?.. Наўрад...».

Нават гэтыя ўяўныя сумненні, а лепш сказаць, свядомыя хітрыкі, не дадаюць веры словам пісьменніка. Чаму? Ды таму, што ён цалкам на баку свайго героя, што сам прыхільнік практыкі, а не мёртванароджанай тэорыі, ці хоць бы іх разумнага саюзу. Пры роздумах над раманам не пакідае думка пра тое, што апавядальнік умела (той з чытачоў, хто звыкла прытрымліваецца толькі слова, можа паддацца спакусе і прыняць напісанае за праўду) парадзіруе нядаўні лжэпафас літаратуры, яе выглянцаваных герояў. А сам ён, тым не менш, захапляецца шчыра апантаным Гаркушам, духоўным братам Ігната Сцяпанавіча Вапшчэткі, бо ўпэўнены: свет трымаецца не на чынадральстве, не на лесазаводах, не на страху перад пагібеллю, не на нахабстве, а на адданай, як у явара з калінаю, любові, на веры ў справядлівасць і прыгожую долю.

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

*г. Гомель*



Віншуем!

# З ФРАНТАВОЙ КАГОРТЫ

## Міколу ЛУК'ЯНАВУ — 70

Яшчэ школьнікам я з захапленнем чытаў раманы «Як гартавалася сталь» і «Народжаныя бурай» Мікалая Астроўскага. Мяне ўражвала, як гэта можна, каб зусім сляпы мог напісаць такія кнігі. Пазней ужо даведаўся і пра іншых пісьменнікаў, якія страцілі зрок. Аднак усё гэта прыгадвалася, уяўлялася неяк адасоблена ад жывога, канкрэтнага мастака. Пакуль само жыццё не сутыкнула з такім творцам.

Неяк у бытнасць сваю рэдактарам «Магілёўскай праўды» пазваніў мне В. Бярбега. «Тут да мяне трапіў рукапіс аповесці Мікалая Лук'янава, — кажа. — Можа, зацікавіць?»

Не сказаць, каб гэтае прозвішча прагучала для мяне ўпершыню. Калі вёў куток гумару і сатыры ў той жа «Магілёўскай праўдзе», падрыхтаваў да друку дасланую М. Лук'янавым гумарэску. Ведаў, што ён былы партызан, франтавік. А тут — аповесць. Яшчэ я ведаў, што М. Лук'янаў родам з таго ж Кіраўскага раёна, адкуль і В. Бярбега, а калі было, каб зямляк не паспрыяў земляку?

Таму, шчыра кажу, узяў рукапіс хутчэй з ветлівасці, загадзя прыкідваючы, як гэта далікатней, каб не пакрыўдзіць, растлумачыць аўтару... Тым больш, што аўтар аказаўся зусім сляпым, зрок страціў на фронце.

Аднак атрымалася, можна сказаць, неверагоднае. Аповесць, якая затым атрымала назву «І цемра адступіла», я прачытаў без перадыху, яна мяне быццам страсянула, героі, нібы жывыя, сталі ўваччу... Галоўны герой аповесці — Павел Янкевіч — вясковы хлопец, які страціў зрок на фронце. Але не скарыўся лёсу, не апусціў рукі, вучыцца, працуе... Адчувалася, што многае аўтар узяў з уласнага жыцця.

Нарадзіўся М. Лук'янаў у невялікай вёсцы Лешчанка. Вучыўся спачатку ў сельскай школе, затым у райцэнтры, дзе скончыў дзесяцігодку. Калі пачалася вайна, у армію не ўзялі: гадоў бракавала. Падаўся ў партызаны, быў параненены. Ачысцілі ад акупантаў родныя мясціны, пайшоў у дзеючую армію, стаў «пэтээршчыкам» — першым нумарам супрацьтанкавага ружжа. Ужо блізка была перамога, калі з-за цяжкага ранення страціў зрок.

Ды не паддаўся роспачы, вучыўся, пачаў настаўнічаць у вячэрняй школе на Бабруйскім камбінаце сляпых. У 1968 годзе быў абраны старшынёй абласнога праўлення Таварыства сляпых, якое ўзначальваў больш дваццаці год. Мікалаю Піліпавічу прысвоена званне заслужанага работніка сацыяльнага забеспячэння рэспублікі.

Знаходзіў М. Лук'янаў час і для творчай працы. Неўзабаве яго невялікія апавяданні, гумарэскі пачалі з'яўляцца ў перыядычным друку. І вось — аповесць «І цемра адступіла», якая была спачатку змешчана ў часопісе «Маладосць», а потым выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У 1992 годзе ў часопісе «Маладосць» была надрукавана другая аповесць М. Лук'янава — «Яго боль». Галоўны герой яе зноў жа былы партызан, франтавік — Іван Рыгоравіч Перагуд. Пасля вайны закончыў інстытут, працаваў начальнікам цэха на металургічным заводзе. І вось, ужо хворы, ён едзе ў родны пасёлак, у тыя мясціны, дзе некалі партызаніў.

Прымушаюць перажываць, хваляваца чытача, а часам і паспрачацца з аўтарам і апавяданні М. Лук'янава, напісаныя з глыбокім веданнем жыцця, з цёплым лірызмам. Хоць бы «Сэрца дзявочае», змешчанае ў калектыўным зборніку «Дняпроўскія хвалі» (Магілёў, 1993 г.).

У сталым узросце М. Лук'янаў: Міколу Піліпавічу — 70. Хочацца верыць, што ён парадуе нас сваімі цікавымі творамі.

**Іван АНОШКІН,**
**сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# «УСЕ ПАЭТЫ — ДОБРЫЯ ХЛОПЦЫ»

## ПРА ПАЭТА І ШАХЦЁРА ЛЕАНІДА ЯКУБОВІЧА

Ад лета 1970 добра-такі пастарэў дом пад старой бярозай, які быў пабудаваны і яго рукамі. Малады сад, пасаджаны ім, таксама пастарэў. Ліхі віхор, што пранёсся тут, разадраў папалам самую прыгожую яблыню.

Шмат зморшчынак дадалося на твары Лёневай мамы, адной-адзінай у гэтым доме. Марудна, цяжкавата яна ходзіць, прыгнечаная за гэтыя амаль чвэрць стагоддзя не толькі часам, але і страшным горам.

Змянілася і сама вёска Радкава, што стаіць на скрыжаванні многіх дарог за некалькі кіламетраў ад Салігорска. Якраз пад вёскай праходзіць шахта другога рудніка «Беларуськалія». Таму дамы апусціліся ніжэй, з'явіліся трэшчыны, і будаўнікі бясплатна іх рамантуюць і рамантуюць, нават ставяць металічныя сцяжкі на сценах і па вуглах.

У сямідзесятыя гады па доўгай вуліцы Радкава спяшаўся раніцай і вечарам на працу ў шахту юнак, шахцёр і паэт Леанід Якубовіч. А ў тую трагічную раніцу 8 чэрвеня 1970 года Лёня не ішоў, а бег на працу па роднай вуліцы, бо змена пачыналася ў шэсць гадзін. Назад ён не вярнуўся. Калі Леанід апусціўся ў клецъ, яшчэ зусім «зялёная» дзяўчына-аператар прамарудзіла... І адбылося самае страшнае.

Невялікі зборнік Л. Якубовіча «Я з вамі, вёсны...» выйшаў праз дзесяць гадоў, у 1979 годзе ў «Мастацкай літаратуры». У прадмове Ніна Мацяш пісала: «Балюча гаварыць пра чалавека ў мінулым часе. Тым пакутней, што гэты чалавек — Леанід Якубовіч — быў маім блізкім другам». «І ўсё ж ён з намі — Леанід Якубовіч — трошкі наіўны, часцей удумліва-засяроджаны, шчыры і сціплы, усмешлівы і сур'ёзны», — працягвала яна.

Леанід Якубовіч любіў родную Беларусь. Ёй прысвяціў ён радкі:

**О Беларусь! Старонка дарагая,**
**Мне без цябе — як дрэву без вады...**

Пасля заканчэння сярэдняй школы Лёня працаваў паштальёнам, быў залічаны ў штат рэдакцыі газеты «Шахцёр». Вучыўся завочна на факультэце журналістыкі. Але жыццё прымусіла пайсці ў шахту, яна зусім побач з яго родным Радкавам. Па вечарах пісаў вершы. Пісаў удумліва, паволі, быў патрабавальны да сябе і сваёй творчасці. Наракаў: «Як мала я пішу! Аж страшна». Але планаў у паэта было шмат. Але...

Мне часта з сям'ёй даводзіцца ездзіць у Радкава. Адтуль родам мая жонка Валянціна Раманаўна. Там ужо зусім апусцеў бацькоўскі дом. А стаіць ён па суседстве з домам Л. Якубовіча, дзе жыве маці паэта Наталля Несцераўна. Яна ў сталым веку, але ўсе паранейшаму называюць яе Наташай. Калі прыязджаю, сустракае на вуліцы і заўсёды пытаецца: «Слава, можа, там, у Мінску, бачыў каго з паэтаў, можа, Васіля Жуковіча бачыў?»

Шмат добрых слоў заўсёды чую з вуснаў Наталлі Несцераўны ў адрас Васіля Жуковіча, Ніны Мацяш, журналіста і паэта з Салігорска Аляксея Кур'яна і іншых. Гэта яны тады многае зрабілі, каб зборнік яе сына ўбачыў свет.

Пасля выхаду зборніка Л. Якубовіча я па просьбе Наталлі Несцераўны пісаў пісьмо ў «Літаратуру і мастацтва» са словамі ўдзячнасці паэтам, яно было апублікавана. Прывозіў Наталлі Несцераўне з Мінска добры дзесятак экземпляраў — ёй і іншым жыхарам Радкава.

Добра памятаю Леню. Ён вылучаўся падцягнутасцю, акуратнасцю, культурай паводзін, гаворкі з людзьмі. Мы кожны год прыязджалі з сям'ёй у адпачынак з Далёкага Усходу, дзе я тады служыў афіцэрам.

Бацька маёй жонкі Раман Данілавіч Петуховіч (пражыў ён 89 гадоў) вельмі пяшчотна гаварыў пра Лёню. «Добры хлопец Лёня», — часта паўтараў дзед Раман. І дадаваў: «Усе паэты — добрыя хлопцы».

Вечарамі яны разам сядзелі на лавачцы, што на вуліцы ля веснічак. Дзеду Раману было што расказаць. А Лёня слухаў яго моўчкі, не перабіваючы. Рамана Данілавіча ў 1937 годзе як «ворага народа», зусім малапісьменнага калгасніка, схапілі на досвітку і павезлі на матацыкле ў Слуцк. Там судзіла, як і сотні іншых, знакамітая «тройка». «Ні за што, ні пра што», — гаварыў дзед Раман. Недзе на стайні штосьці сказаў супраць калгаса. Дзесяць гадоў у Сібіры будаваў чыгунку. Вярнуўся ў 1947 годзе без адзінага зуба. Лёня, магчыма, напісаў бы пра лёс суседа дзеда Рамана, але ў той час пра гэта нельга было рота адкрыць...

Жыве ў вёсцы Радкава, што на Салігоршчыне, маці паэта Лёні Якубовіча. Як патрэбны ёй, адной-адзінай у доме, цёплыя словы і дабрыня, асабліва ў гэтыя цяжкія дні. Стаяць увушшу яе горкія словы: «Забыліся на мяне ўсе, забыліся, ніхто і не праведае...»

**Станіслаў ФЯНЬКО,**
**афіцэр у адстаўцы**

*г. Мінск*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## У ДОБРЫ ЧАС — ДОБРАЙ ДАРОГІ!

**Калі сабраць усе кніжкі, якія напісалі і выдалі літаратары, навукоўцы, журналісты, настаўнікі, работнікі культуры — ураджэнцы Уздзеншчыны, можна скласці цэлую бібліятэку. Нездарма гавораць пра гэты раён: «Там у хату зойдзеш — пісьменніка знойдзеш».**

**У нейкай меры сказаць так даюць падставу і зборнікі «Зямля мая, край маляўнічы», «Край мой там, дзе Нёман льецца», што на працягу года пабачылі свет у друкарні гарадскога пасёлка Узда.**

**У першай кніжцы звыш васьмі дзесяткаў вершаў, баек, фельетонаў членаў літаб'яднання «Нёманец» пры рэдакцыі раённай газеты «Чырвоная зорка» і раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы. Самы малады аўтар — Зоя Сімагасціцкая. Яе паэтычныя радкі па-дзіцячы шчырыя. Вядома, надрукаваны і вершы «старэйшын», чые творы дзесяткі год не сыходзяць са старонак раёнкі — Аляксандра Гладкіх, Паўла Махнача, Яўгеніі Беразоўскай, а таксама Мікалая Караля са славутай літаратурнай вёскі Нізок, дзе нарадзіліся Кандрат Крапіва, Паўлюк Трус, Лідзія Арабей. Сваёй лірычнасцю падкупляюць вершы Валянціны Рогач-Сукманавай, Зоі Калкоўскай. Гэта самае можна сказаць і пра вершы Віктара Сабалеўскага, Анатоля Каралецкага, Іны Гетманчук, вершы якіх надрукаваны ў зборніку.**

**У другой кніжцы «Крах мой там, дзе Нёман льецца», якая толькі што выйшла з друку, звыш паўтары сотні твораў прозы, паэзіі 84 аўтараў — амаль уся літаратурная Уздзеншчына. «Пачаткоўцы побач з класікамі» — так назваў свой уступны артыкул да кніжкі кіраўнік літаб'яднання Віктар Сабалеўскі, які з Клаўдзіяй Рогавай склаў гэты зборнік. У ім сабраны творы пра родны край, пра кожнага аўтара дадзена кароткая біяграфічная даведка. Мастацкае афармленне зрабілі Мікалай Старавераў і Уладзімір Буднік. Фота — Міхася Булата.**

**Кожная кніжка выйшла тыражом 999 паасобнікаў.**

**Напярэдадні 500-годдзя першага ўпамінання Узды ў старадаўніх дакументах, якое ў мінулым месяцы ўрачыста адзначалася ў раёне, былі падведзены вынікі закрытага конкурсу на лепшы літаратурны твор, прысвечаны Уздзеншчыне. Вышэйшую ацэнку атрымаў верш настаўніцы Цялякаўскай сярэдняй школы Валянціны Рогач-Сукманавай «Цудоўная старонка».**

**Хочацца пажадаць маладому літаратурнаму пакаленню Уздзеншчыны: «У добры час — добрай дарогі!».**

**Ал. МАХНАЧ**

## «ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў ІЛЮСТРАЦЫЯХ»

**Міхася Чарняўскага, які запар у некалькі нумарах публікуецца ў часопісе «Маладосць», выклікала вялікую цікавасць у шматлікіх чытачоў. У наступным годзе гэты багаты ілюстраваны матэрыял па гісторыі нашай Бацькаўшчыны маецца выйсці асобнай кнігай. Парупілася аб гэтым выдавецтва «Народная асвета». Увогуле, у планах «НА» на наступны год шэраг і іншых выданняў, якія зацікавяць самага шырокага чытача. У прыватнасці, выйдзе зборнік гісторыка-біяграфічных нарысаў пра жанчын «Слава і няслаўе», аўтарамі якога з'яўляюцца І. Масляніцына і М. Багадзяж. Героі кнігі — Барбара Радзівіл, Соф'я Слуцкая, Ганна Кобрынская, а таксама Марыя Мнішак, расійская імператрыца Лізавета Пятроўна, якія, аказваецца, маюць дачыненне, да Беларусі.**

**Пра нацыянальны характар беларусаў на падставе этнаграфічных, фальклорных, літаратурных, філасофскіх і іншых крыніц разважае ў кнізе «Таямніцы народнай душы» Э. Дубянецкі. Дарэчы, яна, як і згаданыя нарысы М. Чарняўскага, выходзіць у серыі «Гэта ты, мая Беларусь».**

**Павінны пабачыць свет «Займальная геаграфія Беларусі» С. Адзінцова і С. Сідора, «Янка Купала: новы падыход» У. Гніламёдава, калектыўны зборнік «Урок літаратуры ў школе».**

**Г. Каржанеўская і М. Яфімава склалі кнігу для пазакласнага чытання ў першым-другім класах «Акрайчык». У серыі «Беларуская мова: гісторыя і сучаснасць» перавыдаецца факсімільна «Граматыка беларускае мовы. Фанетыка» Я. Лёсіка...**

## «ЗРОК» ПРАПАНУЕ...

**У пятым нумары грамадска-палітычнага і літаратурна-мастацкага часопіса «Зрок» — пачатак запісаў М. Капыловіча «Чарнобыльскія пустэльнікі», нарыс Х. Крываноса «Айцец Уладзімір Хіраска» (пра аднаго з ахвяр сталінізму), апавяданне Р. Галіцкага для дзяцей «Чорная рыска», вершы В. Стрыжака, эсэ А. Марціновіча пра М. Забэйду-Суміцкага «Песня стала мовай», артыкул Т. Бяловай «Радасць, якая вяртаецца», чарговы раздзел з «Бойні доктара Аскара» У. Шнарэвіча (зверствы фашыстаў)...**

Паэзія

Мікола КУПРЭЕЎ



## ЯМА Ў КАНЦЫ XX СТАГОДДЗЯ

**Па чыгунцы стагоддзя гудзе
і грыміць аграмада,
і я свой вагон прычапіў
да пачвары праклятай,
кідае ў бакі мой вагон, і за намі масты
рушацца з грукатам страшным
у бездань.**

**Так мы ў чэраве той аграмады ляцелі,
ды пад гарой на крутым павароце
ўзарваліся рэйкі,
і ўпаў мой вагон у глыбокі адхон,
і душа раз'ядналася з целам.**

**У крыві і асенняй гразі
я сабраў сваё цела
і паклікаў душу —
яна з поля азвалася ціха,
я на голас пайшоў —
пад халодным кустом трымцела,
шэпча: ў неба хацела —
цяжкія грахі не пусцілі.**

**Зноў душу я ўдыхнуў у сябе,
астудзіў ёю горла
і прыйшоў па разбітай дарозе
назад на радзіму,
пад вокнамі дзедавай хаты
палын вырас горкі.
І брыду я з рыдлёўкай
на ўзлесак счарнелы і дзікі.**

**Капаю, капаю —
стукаю ў камень рыдлёўкай,
капаю, камень і камень, капаю.
Раптам шэрая мышка-палёўка
глядзіць на мяне пад рукамі.**

**Стукаю ў камень, капаю.
А яна з-пад карэння, камення
так на мяне паглядае
маленькімі бубкамі-вочкамі.**

**Кінуў рыдлёўку, прысеў перад ёй —
не ўцякае,
вочкамі быццам пытае:
«Вярнуўся? вярнуўся?..
У норках маіх —
зернейка, зернейка,
хопіць нам на дваіх»...**

**Ля Ямнага выкапаў яму,
накрыў дзірваном —
ля сівых курганоў, ля пакінутых хатаў,
схаваўся ў ёй — не чуць і не бачыць,
як трашчыць і гарыць аграмада,
як падаюць рэйкі з неба...
Дзе ж ты, мышка?
Хопіць нам на дваіх.**

## НОЧ ЯНКІ ЮХНАЎЦА

**Калі землякі-эмігранты
спакойна спяць па амерыцы,**

Проза

Лідзія АРАБЕЙ



# ЗА ПАВАРОТКАЮ

АПАВЯДАННЕ

Аўтобус валюхаўся на гурбастай, пакрытай снегам селавой дарозе, і пасажыры валюхаліся разам з ім. Амаль кожны трымаў на каленях сумку альбо кошык, сумкамі, кошыкамі быў застаўлены і праход. Пах бензіну перабіваўся тым асаблівым духам, якім пахла вёска з яе не першай свежасці апраткаю, змесцівам тых сумак ды кошыкаў. Праз натужны гул матора чуўся гоман знаёмых між сабою людзей, а можа, і незнаёмых, якім выпала сядзець побач і надта хацелася выліць душу, хоць і староннямy чалавеку. Асабліва старалася адна цётка — у квяцістай хустцы, закручанай адным рогам вакол шыі, у балоневай куртцы, з вядром, абвязаным белаю анучкаю, якое трымала на каленях. Вольцы яна відаць была са спіны і крыху збоку, бо сядзела наперадзе, толькі і бачыла, што гэту квяцістую хустку, спіну ў балоневай куртцы, вядро, але голас чуўся ледзь не на ўвесь аўтобус, было падобна, цётка наогул забылася, дзе яна, так захапіла яе размова, і амаль увесь аўтобус чуў, якая благая ў яе гарадская нявестка, як не глядзіць дзіцяці, як не ўмее жыць, не шануе грошай і, падумаць толькі, мыць падлогу ўхапіла вялікі чысты ручнік...

Аўтобус выехаў, нарэшце, на шашу, пайшоў гладчэй, матор ужо не надрываўся, а гуў, як пчала, і людзям быццам палягчэла, некаторыя нават пачалі драмаць.

Волька сядзела пры вакне, пакрытым дробненькімі кропелькамі вады, нібы потам — гэта ад гарачыні ў аўтобусе растаў тоненькі налёт марозу. Ён яшчэ крышку трымаўся ў куточках шыбы, але і той на вачах меншаў, сцякаў, быццам слязьмі. За вакном, праз тыя кропелькі поту, быў відзён заснежаны лес, які бег, нібы навыперадкі з аўтобусам, круцілася, як на каруселі, шырокае заснежанае поле. Волька глядзела на ўсё гэта, прывычнае, знаёмае, бачыла і не бачыла яго, бо галаву займала сваё, гэтым разам прыемнае.

Яна ніколі не атрымлівала столькі грошай, як апошнія гады тры. Амаль па дзвесце рублёў у месяц. Каб гэта бачыла яе матка-нябожчыца... Колькі гадоў гнула спіну за адны палачкі-працадні! Арабіла ж, як той вол. Колькі матка спала? Яна, Волька, наогул не бачыла, каб матка спала, уставала — ужо і печ на засланцы, сняданне на камінку, а матка ў калгасе, Клалася спаць, а матка яшчэ ўсё завіхалася. Яна, Волька, цяпер таксама не вылежваецца, устае гадзін у пяць, бяжыць на ферму — кароў даіць. Рукі ў яе — як падэшвы ў канцы лета, калі набегаешся басанож. Гэта толькі словы, што электрадойка, не любяць яе каровы — цыцкі часта націрае да крыві, а то і токам б'е, псуецца часта, і тады рукі выручаюць. Рукі-рукі, колькі работы яны перарабілі за жыццё і колькі яшчэ пераробяць. Але цяпер хоць аддушына, радасць — плацяць няблага. А пры сваёй гаспадарцы, пры сваім агародзе, парсючку ды курах...

І Волька цяпер амаль кожны месяц ездзіць у райцэнтр, кладзе грошы на ашчадную кніжку. Не ўсе, канечне, бо трэба ж і цукру купіць, і хлеба, і панчохі якія, і мыла, ды мала што трэба ў хату. Але добрую палову той палучкі кладзе на кніжку. Раней трымала дома, у шафцы, але добрыя людзі параілі ўсё ж здаваць у ашчадную касу. Волька і сама скора ўбачыла, што гэта выгадна, растуць працэнты, так што лічы дарма за год набягае якая сотня. І цяпер у яе ўжо набралася каля дзесяці тысяч. Можна сказаць — багацце.

Аўтобус пад'язджаў ужо да райцэнтра, зноў загайдала яго па разбітай, з ямамі ды выбоінамі, местачковай вуліцы, за вакном праплывалі ўжо драўляныя, з пафарбаванымі платамі, дамы, прайшла захутаная ў хустку кабета з сумкаю, прабегла дзяўчына — ну зусім як гарадская — у паліто з футровым каўняром і такой самай шапачцы, у спраўных боціках. Ды цяпер такіх дзяўчат нямала развялося, і ў іхнюю вёску прыязджаюць з горада да бацькоў па-гарадскому апранутыя, з моднымі ўчасаннямі, з тым манікюрам. У Стэфчынай Веркі дык нават на нагах пазногці былі пафарбаваныя, убачыла, як тая басанож па вуліцы бегла. Волька вылупіла вочы на тыя пазногці, а Верка толькі засмяялася: «Во дзярэўна, падзікура не бачыла!» І слоў жа навыдумлялі... І гавораць ужо толькі па-руску, сваёй мовы стыдаюцца.

Успомнілася і свая дачка, Таня, і пад сэрца падступілі шкадаванне, непакой. Ой, не таго яна хацела свайму дзіцяці, не таго... А чаго хацела? Каб жа ведаць...

Аўтобус між тым пад'язджаў да цэнтра, за вакном з'явіліся ўжо дамы цагляныя, трох ды чатырохпавярховыя. Меркавалася, што праз некалькі гадоў увесь райцэнтр будзе такі. Ну што ж, горад ёсць горад, але яна, Волька, не хацела б жыць у той цаглянай клетцы, хоць там і вада сама ў хату бяжыць, і дроў не трэба пілаваць ды сячы — паравое ацяпленне. Не, ёй трэба свой, селавы прастор, ды каб рохкаў парсючок у хляве, каб сакаталі куры на двары, каб можна было выкапаць сваю бульбіну, выбраць свой агурок з градкі. А моладзі гэта ўжо не трэба, моладзь на злом галавы рвецца ў горад, ды нават не ў такі во раённы, падавай ім Мінск!

Ды вось і станцыя, таксама новая, цагляная, на месцы таго драўлянага вакзальчыка з маленькай, вечна пракуранай пачакальняй, з дзірачкай у сцяне — вакенцам для касы, ля якой вечна тоўпілася чарга, а на лаўках сядзелі нягоleныя дзядзькі ў ватоўках з папяросамі ў зубах, вечныя цёткі ў хустках, з кошыкамі.

Пасажыры памалу пакідалі аўтобус, і Волька выйшла, дыхнула свежым пасля душнага аўтобуса паветрам. Вельмі скора людзі разбрыліся хто куды, і Волька пайшла па вуліцы, думаючы, ці адразу кіравацца ў ашчадную касу, ці зайсці ва універмаг. Ва універмаг зайсці хацелася, хоць было і боязна — а раптам не вытрывае ды купіць што, патраціць грошы. Але жаданне патупаць каля прылаўкаў, паглядзець, што прадаюць, перамагло, і яна пакіравалася да універмага.

Размяшчаўся ён у цагляным доме, меў два паверхі, на першым прадавалася розная драбяза, на другім — гатовае адзенне. Людзей хадзіла тут няшмат, і Волька ўсё агледзела на першым паверсе — падзівілася на прыгожыя начныя кашулі — але навошта ёй такая кашуля, яна век у такой не спала, калі жывы быў яшчэ Ваня, і то надзявала звычайную, паркалёвую, а цяпер, сплючы адна...

Спынілася каля прылаўка, дзе прадаваліся цацкі. От тут бы ўжо не пашкадавала грошай, купіла б самую дарагую, каб было каму... Няма пакуль у дачкі дзіцяці, і ці будзе... Пры такім мужыку... І зноў падступілі да сэрца непакой, шкадаванне.

Паднялася на другі паверх. Пахадзіла між тых куртак, палітонаў ды плашчоў, прыпынілася каля прылаўка, дзе віселі гатовыя сукенкі. Глянула на ўсе адразу, і вока запынілася на адной. Цёмна-сіняя, шарсцяная, з бліскучымі гузікамі, з каўнерыкам, аздобленым вышыўкаю. І як прыкінула на памер — то акурат на яе

**ціха з ганку паэт**
**у індзейскія сосны сыходзіць.**

**Недзе далёка**
**«клікаюць штодня званы маліцца».***

**Рукою дрыготкаю хрысціцца,**
**скрушную шэпча малітву.**

**— О Божа!**
**Пакутна на гэтай тваёй зямлі —**
**дай жа пакутаў яшчэ**
**і ў вышынях тваіх,**
**дай, о Божа, прытулак апошні**
**ў аблоках.**

**Індзейскія сосны ідуць у ноч.**

**«...да мясцін святых**
**шчэ цягнецца дарога»,***
**да — «малітваслоў забыўся,**
**пакінуў дома на паліцы».***
**І не вярнуцца да пакінутага**
**роднага парога,**
**каб на мове Ефрасінні**
**з радзіму памаліцца.**

**Не прыдзе пакорнік «на узлонь далін»,***
**у моўкнасць камянёў**
**на докшыцкіх палях,**
**у развіненне велікомае**
**крывіцкіх каляін,**
**што кінулі яго на незваротны шлях.**

**— О Божа!..**

**Скронню прынік да сасны —**
**і ў высокім чудзенні ствала**
**чуе верацяна вярчэнне,**
**вочапа скрып, звон даёнкі.**
**І бразнула клямка ў сасне:**
**ён з хаты ў маленства бяжыць —**
**з рук матчыных**
**піць сырадой вячэрні...**

**...Не азірнуўся на ганку туды,**
**дзе маліўся.**
**У пакойчыку свечка патухла ў бажніцы.**
**Амерыка спіць.**

** З верша Я. Юхнаўца.*

## ЗАКЛЯЦЦЕ

**З трыбуны сышлі,**
**на руках мне разбілі ланцуг,**
**на нагах — кайданы**
**і замок знялі з вуснаў.**
**Сказалі:**
**«Ідзі з плугам у поле сваё,**
**з касой — у свой луг.**
**Спявай і крычы**
**што хочаш**
**на мове сваёй беларускай».**

**Зноў на трыбуны ўзышлі.**

**А самі ж**
**рукі мае адвучылі араць і касіць,**
**ногі — шырока і вольна**
**хадзіць гасцінцам,**
**звязалі свабоду па-свойму**
**і думаць і жыць**
**і роднае слова казаць,**
**і маліцца-хрысціцца.**

**Прашу:**
**зноў на рукі ланцуг падаць,**
**вусны замкнуць і ногі**
**скаваць кандаламі,**
**зацягнуць**
**на Незалежнасці пляц —**
**пасадзіць там**
**пад тымі начамі.**
**Стану каменны й халодны, як ён.**
**Будзеце тут святкаваць свае святы —**
**чорны ў яго не кідайце праклён,**
**у выраджэнні сваім**
**я быў сам вінаваты.**

## БЛАКІТНЫЯ КОНІ

**— У нетрах пушчанскіх**
**знайшоў капыты,**
**парослыя мохам зялёным...**

**А як пачую вясною**
**гром малады ў нябёсах —**
**ведаю:**
**там, у вышынях,**
**выкрасаюць агонь капытамі**
**блакітныя коні**
**і за імі грыміць калясніца,**
**і то не аблокі — грывы ляцяць.**

**А хто тымі коньмі правіць**
**і хто ў калясніцы —**
**не ведаю я.**

будзе. Стаяла, глядзела на тую сукенку і адчувала, як няроўна пачынае біцца сэрца. Надта ж харошая сукенка... Пачала шукаць, ці не прышпілена дзе цана, але цэтліка не відаць было, і яна нясмела спыталася ў прадаўшчыцы, расфуфыранай дзеўкі, што стаяла, як вялікая пані, быдта гаспадыня ўсяго дабра, што тут вісела ды ляжала:

— А колькі ж каштуе гэта сукенка?

Прадаўшчыца змерала яе вокам, быдта ацэньваючы саму Вольку і думаючы — адказваць ёй ці не адказваць, потым працадзіла, як скрозь зубы:

— Сто пяцьдзесят рублёў...

Волька ў душы ахнула — так дорага... Але ў кашальку ў яе ляжала сто шэсцьдзесят рублёў, тое, што яна прынесла, каб пакласці на кніжку, так што калі гэтым разам ашчадную касу абмінуць...

Стаяла, думала, а сэрца білася, білася. Можа, папрасіць памераць? Але саромелася прадаўшчыцы. Калі браць ды мераць, а потым не купіць, то яшчэ, чаго добрага, аблае, уголас то можа нічога не скажа, але ў душы... Вунь якая ганарыстая, размаляваная. І ўсё ж не вытрывала, папрасіла нясмела:

— А ці можна яе памераць?

Дзяўчына, нічога не кажучы, зняла з кручка тую сукенку разам з плечыкамі, на якіх вісела, паклала на прылавак. Волька асцярожна, як шкляную, узяла яе, адчуваючы ў руках прыемную мяккасць тканіны, азірнулася, шукаючы прымерачную. Убачыла ў кутку залы кабінку, завешаную шырмачкаю, пакіравалася туды. Адхінула шырмачку і на яе глянула пажылая таўсматая кабета ў хустцы, у караткаватым палітоне, з ружовым і быдта спалоханым тварам, з-пад хусткі выбівалася пасмачка валасоў, на руцэ вісела чорная дарожная сумка, а ў руках нешта сіняе, прыгожае. Гэта ўбачыла яна сама сябе ў люстэрку, што стаяла ў кабінцы і адбівала яе на ўвесь рост.

Не спадабалася сама сабе Волька, не хацелася болей і глядзець на сябе. Павесіла сукенку з плечыкамі на кручок, паставіла сумку і пачала памалу распранацца. Раскруціла хустку, зняла палітон, а далей — адну кофту, другую — апраналася ж цяплей, зіма на дварэ. Сцягнула чорную картовую спадніцу і асцярожна, каб не дай бог не запэцкаць, не падраць, апранула сукенку, зашпіліла ўсе гузічкі, падпяразалася паяском з залатою спражкаю і зноў глянула ў люстэрка. І ажно здзівілася. Перад ёю стаяла зусім іншая жанчына, адкуль што і ўзялося — засінелі вочы, абмаляваўся прывабны стан, аказалася, што яна зусім не тоўстая — умеру выступалі грудзі, умеру абцягваліся сукенкаю клубы. І рукавы аказаліся акурат, і даўжыня. Псавалі выгляд хіба цяжкія разбітыя боты, якія абула ў дарогу, але ж дома ў шафе ляжалі лодачкі, купленыя даўно, але амаль новыя, колькі яна там іх абувала. Уявіла замест ботаў тыя лодачкі — во дзе было б хараство... Цяпер стаяла, любавалася сабою і бура віхурылася ў душы — купіць, не купіць... Надта ж дарагая... І грошай на кніжцы гэтым разам не прыбавіцца...

Але сукенку шкада было нават здымаць, яна скінула ёй ну не менш гадоў дзесяць, не менш чым на дзесяць гадоў памаладзела Волька... І што ж рабіць?..

Яна шморгнула замочкам у сумцы, дастала адтуль кашалёчак, выняла з яго грошы, пералічыла. На сукенку хапала. Але ўявіла, як выйдзе з магазіна з пустым кашальком і ў ашчадную касу не будзе чаго заходзіць, адразу дадому прыйдзецца кіравацца... Але затое з сукенкаю... А куды яна будзе апранаць такое хараство? На ферму, каб каровы любаваліся? Не... Калі ў горад да дачкі паедзе... Ці ў госці да каго... Вечна яна, дзе б ні бывала, то горш за ўсіх апранутая... Але такія грошы... — разрывалася Вольчына душа.

Паволі здымала сукенку, зноў нацягвала на сябе тыя старыя кофты, спадніцу, палітон, закручвала хустку. Ішла да прылаўка і яшчэ не ведала — купіць ці не. Прадаўшчыца нават не глядзела ў яе бок, нібы наперад ведала рашэнне такой пакупніцы. Назлосць ёй хацелася Вольцы сказаць: бяру! Але вусны самі прамармыталі: вузкаватая...

Ні слова не кажучы, прадаўшчыца ўзяла сукенку, павесіла на месца. А Волька спехам, увагнуўшы галаву ў плечы, быдта зрабіўшы толькі што нешта кепскае, патупала па лесвіцы ўніз, выбегла з універмага. І толькі прайшоўшы ўсю вуліцу, якая вяла да ашчаднай касы, пачала супакойвацца.

Праз якія дзве гадзіны яна зноў тым самым рэйсавым аўтобусам, які гэты час адпачываў на станцыі, вярталася дадому. Вокны аўтобуса высахлі ўжо ад поту, і праз іх добра відаць былі і заснежаны лес, і шырокае белае поле, якія беглі цяпер у другі бок, але Волька не бачыла гэтага, бо зноў глядзела сама ў сябе, у сваю душу. Яна ўжо зусім супакоілася і цяпер была давольная, што не купіла той сукенкі. Ну і праўда, навошта ёй цяпер, у яе пажылыя гады, такая сукенка? У маладосці і то без строяў абыходзілася — не было за што купляць, а цяпер... Старой бабцы хораша і ў шапцы. Затое на кніжцы грошай прыбавілася. І, заспакоеная, крыху стомленая за дарогу, Волька, пад мернае гудзенне той пчалы-матора, пачынала драмаць.

Каб хто спытаў у Волькі — а навошта яна збірае грошы, навошта кладзе на кніжку, то яна, можа, і не ўмела б адказаць. Магчыма, прычынаю была спрадвечная сялянская пашана да капейкі, якая давалася цяжкою працаю. Памятала яшчэ з маладосці, як рэдка ў хаце заводзіўся рубель і як берагла яго маці. Памятае, як ім, дзецям, рэдка перападала яйка, хоць па двары хадзілі свае куры — матка ўсё завозіла ў раён на продаж, бо калгас нічога не плаціў за працу, рады былі атрымаць на працадні які пуд збожжа. А колькі ў вёсцы было звадак, сварак за тыя рублі, нават паміж самымі блізкімі людзьмі! Муж хаваў грошы ад жонкі, жонка ад мужа, сын цягаў і ў маткі, і ў бацькі. Грошы здаваліся абаронаю ад усялякіх няшчасцяў, нібы заслона ад бяды. І яшчэ — яны хаваліся на чорны дзень, на старасць, на пахаванне. Хоць Волька і не думала пакуль пра смерць, яшчэ адчувала ў сабе сілы, але, хто ведае, калі надыдзе чорная часіна. А ўрэшце, з сабою ў магілу грошы не забярэ — усё дачцэ застанецца.

Волька ачнулася ад дрымоты, глянула ў вакно. Яна ведала гэтую дарогу на памяць і па заснежаных дахах, што віднеліся за пагоркам, пазнала, што праязджаюць вёску Крыжы, значыць, яшчэ і палавіны шляху не мінулі, яшчэ доўга трэсціся ў аўтобусе.

Калі па дарозе ў мястэчка людзі гаманілі між сабою, варушыліся, то цяпер у аўтобусе амаль усе драмалі, толькі дзве маладыя дзяўчыны ў гарадскім убранні пацíху шапталіся між сабою.

Кароткая дрымота асвяжыла Вольку, яна зручней умасцілася на сваім сядзенні, пачала глядзець у вакно, зноў, аднак, нічога за ім не бачачы. Зноў успомніла сукенку, потым ашчадную кніжку, у якой сёння прыбавілася грошай. Падумала раптам — а колькі цяпер ляжала б у банку яе грошай, каб не тое дурное вяселле? Казала ж дачцэ — калі намерыліся ўжо жаніцца, то давайце дома, у вёсцы справім вяселле. Дык жа не, гэты яе прыдурак упёрся — толькі ў горадзе, у рэстаране. Абяцаў, што і сваю долю грошай дасць, а потым аказалася, што нічога няма ў яго за душою.

Памятае, як першы раз прыехала з ім Таня з горада і аб'явіла, што выходзіць замуж. Хлопец быў высокі, статны, светлавалосы. І дачцэ пара было замуж, пад трыццаць падбіралася. Яна і ў горад з'ехала, бо баялася ў вёсцы застацца старою дзеўкаю, усе маладыя паз'язджалі з вёскі ў горад, засталіся альбо прыдуркі альбо алкаголікі. Дык і там знайшла, і прыдурка, і алкаголіка. Але з першага разу Волька ў ім не разабралася. Прыняла па-людску, бутэльку паставіла, закуску добрую. І хлопец той, Генка, здаўся такім мяккім, ласкавым. То дачку абдыме, пацалуе, то яе, Вольку. Потым выпіў чарку, другую і вочы ў яго быдта шалёныя зрабіліся. Але стаў яшчэ ласкавейшы. І не ведала Волька — радавацца ёй на такога зяця ці бедаваць. А той настойваў моцна, і Танька яму падтаквала — вяселле толькі ў горадзе, у рэстаране. І Волька згадзілася — адна ж дачка ўсяго, каб потым не папракала ўсё жыццё, што матка паскупілася.

Гасцей назбіралася чалавек сорак, Генкавы сябрукі ды нейкая далёкая радня, Таніны сяброўкі, нікога з іх Волька не ведала, а мусіла за свае грошы паіць-карміць. Бацькі Генкавы даўно развяліся, бацька жыў недзе на Украіне, меў другую сям'ю і на сынава вяселле нават не прыехаў, а матка не так даўно памерла і жыў цяпер Генка адзін у аднапакаёвай кватэры. Можа, і гэта аказалася прычынаю, што Таня пайшла за яго замуж, дасюль жыла ў інтэрнаце пры шчотачнай фабрыцы, на якой працавала, дзесяць чалавек у пакоі, ды і гады штурхалі, прымушалі.

Шумела вяселле, іграў аркестр, госці танцавалі, Генка, сп'янелы, з шалёнымі вачыма, бегаў па рэстаране туды-сюды, забыўшыся на маладую жонку.

А потым аказалася, што зяць у гэтым рэстаране афіцыянтам рабіў, ды выгналі яго за п'янства, за тое, што кліентаў абдурваў. І захацелася яму ў тым самым рэстаране пакрасавацца ды паганарыцца — от вы мяне выгналі, а сёння самі будзеце мне прыслужваць.

І прыслужвалі. А Волька ўсё больш адчувала бяду, але назад нічога не пераробіш, і дачка нічога перарабляць не хоча, мусіць, закахалася ў таго Генку і кватэра ягоная тут нічога не важыць.

Беглі за вакном елкі, прысыпаныя снегам, праплывалі голыя бярозкі, праз якія прасвечвала шэрае неба, убок ад шашы пакіравалася дарога і згубілася за пагоркам. У аўтобусе зрабілася душна, і Волька аслабіла хустку на шыі, расшпіліла палітон і зноў задумалася. Прыгадала, як прыязджала летам Таня — высахлая на струк, знерваваная, ела з нейкай сквапнасцю, і Волька падумала, што ў горадзе яна, мусіць, недаядае. Пачала распытваць, як яны там. Спачатку Таня не прызнавалася, а потым залілася слязьмі. Генка нідзе не працуе, п'е, цягае з дому ўсё, што ягоная матка нажыла — тэлевізар прадаў, халадзільнік. Пачынаеш сварыцца, дык заяўляе: не тваё, не ты купляла... Чаму твая матка табе грошай не дае, у яе на кніжцы тысячы... Праўда, не б'е, працверазее — лашчыцца, абдымае, кажа, што больш не будзе піць, а потым ізноў...

Разрывалася душа Вольчына, шкадавала дачку — такая ж дзяўчына была паглядная — рослая, акуратная, што зрабіў з яе горад ды той дурны муж.

— То, можа, кідай яго... Як з такім квасам, то лепш з вадою...

Таня выцерла далонямі слёзы, шморгнула носам.

— А каму я патрэбна буду, адной век векаваць?

— Ну, чаму... Ты яшчэ маладая, знойдзеш яшчэ добрага чалавека.

Таня зазлавалася, але не на матку, а нібыта на ўвесь свет.

— А дзе яны, добрыя? Як гляну, дык усе п'юць, мой хоць не б'е, а другія дык і рукі распускаюць.

Не магла не пагадзіцца з ёю Волька, нешта з народам зрабілася, нікога і нічога не баяцца людзі, маладыя п'юць, лаюцца брыдкімі словамі, рабіць не хочуць. Некалі хоць бог быў, а цяпер...

Напакавала сумку прадуктамі — сала, тварагу, яек, круп. Але грошай не дала. Яшчэ вымянтачыць у яе Генка ды прап'е. Зноў падумала — памру, усё ёй застанецца, няхай тады робяць, што хочуць, мае вочы бачыць не будуць і душа не будзе балець.

Праводзіла дачку да аўтобуса, глядзела, як тая ўмошчвалася на сваім месцы, усміхалася ёй, і праз схуднелы твар, запалыя вочы Волька бачыла сваю дачушку, трохгадовую дзяўчынку, як бегла яна па сцежцы між высокіх траў і смяялася, шчаслівая, бегла насустрач сваёй долі, якая гатавала ёй немаведама што.

Прыехала Волька дадому ўжо надвячоркам і кінулася рабіць сваю бясконцую работу — накарміла парсючка, курэй, прынесла дроў у хату, каб крыху абсохлі і заўтра лепш распаліліся, намыла бульбы ў чыгун, вады з калодзежа прынесла. Зморaная, лягла спаць, каб заўтра прачнуцца а пятай гадзіне і бегчы на ферму.

Так і пакацілася далей жыццё — у рабоце да глыбокай стомы, калі не мела часу азірнуцца — што робіцца навакол. Уставала — радыё яшчэ не пачынала гаварыць, вечарам уключала, то любіла толькі музыку паслухаць ды песні, а што там балбочуць — вельмі не прыслухоўвалася. Стаяў на покуце і

*(Працяг на стар. 10)*

паведаміць Веры Паўлаўне. Нарэшце адважылася дачка — стала яе «рыхтаваць». Вера Паўлаўна папрасіла: «Кажы праўду!» Заплакала. Пасля замаўчала... А затым пайшла па сцяжынцы (ранняя восень, яшчэ жылі на дачы) — і ўпала: закружылася галава. Праз пару дзён, па дарозе ў інстытут, на лекцыю, зноў упала...

...»Алёша Глазырын, ах, які таленавіты! Але... у яго, маладога, пячонка і сэрца старога былі... І кепска запамінаў. «Сірано» ставілі... Гэта была памылка, але ўсё ж добра, што працавалі. Дык я з ім дома ролю развучвала...» Глазырын прыязджаў у Мінск, пабываў на магіле Сяргея Сяргеевіча і плакаў...

...За шклом серванта — фотаздымкі: Яўгенія Мацвеева — з пяшчотным надпісам, Глазырына, Тарасавай — яшчэ маладой, у ролі, а падпісана ўжо не надта паслухмянай рукою... І партрэт Соф'і Галідэй...

«Мы Качалава вельмі любілі. З Настачкаю Зуевай і Сонечкаю Галідэй шчаслівыя бывалі, калі ўдавалася яго сустрэць. Ідзём па калідоры: — Добры дзень, Васіль Іванавіч! — І хуценька хаваемся ўбок, аббягаем кругом і — зноў яму насустрач, і — зноў: — Добры дзень!»

...Раніцаю — звоніць тэлефон. Яна, Вера Паўлаўна: «Вы чыталі?..» Або: «Я хачу з вамі параіцца...» Спачатку я моцна бянтэжылася ад гэтага «хачу параіцца». Яна! Са мною!?. Пасля зразумела — ёй трэба адказваць абсалютна сумленна, як ужо можаш, але сумленна, фальш адчувае, як камертон.

Нас, абцяжараных багаццем інфармацыі, дзівіла: Вера Паўлаўна, ведаючы так многа, імкнецца даведацца яшчэ больш. Здаецца, ужо вось гэта ці гэта мусіць абмінуць яе. А аказваецца — ведае, чула, чытала!

Недзе пачула пра старое выдавецтва «Знание». «Памятаю, памятаю, такія (паказала, якія!) тоўсценькія кніжачкі, зялёныя...»

Раптам — падзея: «Аповесць пра Сонечку» Цвятаевай.

— Я не з усім пагаджаюся... Цвятаева бывала празмерна патрабавальнай да тых, каго любіла. А абаяльная была Сонечка вельмі. Мы ўсе маліліся на яе...

І — расказвае пра Сонечку, і пра Цвятаевых — быццам усё гэта ўчора было.

Калі прыйшоў «Новый мир» з працягам аповесці, Вера Паўлаўна так хвалявалася, што ажно захварэла. Лічылася, што прастудзілася або грып, але, па-мойму, — з-за аповесці. Ёй тэлефануюць — у каментарыях да публікацыі ўпамінаецца яе імя, а ў канцы Цвятаева прыводзіць «рассказ сестры Сонечкиной подруги». Сяброўка — Вера Паўлаўна. Сястра — Елізавета Паўлаўна.

...Па тэлевізары Андронікаў чытаў Блока, а Вера Паўлаўна за ім паўтарала: «Уходил за вагоном вагон» — і да канца.

...Паказваюць лютаўскую рэвалюцыю:

— Гэта маё, гэта я памятаю! Прыехалі мы з Казані — усё так і было. Спачатку ўсе віншавалі адзін аднаго: «бяскроўная рэвалюцыя!» А пасля...

— ...Валошын мяне маляваў у жоўтым хітоне сваім. Вось даведацца б, дзе гэта? У Лізачкі знаёмыя ёсць, трэба спытаць...

Лізачка — Елізавета Паўлаўна, сястра, цудоўная мастачка... Не бачыць. Ёй чытае ўсё — вершы, прозу, артыкулы — муж, Ілля Рыгоравіч, таксама заўзяты чытач. У апошні год і Веры Паўлаўне ўсё чытала дачка — Елізавета Сяргееўна...

...Дом на Малой Малчанаўцы, дзе жыў Лермантаў і які стаў музеем, — аказалася, той самы, дзе жылі сёстры Рэдліх у дваццатыя гады! Убачыла ў праграме «Время», ажно задрыжэла:

— Мы ж тут жылі! Вось тут, наверсе!..

І тут жа звоніць у Маскву... І Елізавета Паўлаўна там хвалюецца...

...Гулялі па лесе. Спынілася:

— Дзе ні спынішся — усюды цудоўна!

І стала чытаць: «Есть в русской природе усталая нежность...»

І патлумачыла:

— Бальмант... Такі рыжы Дон-Кіхот — рыжая бародка, рыжыя вусы... «А сердце забыло: а сердце простило...» Пастарнак — па-іншаму. Ах-ах-ах-ах!..

Уздыхнула. І стала чытаць тут жа Пастарнака.

— Ён Марыну вышэй за ўсіх цаніў... Яна не была добрая... Хаця, напэўна, і добрая, але гумар быў моцны, накшталт сатыры... Аднойчы нас з Лізачкаю паклікала: пойдзем да Патапенкі, вось дзе парагочаце. Пайшлі — яна з Асяю і мы. «Мадам» смешная — жонка ТАГО Ігнація, чорны парык, чорная сукня... Ужо старая пасялілася ў Феадосіі... Сапраўды смешная... Але мы так не маглі, мы былі тургенеўскага ладу. Марына была прыгожая: валасы лятучыя — па ветры развінаюцца, светлыя — амаль як у вас... І аблічча... Чыталі з Асяю вершы ва унісон: «Мы идём по Арбату...» — трошкі цярпелі ад такога чытання вершы, але было забаўна...

Чытае, паўтараючы інтанацыю сясцёр Цвятаевых...

Вярнулася дахаты — чытае Пастарнака, Блока... Пасля цішэй — шапоча або толькі аднымі губамі, каб не замінаць нікому...

Слухала чытальнікаў — шаптала ўслед за імі. У тэатры — Шэкспіра, Чэхава, Пушкіна — бязгучна прашэптвала, са скрухаю спатыкаючыся на купюрах.

— Вучыў нас вымаўленню князь Валконскі, гэткі абломак знатнага роду, з эспаньёлкаю, у чырвоным сурдуце і ў галіфэ. Смешны. Вучыў «павышэнням-паніжэнням»... Чытаў «Анегіна»: «И здесь героя моего в минуту злую для него, читатель, мы теперь оставим надолго...» — І ён усхліпваў. — «Навсегда!..»

— Белыя ніткі з чырвонай тканіны трэба выскубсці, а яны (мхатаўцы) не выскублі, засталіся «павышэнні-паніжэнні». Так і вымаўлялі.

...Збірала букеты, расстаўляла іх у вазы, пасля прыдзірліва разглядала, паварочвала, папраўляла — са здавальненнем кінуўшы, усаджвалася любавацца.

Вельмі любіла частаваць гасцей, тлумачачы карысць якога-небудзь там соуса, хвалячы яго смак. Любіла адорваць кветкамі, кнігамі, добрымі навінамі. Калі колькі дзён не бачыліся — скардзілася: «Сумна жывём...»

Аніколі ні пра кога — злосна, зларадна, атрутліва. Хаця востра заўважала смешнае. Асабліва за сабою.

Любіла прыгожа апрануцца. Саромелася — але любіла. Густ — бездакорны, вытанчаны. Дома заўсёды на абцасіках. Ступала лёгка. Уздымалася з крэсла вельмі прыгожа, сабраная ўнутрана.

На сваім 90-годдзі была прыгожая і велічная ў светлым вячэрнім плацці.

У яе доме бывалі людзі вядомыя — і не вельмі, і самыя-самыя славутыя. А яна даражыла ўсімі, каго аднойчы выбрала, і захоўвала вернасць свайму даверу.

...ЯКІ-НЕБУДЗЬ ГОД з лішкам таму перайменавалі Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут — у Акадэмію мастацтваў. А ў не такі ўжо далёкі час у гутарках мы гаварылі пра «акадэмію Веры Рэдліх». І — зусім не жартоўна. У тую пару яна была прафесарам гэтага інстытута, а трохі пазней — прафесарам-кансультантам: ёй ужо цяжка было весці рэгулярныя заняткі, але (да гонару інстытута!) там разумелі, які маральны і інтэлектуальны імпульс атрымліваюць студэнты (і іх педагогі), нават толькі час ад часу сустракаючыся, гутарачы з Вераю Паўлаўнай...

І многія з нас, каго яна адорвала ганаровым званнем сяброў, бываючы побач з ёю, атрымлівалі неацэнныя ўрокі гэтай акадэміі, дзе галоўнымі «прадметамі» былі сумленне, праўда, прыгажосць і дабро.

**Лілія БРАНДАБОЎСКАЯ**

---

звярок, зразумець было немагчыма — ні то кот, ні то сабака, ні то парсючок. Пуста аказалася і ў гаспадарчай краме — ні місак, ні патэльняў, ні вёдраў, і мыла знікла. Ужо каб і хацела Волька купіць які тавар за тыя грошы, што прынесла класці на кніжку, то нічога не знайшла б.

Зноў вінаваціла людзей — за іх сквапнасць, за дурноту. Ашалелі, ці што, як перад канцом свету. Але як канец свету надыходзіць, то начорта вам тыя вёдры ды патэльні! А каб на вас пярун!

І пярун ляснуў. Зайшла Волька ў сваю краму, вясковую, і не паверыла вачам сваім. Цана на цукар, на чай, на крупы падскочыла, можа, у дзесяць разоў. Ды не толькі на цукар ды крупы, на ўсенькае, што ляжала на паліцах. Тупалі па краме бабы ды дзяды вясковыя, вохкалі, не ведалі — купляць, не купляць, а прадаўшчыца іхняя, Кацярына, баба вушлая, пацвельвалася:

— Купляйце, купляйце, заўтра яшчэ даражэй усё будзе.

І нібы ў ваду глядзела. Цэны панесліся, як сабака, спушчаны з ланцуга. У сто, у тысячу разоў усё падаражала. І Вольчын скарб, што ляжаў на кніжцы, ператварыўся ў капейкі. Ну і праўда, што магла яна цяпер купіць за тыя дзесяць тысяч, што сабрала за ўсё сваё жыццё? Хіба кілаграм кілбасы...

Яна сядзела на ўслончыку, трымала ў руках сваю ашчадную кніжку, якая некалі прыносіла ёй столькі ціхай радасці, і думала:

«Матка за палачкі працавала... І я, выходзіць, за палачкі... усё адабралі... Раскулачылі...»

Але, як ні дзіўна, болю вялікага не адчувала. Суцяшала, мусібыць, тое, што абабралі не адну яе, усіх абабралі, усіх раскулачылі. Што ж, як міру, так і бабіну сыну.

І ўсё ж падступала крыўда:

«За палачкі... За палачкі працавала... Няхай бы хоць тую сукенку купіла... Дурніца...»

І яшчэ адольвалі думкі — трэба было дачцэ больш памагаць, даваць грошы, не пакідаць на «пасля смерці»... А пакуль жывеш... Пакуль жывеш. Бо ніхто не ведае, што чакае цябе за павароткаю.

---

*Музыка*

# СПАДКАЕМЦЫ ТЫЗЕНГАУЗА

***15 лютага 1991 года ў Гродне адбылася прэзентацыя камернага аркестра. Гэта быццам бы на першы погляд і не надта значная падзея ў межах рэспублікі з'явілася пачатковым крокам на шляху стварэння ў старажытным горадзе новага калектыву — Гродзенскай капэлы. Але тое было не проста стварэнне, тое было вяртанне колішніх традыцый часоў Антонія Тызенгауза, калі тэатр і капэла ў Гродне знаходзіліся ў цэнтры музычнага жыцця Еўропы. Аднак тры гады таму, пасля нараджэння Гродзенскага камернага, мала хто верыў, што з гэтага можа атрымацца штосьці сур'ёзнае. Хай сабе пазабаўляюцца там, у правінцыі, — думалі многія. Але самі музыканты ды іхні нястомны натхняльнік, кампазітар Андрэй Бандарэнка мелі іншыя планы...***

***Сёння без сумнення можна сцвярджаць, што Гродзенская гарадская капэла — гэта з'ява рэспубліканскага маштабу, і пацвярджэнне таму — паслужны спіс калектыву: актыўная канцэртная дзейнасць на Гродзеншчыне, паспяховы дэбют у Мінску, запісы на Беларускім радыё і тэлебачанні, гастролі ў Польшчы, Германіі і вось нядаўна — у Нарвегіі, на радзіме славутага Грыга.***

***Гутарым з мастацкім кіраўніком капэлы кампазітарам А. БАНДАРЭНКАМ.***

**— Андрэй, памятаеш, роўна год таму ў нашай гаворцы пра будучыню капэлы ты сумна працягнуў: «Да восені яшчэ дажыць трэба...» Настрой быў не надта аптымістычны. Як цяпер?**

— На жаль, цяпер такі час, калі ніхто не ведае, што будзе заўтра, асабліва з эканомікай, але настрой, безумоўна, значна лепшы. Справа ў тым, што з лютага гэтага года Гродзенская гарадская капэла мае статус муніцыпальнай. Ёсць нават намер зрабіць нам эмблему з выявай аленя Губерта, які, як вядома, з'яўляецца кампанентам герба старажытнай Гародні. Мы атрымалі стабільнае фінансаванне, што дае магчымасць спакойна займацца справамі: плаціць заработную плату, арандаваць памяшканні, рабіць рэкламу, паляпшаць матэрыяльна-тэхнічную базу і, канешне, рэпеціраваць. У артыстаў капэлы з'явіўся цвёрды стымул плённа працаваць. І як вынік — ажыўленне дзейнасці калектыву. Мы даём 7—8 канцэртаў у месяц. Спецыфіка нашай капэлы дазваляе нам выступаць з рознымі праграмамі, рознымі складамі: аркестр, хор, салісты. У апошні час да нас прыйшлі тры вакалісты вельмі добрага ўзроўню — сапрана Марына Гаравая і Ірына Дзмітровіч (у нядаўнім мінулым артыстка Дзяржаўнага камернага хору Беларусі), а таксама барытон Уладзімір Гаравы.

На пачатку сезона капэла ўдзельнічала ў вечарах памяці Чайкоўскага, Агінскага, Сыракомлі. Затым — снежань, студзень — цяжкія часіны, нават не хочацца ўспамінаць. Але з лютага ўсё наладзілася, і зноў пайшла праца. Рэпертуар папоўніўся новымі творамі: 8-мы канцэрт і 1-ы фартэпіянны канцэрт Шастаковіча, «Варыяцыі на тэму Чайкоўскага» Арэнскага, Серэнада для струннага аркестра Чайкоўскага, Кантата N 21 І. С. Баха, мая «Прыпавесць пра душу чалавечую», якая створана на аснове музыкі оперы «Князь Наваградскі», ды іншыя творы. У пачатку мая прайшоў мой аўтарскі канцэрт. А потым — Нарвегія.

**— Дарэчы, у беларускіх музыкантаў ужо наладзіліся трывалыя сувязі з Нарвегіяй. Мінскі Камерны хор Ігара Мацюхова, гродзенскі камерны хор «Дойлідства», цяпер — гродзенская капэла. Вам пашанцавала на такі фестываль...**

— Трапілі мы на яго акурат праз Ігара Мацюхова, які выступаў там са сваім хорам і выконваў некаторыя мае творы. Ён прывёз адтуль буклет фестывалю і падараваў мне як аўтару. Потым мы паслалі відэакасету і ліст з інфармацыяй пра нашу капэлу і ў адказ атрымалі запрашэнне. Праходзіў фестываль у горадзе Крысціянсанд, на беразе Паўночнага мора. Па статусе гэта фестываль царкоўнай музыкі, праводзіцца ўжо 23-ці раз. Але сэнс назвы «царкоўная музыка» трактаваўся даволі шырока. Удзельнічалі самыя розныя калектывы і выканаўцы, з вельмі разнастайнымі праграмамі. Напрыклад, вялікі сімфанічны аркестр і хор з Крысціянсанда выконваў драматычную араторыю Анегера «Цар Давід», а разам з тым у фестывалі прымалі ўдзел і струнны квартэт з Сочы, арганіст сабора Нотр-Дам з Парыжа, хор з Чыкага і інш.

**— І што ж вы там спявалі?!?**

— Нарвежскі хор спяваў свае пратэстанцкія псальмы, а мы сваю праваслаўную музыку і нават Kyrie eleison усе разам, а закончылі маім «Анёлам». Дарэчы, гэтае набажэнства (менавіта так, бо ў перапынках паміж творамі чыталіся малітвы) трансліравалася па Нарвежскім радыё, і пасля нам расказвалі, што тэлефанавалі нават з самога Осла і зацікаўлена пыталіся пра наш калектыў. У астатніх канцэртах мы выконвалі Кантату Баха N 21, а таксама беларускія і рускія духоўныя творы.

**— У тым ліку і твае?**

— Так. У аркестра было яшчэ выступленне ў горадзе Арэндалі, дзе прагучалі мая Сімфонія для камернага аркестра, Трайны канцэрт ор. 3 N 11 Вівальдзі, Сімфонія N 10 для струннага аркестра Мендэльсона, Канчэрта гроса N 2 Альхімовіча і два мае рамансы на вершы М. Рубцова, якія праспяваў Аляксандр Тузлукоў, саліст ДАВТа Беларусі, што ездзіў разам з намі. На завяршэнне прагучала кантата Баха ў выкананні ўсёй капэлы.

**— Хто дапамог вам здзейсніць паездку? Як вядома, зараз гэта так цяжка зрабіць...**

— У асноўным рабілі ўсё самі, спонсараў ніякіх не было, ездзілі за свой кошт (дарэчы, калі б не паехалі, давялося б плаціць вялікую няўстойку). Гарадскія ўлады дапамаглі наладзіць сувязі з Белбізнесбанкам, і ён на льготных умовах ссудзіў неабходную суму грошай. Саюз палякаў Беларусі арандаваў траспарт.

Безумоўна, мы засталіся задаволеныя фестывалем. І не толькі таму, што гэта надзвычай цікава, запамінальна і, канешне, карысна для нашага далейшага росту. Мне здаецца, што гастролі ў Нарвегіі яшчэ раз пацвердзілі правільнасць абранага шляху. Капэла апраўдала сваё існаванне і статус. Мы з'яўляліся своеасаблівымі пасламі нашага горада, усёй Беларусі, пра якую, пагадзіся, не так многа ведаюць за мяжой. Дарэчы, не выключана, што пасля гэтага фестывалю будуць наладжаны больш цесныя сувязі паміж Гародняй і Крысціянсандам. Капэла таксама ў чарговы раз апраўдала свой склад. Менавіта такая музыка добра ўспрымаецца, бо ёсць магчымасць лавіраваць у рэпертуары, рабіць яго разнастайным. Але тут існуе вялікая праблема. На Беларусі практычна няма такой музыкі — для капэлы, для камернага хору і камернага аркестра. З гэтай праблемай ужо сутыкнуўся Ігар Мацюхоў, калі яму прапанавалі запісаць што-небудзь беларускае для такога складу. Ён перагарнуў усё, але нічога не знайшоў! Лічу, што тут трэба задумацца і нашым кампазітарам.

**— Але ж табе і карты ў рукі?**

— Так, мне даводзіцца працаваць у гэтым кірунку: можна ўспомніць рэдакцыю гімна «Магутны Божа», «Прыпавесць пра душу чалавечую», даўно збіраюся напісаць штосьці вялікае, але ўсё не хапае часу.

**— Безумоўна, арганізацыйныя клопаты... Але чым усё ж такі заняты сёння Бандарэнка-кампазітар, ці не «адсоўвае» яго Бандарэнка-музычны дзеяч?**

— Вядома, не. Нядаўна закончыў «Літургію Іяана Златавуста», асобныя часткі з якой ужо выконваліся. У будучым плануем выканаць яе ў Гародне і цалкам. «Прыпавесць пра душу чалавечую» таксама з апошніх прац, якая не проста папуры з оперы «Князь Наваградскі» — гэта самастойны твор, з уласнай ідэяй, з большым акцэнтам на царкоўную музыку. Магу таксама назваць і «Вячэрнюю малітву» — канцэрт для сапрана і хору на словы Сяргея Грахоўскага. Зараз працую над буйным творам, але пакуль не завяршыў і гаварыць пра яго яшчэ рана.

**— Вельмі добра, што ў цябе хапае сіл сумяшчаць працу ў капэле і творчасць. Шчыра жадаю і надалей знаходзіць у гэтым сэнсе паспяховыя кампрамісы, бо і тое і другое, бясспрэчна, патрэбна і дае радасць аматарам музыкі і ў Гародне, і на Беларусі ўвогуле, і нават у Нарвегіі, і, спадзяюся, гэты спіс мы будзем яшчэ неаднаразова працягваць. І, нарэшце, традыцыйнае: якія планы ў Гарадзенскай капэлы на бліжэйшую будучыню?**

— Працаваць і расці. А што тычыцца гастроляў ды іншых прапаноў, то таксама ёсць цікавыя. Магчыма, возьмем удзел у фестывалі камернай музыкі ў Цюбінгене, у днях культуры Гародні ў Міндэне (абодва гарады — германскія), хор збіраецца на гастролі ў Францыю, заробак ад якіх пойдзе на рэстаўрацыю Каложскай царквы. Адным словам, планаў шмат і спадзяёмся, што ўсе яны ажыццёвяцца. Сёння ў нас наконт гэтага сапраўды больш аптымізму, чым год назад.

**— Што ж, гэта цудоўна. Вялікі дзякуй за размову. Поспехаў табе і ўсім музыкантам капэлы.**

— Таксама дзякуй. Я толькі дадам, што ў складзе нашай дэлегацыі ў Нарвегію ездзіла творчая група Беларускага тэлебачання, якая здымала фільм пра фестываль. Магчыма, неўзабаве ён пойдзе ў эфір, і гэта будзе своеасаблівым працягам ужо запісаных раней праграм «Дапаможа нам музыка» з удзелам капэлы.

**Аляксей САЛАДУХІН**

Паэзія

Масей СЯДНЁЎ

# КАЛІ Я БУДУ ПАМІРАЦЬ...



Калі я буду паміраць, канешне ж,
я буду верыць, што я траплю ў рай,
грахоў жа у мяне ніякіх, апрача
адзінага майго граха, што не грашыў.

Калі я буду паміраць, канешне ж,
я буду шкадаваць, што жыў замала
на гэтай цудадзейнай і спакутванай зямлі
і жыў наўзверх не так, як трэ было б.

Ды шкадаваць не будзе ужо сэнсу —
твой горні шлях губляецца ўжо ў сіняве
і перад ім ты сэрцам сваім заміраеш:
на допыце у Судны дзень
адкажаш што ты, грэшны нягрэшны?
Ці знойдзеш ты у Суддзяў,
строгіх, непадкупных,
за дзеі ўсе свае, што учыніў ты, апраўданне?
Ці жыў, спытаюцца, па-боску ты,
ці да людзей
ты меў спагаду, ласку і замілаванне
і ці бацькоў сваіх любіў і ў той любові —
сваю маці?

Балесныя, яны ўжо ***там*** і,
веру, будуць слухаць
маю, за ўсе мае паступкі, споведзь.
Яны маліцца будуць за мяне, прасіць
заступніцтва ў спагадлівых анёлаў.
Малітвай чыстаю вымольваць для мяне
грахоў прашчэнне.
Ды мучыць мяне будзе больш за ўсё,
ці варты я таго прашчэння?
Ці мне даруецца, што над усё
на свеце Божым я стаўляў каханне
і з палкасцю юнацкаю яму маліўся,
забыўшыся, што ёсць
і іншыя на свеце абавязкі.
Не ведаў, што нашае ***зямное***
з ***нябесным*** нашым
у вечным і бязлітасным змаганні.

У Судны дзень спытаюцца ў мяне,
апроч бацькоў, ці я любіў сваю Айчыну?
Скажу, любіў яе таксама над усё,
і гэта пацвярджу сваёй калымскаю пакутай.

Яшчэ хіба спытаюцца ў мяне,
ці хто здраджаў мне? Адкажу:
уся зямелька нашая набракла Здрадай.
Ды спахвачуся тут я і пачну:
О, не! О, не! О, Божа, што я гавару?

Ёсць у мяне Адна... Адна-адзіная,
што не здраджала мне. Вяла мяне, адданая,
пущінаю, прадвызначанай Ёю.
Я слухаўся яе, і, шчырая, Яна не раз
мяне на гібельнай дарозе ратавала.
Я прызнаваўся у каханні Ёй
і прысвяціў адзінай Ёй
усё, на што яна мяне натхніла —
радкі маёй вандроўнай песні.
Мо калі чулі іх? Яны
на мове матчынай маёй.
Дух гэтай мовы матчынай маёй
У далячынь завоблачную ўзносіць,
туды, дзе райская лагода і суцешнасць.
Там Усявышняму Яна хвалу складзе,
як яна тут і на зямлі складала...

Калі я буду паміраць, канешне ж,
я не забуду вас, мае сябры, сяброўкі.
Жывеце весела на гэтай на зямлі і дбайце
пра лёс краіны нашай занядбанай і мяне,
не помнячы грахоў маіх, часамі памяніце.
Я буду ***стуль*** вам слацьме прывітанні,
асветленыя сонцам райскім, а калі
надыдзе час вам у маю дарогу,
на райскім на парозе буду вас страчаць.

*1994*

*Глен-Коў, ЗША*

Экалогія

# РЭАБІЛІТАЦЫЯ НЕРЭАБІЛІТУЕМАГА

***Чорная хмара Чарнобыля накрыла практычна ўсю Беларусь. Кожны пяты гектар сельгасугоддзяў рэспублікі забруджаны радыенуклідамі ад аднаго і больш кюры на квадратны кіламетр. З гэтай плошчы 264 тысячы гектараў выведзены з абароту. Але ёсць яшчэ каля паўтара мільёна забруджанай зямлі, на якой вырошчваецца збожжа, іншыя культурныя расліны.***

***Ці можна на гэтых палетках атрымліваць прадукцыю, якая не шкодзіла б здароўю людзей?***

***Многія вучоныя адказваюць на гэтае пытанне адмоўна, матывуючы свой пункт гледжання тым, што яшчэ не ўсё вядома аб уздзеянні на жывы арганізм малых доз абпраменьвання.***

***Але знаходзяцца людзі, для якіх падобных сумненняў не існуе. Яны ўпэўнены, што і на такіх землях можна атрымліваць чыстую прадукцыю і жыць тут у поўнай бяспецы.***



Каб даказаць жыццёвую ўстойлівасць той ці іншай пазіцыі, патрэбны факты і аргументы. Натуральна, што і ў прыхільнікаў канцэпцыі выкарыстання забруджанай радыенуклідамі зямлі для сельскагаспадарчай вытворчасці яны таксама назапашаны. Іншая справа — наколькі яны пераканаўчыя і абгрунтаваныя.

Выступае, напрыклад, на старонках «Звязды» начальнік упраўлення па праблемах чарнобыльскай катастрофы Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання В. Гуркоў і сцвярджае, што ў Нараўлянскім, Касцюковіцкім, Хойніцкім раёнах атрымліваюць толькі чыстую сельскагаспадарчую прадукцыю і што ў гэтым, маўляў, няма ніякага дзіва. Варта толькі захоўваць усе адпаведныя інструкцыі, у прыватнасці, такую, як «Кіраўніцтва па вядзенні аграпрамысловай вытворчасці ва ўмовах радыяцыйнага забруджвання зямель Рэспублікі Беларусь на 1993—1995 гады» — і ўсё будзе добра.

Што ж гэта за такое ўсеабдымнае і ўсемагутнае «Кіраўніцтва...», якое не паспела выйсці ў свет (падпісана да друку толькі ў чэрвені мінулага года), а ўжо дапамагло атрымаць чысты ўраджай у многіх забруджаных раёнах рэспублікі? А проста звычайны зборнік, у якім сабраны даследаванні вучоных-аграрнікаў. Выпусціла яго Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання разам з Акадэміяй аграрных навук. У артыкулах, многія з якіх вызначаюцца чыста папулярызатарскім характарам, тлумачыцца, напрыклад, як паводзяць сябе радыенукліды ў глебе, як пераходзяць у расліны, даюцца парады па апрацоўцы глебы, правільным прымяненні мінеральных угнаенняў і пестыцыдаў, як правільна выбраць культуры для пасеваў, арганізаваць жывёлагадоўлю і г. д.

Бясспрэчна, усё гэта людзям трэба ведаць на месцах. Іншая справа, што ёсць зацікаўленыя колы, ведамствы, людзі, якія на падставе гэтых навуковых распрацовак імкнуцца зрабіць не заўсёды навуковыя высновы і такім чынам адстаяць свае пэўныя палітычныя і эканамічныя пазіцыі. Вось і ў гэтым выпадку чыноўнікі аграпрамысловага комплексу рэкамендацыі вучоных імкнуцца выкарыстаць як адзіную, не маючую альтэрнатывы, сістэму гаспадарання ў забруджаных раёнах. Больш таго, робіцца спроба такім чынам рэабілітаваць гэтыя тэрыторыі.

Адсюль і недалёка да высноў аб не такой ужо неабходнасці перасяляць адсюль людзей, можна, маўляў, жыць прыпяваючы і тут.

Летась на сельскагаспадарчую навуку з чарнобыльскай касы было выдаткавана больш як 366 мільёнаў рублёў (у цэнах на пачатак 1993 года). Цяпер навукоўцы не супраць таго, каб прыбраць да рук і сродкі, што выдзяляюцца на іншыя чарнобыльскія мерапрыемствы.

У вырашэнні чарнобыльскіх праблем павінен існаваць толькі адзін крытэрый важнасці, неабходнасці таго, што робіцца, — здароўе людзей. На думку некаторых вучоных, восемдзесят працэнтаў абпраменьвання чалавек атрымлівае праз прадукты харчавання. Яшчэ ў 1990 годзе спецыяльныя медыцынскія даследаванні засведчылі досыць цікавы факт — па ўтрыманні цэзію ў арганізме мінчане і віцябчане зраўняліся з жыхарамі Гомельскай і Магілёўскай абласцей, хоць два першыя рэгіёны лічацца чыстымі, амаль не кранутымі радыеактыўнымі выкідамі Чарнобыльскай АЭС. Ды «чыстыя» прадукты, бачым, зраўнялі ўсіх. Ці не «заслуга» ў гэтым аграпрамысловага комплексу рэспублікі?

Усе помняць, як адразу пасля чарнобыльскай аварыі дзяржаўныя і партыйныя органы пачалі маніць грамадству адносна сапраўдных памераў чарнобыльскай трагедыі, небяспекі, якую яна тоіць для народа рэспублікі. Ці не ў выніку такога падману тысячы людзей у першыя пасля аварыі дні не былі эвакуіраваны з пацярпелых раёнаў, працягваюць (у тым ліку і дзеці) там жыць і цяпер. І вось вынік — толькі пад канец мінулага года ў Гомелі ў 132 непаўналетніх быў дыягнаставаны рак шчытападобнай залозы, хоць да 1986 года не было зафіксавана ніводнага такога выпадку.

Цяпер уладныя структуры, разумеючы, што падман наконт бяспекі пражывання ў атручаных радыенуклідамі раёнах не можа цягнуцца бясконца, знайшлі «панацэю» ў выглядзе нагаданых вышэй рэкамендацый вучоных-аграрнікаў аб атрыманні тут «чыстай прадукцыі». Наконт гэтага выконваючы абавязкі начальніка упраўлення сельскай гаспадаркі Нараўлянскага райвыканкама А. Прыходзька вось што сказаў мне па тэлефоне:

— Вучоныя ў нас былі. Ёсць у нас і «Кіраўніцтва...» Мы імкнёмся даваць прадукцыю ў адпаведнасці з РДУ-92. Але ў нас свае цяжкасці. Тэхніка ў гаспадарках стаіць — не хапае механізатараў; сродкі на дадатковыя мінеральныя ўгнаенні нам выдаткавалі толькі ў сярэдзіне лістапада, так што — час упушчаны. Не хапае гаруча-змазачных матэрыялаў. Так жыць цяжка. А тут і людзі незадаволеныя — за пражыванне ў забруджанай зоне сталі плаціць капейкі...

Дарэчы, па вялікім рахунку, і чыстая прадукцыя, пра якую гавораць вучоныя, чыстай з'яўляецца вельмі ўмоўна. Неўзабаве пасля аварыі былі прыняты часова дапушчальныя ўзроўні радыяцыі ў прадуктах харчавання, якія былі ў многа разоў вышэйшымі за адпаведныя паказчыкі дачарнобыльскага перыяду. Сцвярджаюць, што сённяшнія РДУ-92 на ўзроўні сусветных. Ці праўда гэта? Успомнім, якія энергічныя меры па нейтралізацыі радыенукліднага ўздзеяння, які кантроль за якасцю прадуктаў, асабліва малака і мяса, быў у дні аварыі на Чарнобыльскай АЭС наладжаны ў той жа Фінляндыі, да якой і радыеактыўнае воблака не дайшло. А што ў нас? Па словах галоўнага спецыяліста Акадэміі аграрных навук, куратара праграмы «Сельскагаспадарчая радыялогія» Г. Тарасевіча, калі б цяперашнія нормы РДУ-92 дзейнічалі ў 1986 годзе, то выбракоўвалася б прыкладна трыццаць працэнтаў прадукцыі. Вось такая «чысціня» нам гарантуецца сёння.

У паслячарнобыльскія гады нам усім давялося зведаць на сваёй скуры шмат розных канцэпцый, звязаных з абаронай чалавека ад ядзернага выпраменьвання. Даводзілі, як малым: атрымаеце за жыццё 35, 50, 70 бэр — выжывяце, не хвалюйцеся. Цяпер пра бэры забыліся. З'явілася новая адзінка вымярэння — мілізіверт.

Чалавек заўсёды атрымліваў і атрымлівае натуральнае вонкавае абпраменьванне — касмічнае, з нетраў зямлі і г. д. Гэта складае, як сцвярджаюць вучоныя, 2,5 мілізіверта ў год. Нам у дадатак да гэтай фонавай велічыні можна «схапіць», на думку адных спецыялістаў, — не больш аднаго, другіх — да пяці мілізівертаў у год. А ў ЗША, сцвярджае прэса, для аварыйнай сітуацыі ўстаноўлены рубеж у 0,29 мілізіверта. І чыстае харчаванне забяспечана.

Але не будзем спасылацца на далёкую Амерыку. Давайце задумаемся над айчыннай рэальнасцю. Людзі, якія працуюць на атамнай станцыі і сутыкаюцца непасрэдна з рэактарам, «набіраюць» за год пяцьдзесят мілізівертаў. Але трэба помніць, што работнікі АЭС — людзі дастаткова дасведчаныя. Яны ведаюць як сябе паводзіць у такіх умовах, як ахоўвацца, спажываюць чыстыя прадукты, пастаянна адпачываюць у санаторыях...

Якія дозы абпраменьвання ў параўнанні з тэхнічным персаналам атамных станцый атрымліваюць жыхары нашай рэспублікі, харчуючыся ўмоўна чыстымі прадуктамі? Доктар тэхнічных навук, член-карэспандэнт Акадэміі аграрных навук Беларусі Р. Афанасік пазнаёміў мяне з разлікам. Насельніцтва, якое жыве на тэрыторыі, дзе вонкавае забруджванне 1 кі/км² і калі яно харчуецца сваімі прадуктамі, за год атрымлівае чатыры мілізіверты. А калі зямля забруджана да 15—40 кі/км², то, атрымліваецца, што і чалавек у пятнаццаць — сорак разоў больш «нажыве» гэтых доз. Бо вясковец у асноўным спажывае прадукты, вырашчаныя на ўласных сотках.

Усе «дасягненні» сельгаснавукі на чарнобыльскай ніве, пра якія так шмат пішацца, — гэта спроба рэабілітацыі забруджаных тэрыторый не вельмі прыстойнымі сродкамі. Як можна рэабілітаваць забруджаныя землі, калі на іх нельга атрымаць па-сапраўднаму чыстую прадукцыю? Калі вырашчаная тут сельгаспрадукцыя становіцца прычынай захворвання людзей?

Дарэчы, гэтая спроба выдаць жаданае за рэальнае робіцца не ўпершыню. Яшчэ ў 1989 годзе на сустрэчы з грамадскасцю старшыня Дзяржаграпрама БССР Ю. Хусаінаў гаварыў:

— Ужо праз некалькі дзён пасля аварыі Дзяржаграпрам рэспублікі пачаў распрацоўваць канцэпцыю вядзення сельскагаспадарчай вытворчасці ў забруджаных раёнах, каб, вырошчваць кармы і збожжа, атрымліваць жывёлагадоўчую прадукцыю, узровень забруджвання якіх радыенуклідамі не будзе перавышаць нормы. На падставе трохгадовых назіранняў мы пераканаліся, што збожжавыя не баяцца палёў са шчыльнасцю забруджвання да 40, бульба — 50, рапс — 20 кюры на квадратны кіламетр. Трэба толькі правільна падабраць для кожнай культуры палі — і прадукцыя будзе чыстай.

Такія ж запэўніванні паўтараюцца і цяпер, толькі абапіраюцца яны ўжо на выдадзенае «Кіраўніцтва...», якое, дарэчы, на месцах практычна не прымяняецца. Дарэчы, не ўсе вучоныя і спецыялісты згодны з самім «Кіраўніцтвам...» з пункту гледжання экалогіі. На іх думку, у гэтым дакуменце ёсць і шкодныя рэкамендацыі. Прынамсі, прапанаванае ўзмоцненае прымяненне мінеральных угнаенняў і пестыцыдаў, як вядома, забруджвае навакольнае асяроддзе. У рэкамендацыях часта не ўлічваюцца і прыродныя асаблівасці тэрыторый. Прыродныя комплексы не мадуліруюцца.

Мне здаецца, што валтузня з «Кіраўніцтвам...», якое практычна не дае ніякай карысці, ставіць мэтай яўна перабольшыць ролю сельскагаспадарчай навукі на чарнобыльскай ніве. Факты сведчаць, што такая акцыя ў большай ступені мае палітычны, а не навуковы характар. Складваецца ўражанне, што ўсё гэта робіцца для таго, каб спрасціць, прыгладзіць рэальнае становішча ў забруджаных зонах. Некаторы час назад у цішы саўмінаўскіх кабінетаў нарадзілася «геніяльная» ідэя: за кошт пазбаўлення сацыяльнай абароны пэўнай часткі людзей, што пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі, папоўніць дзяржаўны бюджэт. Вось і цяпер рэкамендуецца амаль усе раёны з узроўнем забруджанасці 1—5 кі/км² па цэзію пазбавіць усялякай сацыяльнай і радыяцыйнай абароны.

Праўда, гэта новая канцэпцыя «бясшкоднага» пражывання не атрымала падтрымкі ні ў Акадэміі навук Беларусі, ні ў Вярхоўным Савеце. Тым не менш, яна ўжо дзейнічае.

Ва ўсёй гэтай непрывабнай гісторыі ёсць яшчэ адзін аспект — маральны. Ці можна пераконваць хворых, збалелых душой і целам людзей у тым, што ім карысна харчавацца ўмоўна чыстымі прадуктамі, якія ў шмат разоў перавышаюць дачарнобыльскія ўзроўні? Ці могуць у такой сітуацыі маўчаць вучоныя, чые распрацоўкі часта выкарыстоўваюцца несумленнымі чыноўнікамі на шкоду народу?

**Алесь КАЗАННІКАЎ**

## ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ ШЛЯХТЫ

**працягвае выпуск свайго часопіса «Годнасць». Нядаўна пабачыў свет першы ў сёлетнім годзе і другі з пачатку выдання нумар. Змешчаны шэраг матэрыялаў, што зацікавяць аматараў даўніны. У прыватнасці, артыкулы А. Міхайлава і А. Шумкова «Беларуска-літоўскія і польска-літоўскія дваране ў радаслоўнай кнізе Пскоўскай губерні», С. Рыбчонка «Менскія варштаты ў першай чвэрці XIX стагоддзя». Падаюцца звесткі пра Васіля Цяпінскага і род Слушкаў-Цяпінскіх у XVI стагоддзі, ёсць мажлівасць перагарнуць чарговыя старонкі «Малога гербоўніка беларускай шляхты».**

## ПАМЯЦЬ А. РУСАКА

**ўшанавалі яго землякі — жыхары вёсачак Пясочнае і Малінаўка Капыльскага раёна. Тут прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 90-годдзю з дня нараджэння паэта-песенніка. Як вядома, Адам Герасімавіч падтрымліваў самыя цесныя сувязі з роднымі мясцінамі. У Малінаўцы меў хату, у якой адпачываў, часта сустракаўся з жыхарамі гэтай і навакольных вёсак, а ў Пясочным, на мясцовых могілках, знайшоў свой вечны спачын.**

**Ва ўрачыстай вечарыне прынялі ўдзел госці з Мінска: народны артыст СССР І. Лучанок, паэт-песеннік У. Карызна, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі І. Краснадубскі, саліст тэатра оперы і балета В. Стральчэня, дочкі А. Русака Наталля і Людміла і іншыя. Выступіў і фальклорны гурт «Весялінка» Капыльскага раённага Дома культуры.**

## ЧЭРВЕНЬСКІ «ПЕРШАЦВЕТ»

**Як заўсёды, у штомесячным часопісе маладых літаратараў Беларусі шырока прадстаўлены тыя, хто робіць у літаратуры першыя крокі: М. Навумчык, З. Вішнёў, А. Бычкоўскі, Н. Пракопчык, В. Альшэўскі, Я. Палубятка (проза), Г. Бутырчык, В. Харко-Сушко, Н. Шыдлоўская, І. Шарай, Л. Тамільчык, Н. Дрык, Т. Ракецкая, А. Лісіцкі (паэзія).**

**У раздзеле «Гасцёўня» — вершы А. Звонака, у «Спадчыне» — навелы К. Кірэнкі з уступным словам І. Шамякіна. «Крытыка» — гэта артыкулы Н. Вусавай «Не такія вы ўжо цёмныя...» (першыя маладзёжныя часопісы на Беларусі)», К. Сухоцкага «Тамтэйшае і тутэйшае...» (трагікамедыя Янкі Купалы «Тутэйшыя праз прызму «звышсучаснасці»)» — аўтар вучань дзесятага класа ліцэя пры БДУ. З рэцэнзіямі выступаюць Я. Конеў («Свае старонкі» Я. Брыля), В. Шніп (кніга паэзіі І. Рубіна «Набытак»), М. Скобла (зборнік С. Адамовіча «Зямля Ханаан»).**

**На завяршэнне нумара — гумарэска С. Мінскевіча «Віна-гарэлачнае каханне», гумарыстычныя малюнкі Д. Слінко.**

## «ДАЙНОВА» — МІКОЛУ ЕРМАЛОВІЧУ

**Знакамітая фірма «Дайнова», якая апошнім часам шмат спрыяе нацыянальнаму адраджэнню, з'яўляючыся спонсарам многіх добрых пачынанняў, вырашыла матэрыяльна падтрымаць вядомага гісторыка і пісьменніка», аўтара кнігі «Старажытная Беларусь» Міколу Ермаловіча. «Дайнова» ўстанавіла Міколу Іванавічу пажыццёвую штомесячную стыпендыю ў памеры 500 тысяч рублёў (з улікам інфляцыі). Так адзначаны яго па-сапраўднаму адраджэнскі подзвіг. Як вядома, М. Ермаловіч не адзін дзесятак гадоў працаваў над гэтай сваёй кнігай (штодня ездзячы электрычкай з Маладзечна ў Мінск, каб наведваць бібліятэкі і архівы), не маючы спадзявання, што яна калі-небудзь убачыць свет.**

## ПАМЯЦІ ПАЭТА-ЗЕМЛЯКА

***Штогод ля помнікаў,***
***прыбраных***
***Рукамі ўдзячнымі жывых,***
***Стаяць маўкліва ветэраны,***
***Нібы ў шарэнгах франтавых...***

**Гэты і многія іншыя вершы Віктара Хаўратовіча гучалі ў прасторнай зале Бялыніцкага кінатэатра. Іх чыталі заслужаны работнік культуры рэспублікі В. Ермаловіч, удзельнікі мастацкай самадзейнасці, настаўнікі, школьнікі. Спявалі песні на словы земляка, і тыя, якія ён любіў пры жыцці.**

**З успамінамі пра Віктара Кандратавіча ў сувязі з 60-годдзем з дня яго нараджэння выступілі А. Ганчароў — начальнік МПМК, у якой працаваў В. Хаўратовіч, член мясцовага літаб'яднання У. Серыкаў, рэдактар раённай газеты «Зара над Друццю» М. Падабед, сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў І. Аношкін, старшыня раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы М. Карпечанка, сёстры паэта Марыя і Вера, іншыя ўдзельнікі сустрэчы.**

**Да партрэта паэта-земляка на сцэне і да помніка на ягонай магіле ўдзельнікамі вечара былі ўскладзены кветкі.**

**І. ГАЛІНОЎСКІ**

Іван ЧАРОТА

# «ЮГАСЛАВІЯ, ЮГАСЛАВІЯ!..»

## НАТАТКІ ЎДЗЕЛЬНІКА БЯЛГРАДСКАЙ МІЖНАРОДНАЙ СУСТРЭЧЫ ЛІТАРАТАРАЎ ПАД НЕЗНІКОМАЕ РЭХА ПРЫГОЖАЙ І ЎЗНЁСЛАЙ ПЕСНІ

За апошні час неўпрыкмет замацавалася ўяўленне, што нам розныя «лакальныя канфлікты» прыкладна роўныя паводцы ў Кітаі альбо землятрусу ў Індыі. Як ужо адзначалася, пэўная доля віны ляжыць на сродках масавай інфармацыі, якія вядуць нібыта спаборніцтва па хлёсткасці ганьбавання тых, на каго паказана, а таксама па ўзроўні пагарды, грэблівасці да генетычнага сваяцтва, гістарычных повязей між славянамі. Шукаючы прычыны, знаходзіш розныя. Скажам, не праходзяць без следу і даўнія, і не надта падзелы-перадзелы свету, уладарыць якім лягчэй тады, калі драбней падзелена. Даюцца адпаведна ў знакі выпрацаваныя класіфікацыі «вялікіх» і «малых» народаў, «малодшых» і «старэйшых» братоў, што мае як непазбежныя, так і штучна стымулюемыя праявы. А тут яшчэ прывабнасць бяздумна асвоеных узораў «незалежных сусветных» мас-медыя... І ў выніку стан, які нагадвае сумна вядомыя часы, калі навязваліся ідэі: твая матка, чалавеча, — бальшавіцкая партыя; і бацьку і сына заменіць камуністычны інтэрнацыянал; не можа быць брата, акрамя таго, хто прыняў веру ў перманентную сусветную рэвалюцыю; дзеля іх, калі падкажуць, ты можаш і хлусіць, і здраджваць, і забіваць. Праўда, калі шуганула полымя другой сусветнай вайны замест абяцанай такога маштабу рэвалюцыі, давялося, каб уратавацца, падключаць ідэю ўсеславянскай еднасці, шчырымі носьбітамі якой былі не пярэваратні, а паслядоўна верныя сыны славянства, падобныя да вялікага Купалы, які тады сваім артыкулам «Узнялася Беларусь» асаблівую ўвагу звярнуў на самаахвярнасць і мужнасць сербаў (гл. т. 7, с. 326 апошняга збору твораў). Уяўленне, што нам няма справы адзін да другога, памылковае. Каб не быць галаслоўным, прывяду некаторыя звесткі бліжэйшай сферы, толькі апошняга часу.

Адразу пасля вайны выдадзены зборнік «Выбраныя казкі народаў СССР» змяшчае раздзел беларускіх казак. У 1963 годзе Бялградскае выдавецтва «Народна кніга» выпускае ўжо цэлую кнігу — «Беларускія народныя казкі», а праз дваццаць гадоў паўтарае гэтае выданне (перакладчыца Душанка Перавіч). Гэтае самае выдавецтва ў 1965 годзе пазнаёміла сербскахарвацкамоўных чытачоў з раманам Івана Шамякіна «Сэрца на далоні» ў перакладзе Даніцы Якшыч. Заўважым: аператыўна, неўзабаве пасля выхаду твора на радзіме.

З 70-х гадоў на карысць беларуска-сербскага літаратурнага збліжэння пачаў працаваць Момчыла Джэркавіч, паэт, перакладчык, выдавец. Дзякуючы яму выдадзены зборнікі вершаў Аркадзя Куляшова (у 1974-м) і Максіма Танка (у 1986-м), аповесць Васіля Быкава «Знак бяды» (у 1986-м), да беларускага слова звярнуліся перакладчыкі Радаслаў Пайкавіч, зноў памянёная вышэй Даніца Якшыч, М. Чоліч, перакладчык «Воўчай зграі» Быкава, якая выйшла ў 1980 годзе як сумеснае выданне маскоўскага «Прагрэса» і бялградскай суполкі «Вук Караджыч». Да прапагандавання беларускага мастацкага слова далучылася выдавецтва «Багдала» горада Крушавац як сувыдавец (разам з суполкай, якую ўзначальвае М. Джэркавіч — «Ново дэло») названых кніг М. Танка і В. Быкава. На той час дужа актыўны калега Джэркавіч браўся выдаць анталогію беларускай паэзіі XX стагоддзя, зборнік песень нашых партызан, кнігі Н. Гілевіча, А. Разанава. На жаль, планы пакуль (спадзяёмся, часова) не здзейснены. Але ж з'явіліся і другія руплўцы — Міадраг Сібінавіч, Міларад Блэчыч, што спрыяюць распаўсюджанню нашай літаратуры як перакладчык і крытык, рэдактары часопісаў Еван Янічыевіч, Зоран Еванавіч, Браніслаў Петравіч. З іх падтрымкаю друкаваліся нарыс гісторыі беларуска-югаслаўскіх літаратурных кантактаў (часопіс «Мостові»), бібліяграфія гэтай тэмы (часопіс «Прэводілац»), нізка вершаў А. Разанава (часопіс «Српскі кніжэвні гласнік»). Толькі што ў серыі аўтарытэтнейшага выдавецтва «Српска кніжэвна задруга» выйшла анталогія беларускай паэзіі ад старажытнасці да нашых дзён. Пра цяжкае эканамічнае становішча ўсім вядома. Тым не меней, ледзь зводзячы канцы з канцамі, названая СКЗ і «Навуковая кніга» кааперыраваліся, шукалі падтрымкі ў прадпрыемства «Явар» з косаўскага мястэчка Іваніца, каб выпусціць беларускую кнігу. Дарэчы, напярэдадні Міжнароднага форуму праводзілася прэзентацыя гэтай кнігі з удзелам перакладчыка, аўтара пасляслоўя прафесара Сібінавіча, літаратуразнаўцы прафесара Мілы Стойніч, крытыкаў Міларада Блэчыча і Драгана Лакічавіча, артыстаў Елены Жыган і Мірка Петравіча. На гэта выдзелена была Вукава (Вука Караджыча) зала ў вялікай бібліятэцы Бялграда, скліканы прадстаўнікі прэсы, радыё, ТБ. Як удзельнік быў заяўлены і аўтар гэтых нататак, ды, на жаль, не прысутнічаў (прычына зразумелая — з-за адсутнасці сродкаў вымушаны быў заезд свой планаваць дакладна, каб з цягніка ісці на пасяджэнне, хоць гасцініцу забяспечвалі і на ранейшы тэрмін). Зацікаўленасць, без перабольшання, вялікая. І не толькі гэтым разам. Некалькі гадоў таму, паводле праграмы Міжнароднай сустрэчы перакладчыкаў, ладзілася вечарына паэзіі меней вядомых літаратур. На ёй гучалі вершы Максіма Танка і Анатоля Сыса ў перакладзе прафесара Сібінавіча (тыя, што пазней увайшлі ў анталогію). Дык потым да мяне падыходзілі некалькі чалавек, сцвярджаючы, што такая магутная паэзія беларусаў — для іх каштоўнейшае адкрыццё. Падобныя думкі выказваюцца і ў рэцэнзіях, якія выйшлі ўжо на анталогію, чым можна ганарыцца.

Існуе таксама жывая сувязь. У розныя часы наведвалі Сербію П. Глебка і Я. Брыль, П. Панчанка і М. Танк, А. Макаёнак і Г. Бураўкін, А. Грачанікаў і С. Законнікаў, У. Краўчанка і В. Рагойша, В. Вярба і Л. Караічаў, праз Сербію ў іншыя рэспублікі ездзілі А. Адамовіч і В. Зуёнак, А. Кудравец і В. Лукша. Гэта толькі паводле мною сабраных, вядома, няпоўных, звестак. На шчасце, краіна паэзіі межаў не ўсталёўвае. І мне прыемна было везці сардэчныя прывітанні Рыгору Барадуліну ад Драгана Лукіча, Пятру Прыходзьку ад Драгаміра Брайкавіча, Вячаславу Рагойшу ад Бранкі Кітанавіча, Ірыне Шаблоўскай ад Міадрага Сібінавіча, Міхалу Булахаву і Паўлу Шубу ад Богдана Тэрзіча... Як высвятлялася, гэта вынік знаёмстваў з нашымі землякамі на розных мерыдыянах планеты. А яшчэ Ніла Гілевіча вітаў Любіша Джыдзіч, Васіля Зуёнка, Валянціна Лукшу, Міхася Пазнякова, Барыса Сачанку, Аляксея Гардзіцкага — Гроздана Олуіч, якія гасцявалі ў нашай рэспубліцы.

Разумеючы, што інфармацыя агульнага плана можа так і застацца мала пераканаўчай, закрану адзін прыватны, зусім вузкі аспект: «Беларуская літаратура і Дэсанка Максімавіч». Дапускаю, што нават спецыялісты па сувязях палічыць яго, на першы погляд, прыцягненнем штучна. Але няхай чытачы мяркуюць самі, падагуліўшы дакладныя факты.

Выдатны, як з эстэтычнага, так і гістарычнага, этнапсіхалагічнага пунктаў гледжання, цыкл «Прашу літасці» займае значнае месца ў перакладчыцкім наробку Ніла Гілевіча.

Творы славутай песняркі, між тым, дайшлі да беларускага чытача недзе 40 гадоў таму. Пазней, акрамя Н. Гілевіча, іх перакладалі Э. Агняцвет, П. Броўка, Я. Сіпакоў, М. Танк, К. Севярынец, І. Чарота. Калі не памыляюся, недрукаваныя пераклады ёсць і ў Н. Мацяш.

Да творчасці Д. Максімавіч у той ці іншай форме звярталіся нашы літаратуразнаўцы, крытыкі. Выпускніца філфака БДУ Мая Будзька падрыхтавала грунтоўную працу, у якой разгледжана сувязь сербскай паэтэсы з усходнеславянскім светам.

Шмат цікавага адкрываецца ў параўнальным плане. Тэма ахвярнасці, трагедыі другой сусветнай вайны, памяці — непазбыўная ў сербскай, як і ў беларускай, літаратуры. Ёсць пэўная тыпалогія ўвасаблення трагедый Хатыні і Крагуеўца. А тут, бясспрэчна, мае вызначальную ролю «Крывавая казка» Д. Максімавіч. Можна адшукаць нават проста аднатэмныя ў адносінах да гэтага верша творы беларускіх аўтараў — «Боль Сербіі» Пімена Панчанкі і «Урок. Сербская балада. XX стагоддзе» Янкі Сіпакова.

Ніхто іншы як Д. Максімавіч пераклала «А хто там ідзе?» Янкі Купалы.

Маюцца і асабістыя кантакты: Эдзі Агняцвет не адзін год у перапісцы з сербскай калегай, звяртаўся да яе Вячаслаў Рагойша, неаднойчы сустракаўся аўтар гэтых нататак.

Дзеля чаго такія звесткі прыводзяцца тут і, дарэчы, прыводзіліся ў дакладзе на вечарыне, якая прысвячалася памяці слыннай песняркі (г. Валева, 21 кастрычніка м. г.)? А каб пераканацца, што ўсталяваных паводле сустрэчных рухаў, без аніякіх планаў і дырэктыў зверху, повязей у нас багата. Трэба іх толькі ўсвядоміць. Тым болей у такіх выпадках.

Бо тут фенаменальная для нашага часу з'ява, што бяруся засведчыць і на падставе спецыяльнага навуковага досведу, і ў выніку працяглага знаёмства з асяроддзем, і паводле ўражанняў ад асабістых сустрэч. Як правіла ўвага звяртаецца на яскравы талент, адданасць літаратурнай справе, на багатую разнажанравую спадчыну, на хрэстаматыйнасць шэрагу твораў, на прызнанне ў замежжы... Усё гэта ёсць. Аднак ёсць і ў іншых, якія без агаворак лічацца выбітнымі пісьменнікамі, тым не меней адносіны да іх складваюцца на другіх узроўнях, па інакшых крытэрыях. Адну Дэсанку (менавіта гэтак, без прозвішча як правіла, называюць яе калегі-пісьменнікі, даследчыкі і крытыкі ў сваіх працах, звычайныя людзі, нават дзеці — што не прыніжае, а наадварот ураўнівае) проста маюць за самую блізкую, нібы сястру, дачку. Часткова гэта можа быць вытлумачана асаблівасцямі сербскіх традыцый, ладам жыцця, спадчыннай мадэллю паводзін і адносін між людзьмі, якія не забываюцца на крэўнасць, агульны радавод і прынцыпы «задругі». Тым не меней ва ўмовах шаленства і бясконцых пераацэнак каштоўнасцей — што характарызуе наша стагоддзе ад пачатку і да канца — карыстацца гэткай пашанай, як Дэсанка Максімавіч сярод сваіх суайчыннікаў, дадзена выключным асобам. Па завядзёнцы нашага часу, пісьменніцкі занятак вылучае з масы. А тут наадварот, яшчэ мацней злучае, на карысць і пісьменніку, і масе, голасам свядомасці і сумлення якой стаць даводзіцца. Магчыма, у апошнім (шчырае жаданне быць голасам свядомасці і сумлення нацыі) і хаваецца сакрэт. Як бы там ні было, а ў любым сербскім асяродку можна адчуць сапраўдную злітнасць песняркі з народам. Асабліва ж, вядома, у яе краі, Шумадзіі (ад «шума» — лес).

Сумненняў, што ідэалы, асноўныя настроі, дыяпазон выяўленчых сродкаў паэта вызначае глеба, якая ўзгадавала, і быць не можа, калі наведваеш Дэсанчын родны кут — вёску шумадзійскую Бранкавіна бліз Валева. «Светлае — гучнае — зялёнае» сталі апазнавальнымі знакамі яе паэзіі невыпадкова. Гэта, уласна, прыкметы самога асяроддзя: высокае неба, святлынь якога нязменная амаль круглы год; шмат рэк і ручаёў, што гамоняць безупынна, збягаючы з гор і пагоркаў; лясы, гаі, лугі, сады агортваюць увесь гэты хвалісты ландшафт зелянінай... «Кім, як не паэтам, стаць можна, тут нарадзіўшыся?!» — заўважаюць многія. А ўлічваючы дзівоснае спалучэнне краявідаў як быццам разнатыпных, але паасобку характэрных для краіны, варта заўважыць, што само па сабе тут агульнае лакалізуецца, і прыродныя азнакі спрыяюць узнікненню чагосьці падобнага ў сферы духу... Так і карціць знайсці глыбінную абумоўленасць.

Маляўнічы кут прыняў Дэсанку пасля нараджэння, узгадаваў, даваў натхненне, чакаў, пакуль яна хадзіла конам вызначанымі шляхамі, і вось нядаўна стаў месцам вечнага яе прытулку. Пахавалі, як таго хацела сама песнярка, пад векавым грабам, які, нібыта, выйшаў з гаю да ручаіны і прыпыніўся на лужку, азіраючыся то на школу, дзе працаваў настаўнікам Дэсанчын бацька, то на царкву, дзе служыў святаром яе дзед. І туды і сюды некалькі крокаў. Нічога нідзе штучнага, наўмысна кампанаванага. Ды і вока і розум адшукваюць сімвалы. І знаходзяць адзін за адным. Напрыклад, яшчэ тое, што побач з магілаю ўздымаецца самасейная бярозка — ці не знак ад мужа, які памёр раней, а паходзіў, між іншым, з Расіі?..

Ніякага дэкору. На магіле адно прыроднае пакрыва — травіца ды кветкі, а з рукатворнага — толькі сціплы, невялічкі металічны крыж, пад якім стаіць футарал-свечнік. Сама Дэсанка лічыла: «Нашто мне мармур, калі я ў мармуры не жыла». І напраўду, відаць, утульней, калі вакол жывое хараство, пры блізкіх шчыра адданых людзях. Вось адзін штрых, які перадае любоў землякоў: калі святкавалася 70-годдзе яе, дарога на Валева акалялася натоўпам людскім даўжынёю ў кіламетры. Але да выдатнай паэткі і грамадзянкі гарнуліся не толькі землякі. Шмат прыхільнікаў і сяброў яна мела ва ўсіх рэспубліках федэрацыі, у розных краінах замежжа. Традыцыйным стаў збор «Славянскія паэты Дэсанцы Максімавіч у гонар», які праводзіўся на яе радзіме. Сёлета мне выпала быць у складзе групы сербскіх і замежных літаратараў, што наведалі незабыўную бранкавічанку ўпершыню пасля адыходу яе на вечны спачын. Грамада склалася з даўніх сяброў Дэсанкі, пераемнікаў і вучняў, даследчыкаў і перакладчыкаў яе творчасці. Не толькі рытуальнае, дзеля душы

*Заканчэнне. Пачатак у № 26, 27*

самой нябожчыцы, значэнне мела паніхіда, якую адслужылі два мясцовыя святары. І, вядома ж, у кожнага прысутнага знайшлося што сказаць пра асаблівае месца Дэсанкі на гэтым свеце, пра яе незвычайны літаратурны і жыццёвы талент. Сапраўды вечная памяць выяўлялася ў шматлікіх успамінах, прызнаннях, развагах, што прагучалі тады над магілаю, потым на абедзе, які даваўся землякамі, а пазней у горадзе Валева, дзе была праведзена своеасаблівая канферэнцыя з пераходам у масавую паэтычную вечарыну. Як памяць славутай зямлячкі ўшаноўваюць валеўцы, можна было б доўга расказваць. Але адзначу толькі адзін момант. На гарадской плошчы стаяць два помнікі: адзін — герою першай сусветнай вайны ваяводзе Мішычу, а другі — уласна, Дэсанцы. Толькі надпіс на ім зноўтакі абагулены: «Песништву на дар песнички народ», што ў літаральным перакладзе значыць: «Паэзіі ў дарунак ад паэтычнага народа». Выключнага сэнсу выраз! Ушанавана тое, што над асобаю, над часам, над марнасцю. Помнік вартасці абсалютнай — Паэзіі. І, што яшчэ больш важна, ставіў яго народ не дзеля азнакі выключнасці, не на пахвальбу (пераклад навязвае такі сэнс), а як радаводны абавязак выконваючы, неразрыўнасць духоўнай спадчыны падтрымліваючы і наступнікам запавет даючы, каб не забываліся пра духоўнасць, сувязі з абсалютам. На сербаў як «песнички» народ звярталі ўвагу шырокага свету яшчэ і В. Гётэ, Я. Грым, П. Мерымэ, А. Пушкін, А. Міцкевіч, азнаёміўшыся з унікальнымі эпічнымі песнямі. Якія, — што вельмі істотна ў этнахарактаралагічным плане, — адлюстравалі не пыху пераможцаў, як у падобных жанрах фальклору многіх народаў, а боль паражэння, трагізм пераможных. Праўда, усё роўна не скораных у вальналюбстве, самаўсведамленні, пачуццях годнасці. Прайграна Косаўская бітва, вынікам якой стала на пяць стагоддзяў страта дзяржаўнасці, але захаваны, а то і ўмацаваны, дух. Наконт песеннасці магу падзяліцца тым, што мяне ўражвае нязменна: сербы ведаюць, як сучасныя, песні сваіх далёкіх продкаў, спяваюць іх гэтулькі і так, што проста дзіва; а яшчэ больш здзіўляе распаўсюджанасць **народных** песень самага актуальнага зместу, цяперашняга паходжання; цяжка абмінуць і сербскае красамоўства ў любой сітуацыі і незалежна ад асобы, яе ўзросту, сацыяльнага стану і ўсяго астатняга. Можна дапусціць уплыў апошняй згаданай рысы на характар грамадскіх адносін і палітычны клімат. Гэта між іншым, і як гіпотэза. А вось яшчэ адна ўласцівасць — на падставе шматлікіх назіранняў і бясспрэчная. Сербы проста унікальна ставяцца да паэтычнага слова як слухачы. Літаратурныя мерапрыемствы збіраюць шмат публікі. Прычым невыпадковай, шчыра захопленай і здольнай рэагаваць адэкватна, якія б вершы ні гучалі — лірычна-задуменныя беларускія, падкрэслена-рафініраваныя англійскія, бурлівыя італьянскія, класічныя кітайскія... у перакладзе і ў арыгінале. Магу засведчыць, што на атмасферы паэтычнай вечарыны зусім не адбівалася нават прысутнасць у зале дзесятка аўтаматчыкаў, што размеркаваліся пры ўваходзе і паўз сцэны, ахоўваючы ад непажаданых інцыдэнтаў, небяспекі звонку (так было 24 кастрычніка ў горадзе Гнілане Косаўскага краю). Гасцей страхавалі ўлады, хоць і не ў такой форме, у розных мясцінах Косава і Метохіі. А слухачы прымалі з увагай і цеплынёй асаблівай. Мне даводзілася ў краі гэтым бываць неаднойчы з 1982 года, наведаць усе больш-менш значныя населеныя пункты, многія святыні, помнікі гісторыі і культуры. Сякое-такое ўяўленне ёсць пра людзей, якія падзелены і супрацьпастаўлены тут ужо шэсць стагоддзяў, а напружанасць адносін не спадае; албанска-сербскае пытанне, на жаль, мае тэндэнцыю ў цяперашніх абставінах толькі абвастрацца. Чаму? Дзехто бярэцца катэгарычна сцвярджаць: і няспынна тлеючы канфлікт у Косаве і Метохіі, і выбуховае развіццё таго самага ў Босніі і Герцагавіне, а таксама падзеі ў Краіне — формы рэлігійнай вайны. Небеспадстаўнае сцвярджэнне, калі браць пад увагу, што за два гады знішчана 157 цэркваў, пашкоджана 128, разбураюцца і раскрадаюцца музеі, манастырскія бібліятэкі, епархіяльныя рызніцы нават на тэрыторыях, дзе ваенныя дзеянні не вядуцца, альбо яшчэ да іх. Між тым ёсць шэраг «але». Як-ніяк бязбожніцтва набыло татальны характар у свеце, не абмінула і народы Югаславіі: паводле статыстыкі 80-х гадоў, атэісты складалі больш за палову насельніцтва (каля 57 %), а вось на пачатку 90-х раптам іх стала ўсяго 5 %. Другое: у паўсядзённым грамадскім жыцці пераважала і будзе пераважаць надканфесійнае там, дзе жывуць людзі некалькіх веравызнанняў. У рэшце рэшт суіснавалі ж мірна цэлыя дзесяцігоддзі. Пакуль не ўмешвалася вышэйшая палітыка і не падпарадкоўвала сабе пытанні веры?

Так ці інакш, а цудоўная песня, рэфрэн з якой стаў загалоўкам, больш не гучыць. Няўжо засталося адно рэха, да таго не ўсім чутнае?

Замежжа

# «АНІКОЛІ К ТАБЕ НЕ ВЯРНУСЯ...»

Мацвей Рэпкаў-Смаршчок (Анатоль Бярозка) нарадзіўся 19 лютага 1915 года ў вёсцы Падлессе былой Ляхавіцкай воласці Слуцкага павета (цяпер Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобласці). Вучыўся ў пачатковай школе ў Падлессі, у Ляхавічах, у Баранавічах (гімназіі і ліцэі), а пасля ў Віленскім універсітэце на медыцынскім факультэце да 1939 г. Прымаў актыўны ўдзел у беларускім студэнцкім і грамадскім руху. Вершы пачаў пісаць рана, друкаваўся на старонках часопісаў «Шлях моладзі», «Зарніца», «Калоссе», у газеце «Крыніца» і інш. З успамінаў вядомага грамадскага дзеяча Антона Шукелойца, які жыў сумесна з Мацвеем Рэпкавым-Смаршчком у Вільні ў Стараверскім раёне ў невялікім утульным пакойчыку: «У гэтым пакоі Бярозка пасля лекцыяў і працы (асістэнт прафесара на кафедры фізіялогіі Віленскага універсітэта) рэдагаваў часопіс «Шляхам моладзі», бо фактычны рэдактар Язэп Найдзюк выконваў адміністрацыйную работу. Сюды ж прыносіў Бярозка на разгляд і перапрацоўку матэрыялы з часопіса «Калоссе», сябрам рэдкалегіі якога ён быў. Тут ноччу ён пісаў свае вершы. У гэтым жа пакоі выдаваўся і рукапісны, гумарыстычны часопіс «З-за плоту», у выпуску якога прымалі ўдзел Анатоль Бярозка як рэдактар, Ян Жэдзік, які тэхнічна афармляў часопіс, і я». Арыгінал часопіса «З-за плоту» знаходзіўся ў музеі Івана Луцкевіча, выйшла тры нумары часопіса.

Ва ўспамінах Максіма Танка ад 28 мая 1936 г. ёсць колькі слоў і пра Анатоля Бярозку. «...У рэдакцыі «Калоссе» Я. Шутовіч паказаў мне некалькі вершаў А. Бярозкі. Мне здаецца, з яго вырас бы цікавы і сур'ёзны паэт, калі б мог вызваліцца з-пад апекі сваіх духоўных айцоў...»

Пасля верасня 1939 г. Анатоль Бярозка прыпыняе сваю паэтычную і грамадскую дзейнасць, так як ім пачало цікавіцца НКУС. Пераязджае ў Івацэвічы і працуе лекарам на Брэст — Літоўскай чыгунцы, а пасля ў Пінск. У часы нямецкай акупацыі працуе лекарам у Баранавіцкім шпіталі, а таксама кіраваў медычнаю школаю. У 1944 г. Бярозка выязджае ў Познань, дзе жылі яго бліжэйшыя сваякі. Заходзіць да іх на кватэру, а там засада гестапа. Пры вобыску знайшлі кнігі рэпрасаванага паэта Язэпа Пушчы, якія Анатоль Бярозка перахоўваў па даручэнні рэдактара часопіса «Калоссе» Янкі Шутовіча. Гэта з'явілася падставай адправіць Анатоля Бярозку ў канцлагер Нардгаўзен. Пасля вызвалення жыў некаторы час у Германіі, потым пераехаў у ЗША. Як лекар Мацвей Рэпкаў-Смаршчок вядомы ў ЗША, яго імя прысвоена аднаму з дамоў пенсіянераў у штаце Мінесота. У 1989 г. быў выдадзены зборнік вершаў А. Бярозкі «Адзінаццаць вершаў» на беларускай мове з паралельным перакладам на ангельскую. У апошнія часы некаторыя вершы А. Бярозкі з гэтага зборніка друкаваліся ў часопісе «Маладосць» (N 4, 1992 г.), а таксама ў кнізе «Туга па Радзіме. Паэзія беларускай эміграцыі». На Бацькаўшчыне ўжо стала даволі вядомай песня «Жураўлі лятуць» на словы А. Бярозкі, музыка Зміцера Яўтуховіча, дзякуючы выкананню ансамбля «Сябры» пад кіраўніцтвам Анатоля Ярмоленкі, а таксама песня «Эпілог» на музыку Галіны Смоляк. Сярод беларусаў Амерыкі вядома песня «Асенняе лісце» ў выкананні Данчыка, тэкст якой з ангельскай мовы пераклаў А. Бярозка. Прапануем вашай увазе гэты пераклад, а таксама верш «Эпітафія». Гэты верш паэт пачаў пісаць, калі даведаўся (з вялікім спазненнем), што яго адзіны брат, які быў змабілізаваны ў Чырвоную Армію, загінуў у 1943 г., абараняючы Мурманск, а завяршыў яго ў 1988 г., калі меў цяжкую аперацыю на сэрцы і ўжо не думаў, што выжыве. І верш, і пераклад нідзе не друкаваліся.

**Анатоль БЕЛЫ**

## АСЕННЯЕ ЛІСЦЁ

**Праз вокны клён лісцё цярушыць,
А вецер гоніць плоймы хмар.
Мне сніцца вуснаў тваіх соладзь
І летні рук тваіх загар.**

**Ты адышла, і адзінота
Засціла сонца маіх дзён.
Цябе я помню, дарагая,
Калі лісцё раняе клён.**

## ЭПІТАФІЯ

(Слядамі Рупера Брука)

*Бяжы, коню, дарогаю,
бяжы, коню, шырокаю —
к майму сялу, к майму двару,
к вароцікам цісовенькім.*

*Выйдзе цябе сустракаці
сястра мая й стара маці...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Не каж, коню, што ўбіт ляжу...*

*З беларускае народнае песні.*

**Я з дарогаў далёкіх а горкіх
анікoлі к табе не вярнуся,
дарагая матуля-зямля.
У чужым, няведамым полі
мае косці збуцвеюць.
Не аплача мяне Яраслаўна
у Падлессі, родным сяле.
Не схіляцца вербы, рабіны
над магілай забытаю.
Толькі вецер з-над Нёмана, Лані
мо' над ёю павее калісьці —
зашапоча ў быллі на кургане.**

**І не вернецца конь мой буланы
да парогу роднае хаты,
каб хоць вестку к табе данясці
пра мяне, што загінуў
без сваіх, без цябе,
мой аграблены Краю Забраны.**

**Я зарокся цябе не забыць анідзе, аніколі —
а вялікую ласку к табе я пранёс
скрозь гады і нягоды
і вазьму я з сабой у магілу забытую гэту.**

**Не кажы пра мяне,
што загінуў дарма, пустацветам —
пад мурогам чужым,
у далёкай, нянашай краіне
будзе пораху жменя,
што пайшла з беларускага роду
з беларускай раллі.
Тая пораху жменя,
той куточак чужое зямлі —
то навекі шматок Беларусі.**

**Сніцца будзеш ты мне,
мой краю палеткаў ільняных
ў ранні светлага дня,
у васількова сіні узорах...
Хоць далёка магіла мая,
хоць і згінуў не ў пору,
я з табою навекі — там,
дзе моляцца сонцу разоры.**

**Пад чужым, глухім дзірваном,
што берамем ляжа на грудзі,
сніцца будзе мне вецер той свежы
з-над Нёмана, Лані —
і адна толькі скарга ў мяне —
што мяне там не будзе,
калі ў новую весну ты сустрэнеш
сваё развітанне.**

*1988 г.*

*Мантысэля, што ў Мінэсоце*

# ЗБІРАЕЦЦА СПАДЧЫНА В. ПРАСКУРАВА

Упраўленне інфармацыі Брэсцкага аблвыканкама і абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі рыхтуюць да выдання кнігу неапублікаванай творчай спадчыны вядомага пісьменніка-нарысіста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіля Праскурава. Кніга мае быць змястоўнай і шматжанравай: апрача нарысаў у архіве пісьменніка захаваліся машынапісы і чарнавікі аповесці (няскончанай), шэрагу апавяданняў, аўтабіяграфія, лісты да яго, фотаздымкі. І ўсё ж, імкнучыся як мага паўней укласці яе, мы звяртаемся з просьбаю да пісьменнікаў, журналістаў, супрацоўнікаў рэдакцый і выдавецтваў, да ўсіх, хто быў у блізкім знаёмстве з Васілём Фёдаравічам, пасрпыяць узбагачэнню будучай кнігі новымі арыгінальнымі матэрыяламі: неапублікаванымі рукапісамі аўтара, ягонымі лістамі, фотаздымкамі... Матэрыял накіроўвайце на адрас: 224005, г. Брэст, вул. Камуністычная, 1, аддзяленне СП Беларусі.

**Алесь КАСКО**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру Мархелю з выпадку смерці яго бацькі.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Аляксандру Мельнікаву з прычыны напаткаўшага яго гора — трагічнай смерці сына Андрэя.**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932–35) |
| І.Гурскі | (1935–41) |
| А.Куляшоў | (1945–46) |
| М.Горцаў | (1947–49) |
| П.Кавалёў | (1949–50) |
| В.Вітка | (1951–57) |
| М.Ткачоў | (1957–59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959–61) |
| Н.Пашкевіч | (1961–69) |
| Л.Прокша | (1969–72) |
| Х.Жычка | (1972–76) |
| А.Асіпенка | (1976–80) |
| А.Жук | (1980–86) |
| А.Вярцінскі | (1986–90) |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332–461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332–525, 331–985*
аддзелы:
публіцыстыкі 332–525
пісьмаў і грамадскай думкі *331–985*
літаратурнага жыцця *332–462*
крытыкі і бібліяграфіі *332–204*
паэзіі і прозы *332–204*
музыкі *332–153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332–153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332–462*
навін *332–462*
мастацкага афармлення *332–204*
фотакарэспандэнт *332–462*
бухгалтэрыя *268–640*

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 14.07.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

# Тэлетыдзень

## 18-24 ліпеня

## ПАНЯДЗЕЛАК, 18.07

### Беларускае тэлебачанне

17.30 Навіны
17.40 Гонкі для Беларусі
18.10 Навіны
18.25 Навіны ВВС
19.00 Што на свеце пачуваецца...
19.55 Гаспадар
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 Пяць хвілін на жарты
21.40 «Тэлесябрына»
21.45 Спартыўны тэлекур'ер
22.05 Пад купалам Сусвету
22.15 Тэлевізійны Дом кіно. А. Міхайлаў
23.05 НІКа
23.20 Надвор'е
23.30 «Апошняя цэль», м/ф (Італія)

### Канал «Астанкіна»

17.00, 20.00, 23.00 Навіны
17.25 Свет сёння
17.40 Азбука ўласніка
17.50, 20.35 Надвор'е
18.00 Гадзіна пік
18.25 «Дзікая ружа»
18.55 Мы
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Спартыўны агляд
21.20 Расказвае В. Вульф
22.05 Вечар С. Асіяшвілі
23.10 «Белае і чорнае»
23.55 Прэс-экспрэс

### Канал «Расія»

15.00, 19.00, 22.00 Весткі
15.20 Футбол. Фінал чэмпіяната свету
17.35 Там-там навіны
17.50 Свята кожны дзень
18.00 Выратаванне 911
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Прыгоды «Зоркі Захаду», м/ф
20.35 Ніхто не забыты
20.40 Рэпарцёр
21.00 Без рэтушы
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Спартыўная карусель
22.35 ЭКП
22.45 Вячэрні салон

### Санкт-Пецярбург

17.10 «Я і ўвесь клас», м/ф
18.20 «Сунічны дожджык», мульт
18.30, 21.45 Інфарм ТБ
18.50 «У імя ўваскрэсення», т/ф
19.05 «Каміла, ці Нераскрытыя тайны»
19.50 «Вівальдзі», «Ігнатус», «Дзве фігуры насупраць», д/ф
20.45 Тэлеслужба бяспекі
20.55 «Кансерватар»
21.25 Тэлемагазін
21.30 Будні
22.00 Спорт, спорт, спорт...
22.10 Ваш стыль
22.20 «Ключ», м/ф

## АЎТОРАК, 19.07

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Эканамікст
8.20 Пад купалам Сусвету
8.30 Надвор'е
8.40 «Праспект»
9.10 «Апошняя цэль», м/ф (Італія)
10.55 Пяць хвілін на жарты
11.00 Дзелавы веснік
11.10 «Зваротная сувязь»
12.45 АВС-клуб
13.00 Міжнародны фестываль фальклору
14.00 Да Дня незалежнасці
15.30 «На крылах кажана»
16.30 «Нов і К»-топ-10
17.30 Навіны
17.40 «Прыгоды маленькіх сяброў», мульт
18.00 Эканамікст
18.10 Навіны (Віцебск)
18.25 Навіны ВВС
19.00 Эканамічная хваля
19.40 Зямлі маёй паданні
20.00 Кантакт
20.05 Калыханка
20.25 Панарама
21.00 Урачыстае адкрыццё III Міжнароднага музычнага фестывалю «Славянскі базар-94»
21.55 Пяць хвілін на жарты
22.00 Пад купалам Сусвету
22.10 НІКа
22.25 Надвор'е
22.35 «Славянскі базар-94»

### Канал «Астанкіна»

5.30 Раніца
8.00 Агляд рынку нерухомасці
8.15 Дамісолька
8.35 «Дзікая ружа»
9.30 «Казка ў казцы», мульт
9.45 Справа
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00 Навіны
15.25 «Вайна гобатаў»
15.50 Паміж намі, дзяўчынкамі
16.05 Рок-урок
16.40 За кулісамі
17.25 Дакументы і лёсы
17.40 Знак пытання
17.50, 20.35 Надвор'е
18.00 Гадзіна пік
18.25 «Дзікая ружа»
18.55 Добрай ночы, малышы!
20.45 З першых рук
20.55 «Вялікі перапом», м/ф
23.10 Гала-канцэрт «Белыя ночы Санкт-Пецярбурга»
0.25 Прэс-экспрэс

### Канал «Расія»

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 «Любоўная лодка», д/ф
8.00 Сусветныя навіны АВС
8.30 Ранішні канцэрт
8.45 Без рэтушы
9.40 «Паўднёвая Афрыка — край добрых надзей...»
10.00 Тэатральны раз'езд
10.40 Сялянскае пытанне
15.20 Студыя «Рост»
15.50 Там-там навіны
16.05 Новая лінія
16.50 Ваша права
17.05 Гаспадар
17.35 Свята кожны дзень
17.45 «Хто вы, доктар Шаабан?»
18.10 L-клуб
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Мужчынская кампанія», м/ф
21.00 «Славянскі базар-94»
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Спартыўная карусель
22.35 «Славянскі базар-94»

### Санкт-Пецярбург

12.00 Бізнес-выпуск
12.10 Чароўная лінія
12.25 «Нямецкая хваля»
13.00 Хуткая дапамога
13.30 «Каміла, ці Нераскрытыя тайны»
14.15 «Эх, Таптыгін, Таптыгін», мульт
14.25 Тэлетэкст
14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
14.45 «Уладзімір Святы», м/ф
16.00 «Забытыя мясціны», т/ф
16.20 «Старасвецкія памешчыкі», спектакль
17.35 Ваша права
18.10 «Казкі-невялічкі», мульт
18.55 «Чалавек з дзіцячым акцэнтам», мульт
19.05 «Каміла, ці Нераскрытыя тайны»
19.55 Аранж-ТБ
20.15 Без назвы
20.25 Падсякай
20.40 Тэлеслужба бяспекі
20.50 «Добрая воля», д/ф
21.20 Тэлемагазін
21.25 Будні
21.35 Тэлетэкст
22.00 Спорт, спорт, спорт...
22.10 Ваш стыль
22.20 «Дванаццацькрэслаў», м/ф, с. 1

## СЕРАДА, 20.07

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 «Маналог з адступленнямі», д/ф
8.50 Пяць хвілін на жарты
8.55 Надвор'е
9.05 На чым трымаецца зямля?
9.25 Міжнародны фестываль фальклору
10.25 Ало! Ёсць пытанне
11.10 Інтэрв'ю В. Быкава
11.40 Да Дня незалежнасці
15.05 «Голас дзяцінства», фестываль
16.00 Пра шахматы і шахматыстаў
16.30 Відзьма-нявідзьма
17.30 Навіны
17.40 «Ганна Ахматава. Рэквіем», д/ф
18.10 Навіны (Гомель)
18.25 Навіны ВВС
19.00 «Карамболь» з удзелам М. Шуфуцінскага
19.30 «Прышэлец», д/ф
19.45 Абрыс
20.25 Пяць хвілін на жарты
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 «Крок»: «Формула»
23.00 Пад купалам Сусвету
23.10 НІКа
23.25 Надвор'е
23.35 «Жанчына без забабонаў», м/ф (Францыя), с. 1

### Канал «Астанкіна»

5.30 Раніца
8.00 Расійскі дайджэст
9.15 «Баяка муху не пакрыўдзіць», «Баяка вучыцца лятаць», мульт
8.25 «Дзікая ружа»
8.55 Клуб падарожнікаў
9.45 Дзелавы веснік
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00 Навіны
15.25 «Вайна гобатаў»
15.50 Дзіцячы кінафестываль
16.10 «Лятаючы дом»
16.40 Кампанія «Мір»
17.25 Свет сёння
17.40 Тэхнадром
17.50, 20.35 Надвор'е
18.00 Гадзіна пік
18.25 «Дзікая ружа»
18.55 Кінапанарама
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Жараб'ёўка Лігі чэмпіёнаў па футболе
21.10 Маналог
21.20 «Шоу-бой», м/ф
23.15 Арт-кур'ер
23.45 «Акно ўначы»
0.15 Прэс-экспрэс

### Канал «Расія»

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 «...Выхадаў няма...», д/ф
8.00 Навіны АВС
8.30 Ранішні канцэрт
8.50 «Санта-Барбара»
9.40 Тэлегазета
9.50 «К-2»: «Ведай нашых»
10.40 Сялянскае пытанне
15.20 Студыя «Рост»
15.50 Там-там навіны
16.05 Новая лінія
16.50 «За парогам дома»
17.25 Я — лідэр
17.50 Свята кожны дзень
18.00 «Тайны немадрыдскага двара». І. Штэмлер
18.50 «Пяць хвілін пра добрае жыццё»
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Санта-Барбара»
20.25 Ніхто не забыты
20.30 Шостае пачуццё
21.05 На палітычным Алімпе
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.35 ЭКП
22.45 Экзотыка

Санкт-Пецярбург

12.00 Бізнес-выпуск
12.10 Чароўная лінія
12.25 «Нямецкая хваля»
13.00 Хуткая дапамога
13.30 «Каміла, ці Нераскрытыя тайны»
14.15 Тэлемагазін
14.20 «Набярэжная навукі», д/ф
14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
14.45 «Сірано дэ Бержарак», м/ф
16.15 Урок нямецкай мовы
16.30 «Еўрапейскі калейдаскоп»
17.00 «Паўночныя званы», т/ф
17.30 «Пачынаецца расказ», канцэрт
18.00 Мультфільмы
19.05 «Каміла, ці Нераскрытыя тайны»
19.50 Блеф-клуб
20.30 Тэлеслужба бяспекі
20.50 Адраджэнне Валаама
21.00 «Фіеста», м/ф
21.10 Музычны момант
21.25 Тэлемагазін
21.30 Будні
22.00 Спорт, спорт, спорт...
22.10 Ваш стыль
22.20 «Дванаццацькрэслаў», с. 2

## ЧАЦВЕР, 21.07

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 «Полацкая пячатка», д/ф
8.30 Надвор'е
8.40 Міжнародны фестываль фальклору
9.40 Пяць хвілін на жарты
9.45 Тэлевізійны Дом кіно
10.35 Да Дня Незалежнасці
16.10 «Тэлебом»
16.45 Вобраз
17.30 Навіны
17.40 Існасць
18.10 Навіны (Гродна)
18.25 Навіны ВВС
19.00 Зачытайце маё пісьмо...
19.05 Крымінальная хроніка
19.25 «Гэтыя даўгавечныя сосны...»
20.10 «А дзе мне ўзяць такую песню...», д/ф
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 Пяць хвілін на жарты
21.40 Пад купалам Сусвету
21.50 Надвор'е
22.00 НІКа
22.15 «Славянскі базар-94»
23.45 «Жанчына без забабонаў», с. 2

### Канал «Астанкіна»

5.30 Раніца
8.00 Агляд рынку нерухомасці
8.15 «Пра Ксюшу і Камп'юшу», мульт
8.35 «Дзікая ружа»
9.05 У свеце жывёл
9.45 Прадпрымальнік
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.35 Навіны
15.25 «Вайна гобатаў»
15.55 Мульцітролія
16.10 ... Да 16 і старэйшым
16.40 Планета
17.25 Дакументы і лёсы
17.40 Загадка СБ
17.50, 20.30 Надвор'е
18.00 Гадзіна пік
18.25 «Дзікая ружа»
18.55 Прыватнае жыццё А. Шырвінта
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.40 Масква — Крэмль
21.00 Лато «Мільён»
21.30 «Прама ў сэрца», м/ф (Італія)
23.40 «Я вам спяю». А. Казанцава
0.10 Прэс-экспрэс

### Канал «Расія»

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Добрай раніцы
8.00 Навіны АВС
8.30 Тэлегазета
8.35 Паехалі
8.45 «Санта-Барбара»
9.35 Чароўны куфэрачак
9.45 «Славянскі базар-94»
9.50 Зусім сакрэтна
10.40 Сялянскае пытанне
15.20 Студыя «Рост»
15.50 Там-там навіны
16.05 Новая лінія
16.50 М-трэст
17.05 Будні
17.45 Свята кожны дзень
17.55 У свеце аўта- і мотаспорту
18.25 Свая гульня
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Санта-Барбара»
20.25 Сам сабе рэжысёр
21.00 Я. Лявонаў. Вечар памяці артыста
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Спартыўная карусель
22.35 «Пан Валадыеўскі», м/ф, с. 1

### Санкт-Пецярбург

12.00 Бізнес-выпуск
12.10 Чароўная лінія
12.25 «Нямецкая хваля»
13.00 Хуткая дапамога
13.30 «Аляксандр Неўскі», т/ф
14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
14.45 «Салодкая жанчына», м/ф
16.20 «Графіка»
16.45 «Майстры — залатыя рукі», мульт
17.05 Музыка — дзецям
17.30 Рэформа і ўлада
18.00 Парады садаводам
18.15 «Ох, адпачыў», мульт
18.55 «Ціхая дама»
20.00 О-ля-ля
20.25 Тэлемагазін
20.35 Тэлеслужба бяспекі
20.45 Гадзіна ў квадраце
22.00 Гульні Добрай волі
22.30 Ваш стыль
22.40 «Вячэрні звон»

## ПЯТНІЦА, 22.07

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Эканамікст
8.20 Пад купалам Сусвету
8.30 Надвор'е
8.40 «Карамболь»
9.10 Пяць хвілін на жарты
9.15 Міжнародны фестываль фальклору
10.15 Да Дня Незалежнасці
16.20 ПІК
17.00 «І матчыных напеваў успамін»
17.30 Навіны
17.45 «Тэлесябрына»
18.00 Эканамікст
18.10 Навіны (Магілёў)
18.25 Навіны ВВС
19.00 Крок наперад
19.30 «Памяць сэрца»
20.05 Рэйтынг
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 Пяць хвілін на жарты
21.40 «Свабоднае падзенне», м/ф
23.00 Пад купалам Сусвету
23.10 Надвор'е
23.20 «Славянскі базар-94»

### Канал «Астанкіна»

5.30 Раніца
8.00 Новы старт
8.15 «Сарока»
8.45 «Гарачаў і іншыя»
9.15 Дапамажы сабе сам
9.45 Бізнес-клас
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00 Навіны
15.25 «Прыгоды Бураціна», м/ф, с. 1
16.50 Азбука ўласніка
17.26 Мініяцюра
17.35 Знак пытання
17.45, 20.35 Надвор'е
17.50 Чалавек і закон
18.20 «Гарачаў і іншыя»
18.50 Поле цудаў
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Чалавек тыдня
21.05 «Дэн Огаст»
22.10 «Погляд»
23.10 Музагляд
23.55 Прэс-экспрэс

### Канал «Расія»

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Сам сабе рэжысёр
8.00 Навіны АВС
8.30 Тэлегазета
8.35 Паехалі
8.45 «Санта-Барбара»
9.35 «Капітан Нема», с. 3
10.40 Сялянскае пытанне
15.20 Студыя «Рост»
15.50 Там-там навіны
16.05 Новая лінія
16.50 Дысней па пятніцах
17.45 Свята кожны дзень
17.55 Фільм-прэм'ер
18.10 Гала-канцэрт конкурса вакалістаў імя М. А. Рымскага-Корсакава
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Санта-Барбара»
20.25 «Славянскі базар-94»
20.30 «Гарадок»
21.05 «К-2»: «Пацалунак у дыяфрагму»
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Спартыўная карусель
22.35 «Пан Валадыеўскі», с. 2
24.00 Прыватная калекцыя

### Санкт-Пецярбург

12.00 Бізнес-выпуск
12.10 Чароўная лінія
12.25 «Нямецкая хваля»
13.00 Хуткая дапамога
13.30 «Жыццё маё — опера»
14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
14.45 Тэлемагазін
14.50 «Дванаццацькрэслаў», с. 1, 2
17.30 «Баламуцкія сустрэчы»
17.55 Мультфільмы
18.55 «Легенда аб Судамскай крэпасці», м/ф
20.45 Тэлеслужба бяспекі
20.55 «Кон-Далорыя — у музыцы з болем, смуткам, сумам», т/ф
21.25 Тэлемагазін
21.30 Будні
22.00 Гульні Добрай волі
22.30 Ваш стыль
22.40 «Ракавая роза», м/ф (ЗША)

## СУБОТА, 23.07

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 Надвор'е
8.30 Пяць хвілін на жарты
8.35 «Свабоднае падзенне», м/ф
9.55 «Добрая казка»
10.10 Паказвае Віцебск
11.10 «Сталіца»
11.30 «Трэцяя ракета», м/ф
13.10 20 мінут рэдактара
13.30 Барбі-лато
14.00 Пад крылом Еўфрасінні, ч. 1
14.45 Дзесяць запаведзяў
15.15 «Нов і К»-топ-10
16.15 Асілак
17.05 «Чарапашкі ніндзя»
17.25 «Славянскі базар-94»
19.35 «Шматгалоссе»
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 Пяць хвілін на жарты
21.40 «Не будзіце спячага сабаку», м/ф
23.50 Пад купалам Сусвету
24.00 «Каскад»
0.15 Відзьма-нявідзьма

### Канал «Астанкіна»

7.00 Суботняя раніца дзелавога чалавека
7.45 Слова пастара
8.00 Марафон-15
8.30 Кампанія «Мір»
10.00 Ранішняя пошта
10.30 Я — жанчына
11.00 Навіны культуры
11.10 Смак
11.25 Пераадоленне
11.55 «Утаймавальнікі веласіпедаў», м/ф
13.25 Кніжны двор
14.00, 23.05 Навіны
14.20 Лабірынт
14.50 «Кэтвізл»
15.20 «Трэба чуць прыгажосць»
15.50 «Жыццё заапаркаў»
16.30 Чалавек і закон
16.40 Цудоўная сямёрка
17.35 Бамонд
17.55 Да і пасля
18.45 «Б'юлаленд»
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Навіны плюс
20.35, 23.15 Надвор'е
20.45 «Камісар»
21.40 Оба-на
22.25 Гульні Добрай волі
23.25 «Вось мы якія...», м/ф (Італія)

### Канал «Расія»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.25 Студыя «Рост»
7.55 Пілігрым
8.40 Парламенцкі тыдзень
9.20 Рэтра-шлягер. У. Высоцкі
9.50 Тэлеэрудыт
9.55 Гульні Добрай волі
13.20 Непазнаны Сусвет
13.50 XX стагоддзе ў кадры і за кадрам
14.50 «К-2»: «Зоркі Амерыкі»
15.20 Футбол без межаў
16.15 Тэлеэрудыт
16.20 Вуснамі дзіцяці
16.55 Гульні Добрай волі
19.25 Свята кожны дзень
19.35 «Амерыка, Амерыка...», м/ф, с. 1
21.25 Джэнтльмен-шоу
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Спартыўная карусель
22.35 «Славянскі базар-94»
22.40 Праграма «А»

### Санкт-Пецярбург

8.30 «Чароўная лінія»
8.45 «Санкт-Пецярбург з вышыні птушынага палёту», т/ф
9.55 Гульні Добрай волі
12.40 «Дождж», спектакль
13.35 «Рамантычныя мініяцюры»
13.55 Гульні Добрай волі
15.50 «Марыяна першая»
16.20 «Рытм, рытм, рытм»
16.35 Экспрэс-кіно
16.55 Гульні Добрай волі
19.30, 21.45 Інфарм ТБ
19.55 «Верныя сябры», м/ф
22.00 Гульні Добрай волі
23.05 Ваш стыль

## НЯДЗЕЛЯ, 24.07

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 Пяць хвілін на жарты
8.25 Слова да чалавека
8.55 Беларускі тур
9.10 «Чарапашкі ніндзя»
9.40 АВС-клуб
9.55 MTV. Лепшыя хіты
10.25 Белыя і чорныя
11.05 «Праспект»
11.35 Сімфанічныя вобразы
12.15 Вяскоўцы
12.45 Пад крылом Еўфрасінні, ч. 2
13.20 Мультдэтэктыў
14.00 Ваўчок-шоу
14.25 Служба 01
14.35 «Ад сэрца да сэрца»
15.35 «Трын-трава», м/ф
17.10 Тэлекрама
17.20 Тэлеклуб «Гаў-гаў»
17.45 Дзелавы веснік
18.00 «Чарапашкі ніндзя»
18.30 «Гінес-шоу»
19.00 Футбол. «Дынама-93» — «Нёман»
20.00 Панарама
20.35 Пад купалам Сусвету
20.40 Калыханка
21.00 Пяць хвілін на жарты
21.05 «Прызыўнікі», к/ф
22.00 «Славянскі базар-94»

### Канал «Астанкіна»

7.00 Алімпійская раніца
7.45 Тыраж «Спортлато»
8.00 Марафон-15
8.30 Раным-рана
9.00 Палігон
9.30 Пакуль усе дома
10.00 Ранішняя зорка
10.50 «Кантрольная для дарослых»
11.35 Малыя гарады Расіі
12.05 Шпаргалка
12.10 «Падводная адысея каманды Кусто»
13.00 Гульні Добрай волі
14.00, 17.20, 23.00 Навіны
14.20 Кампанія «Мір»
15.00 Жывое дрэва рамёстваў
15.05 Амерыка з М. Таратутам
15.40 «Баскетбольная ліхаманка», «Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды»
16.35 Гульні Добрай волі
18.40 Тэлелоцыя
18.55 Надвор'е
19.00 КВЗ-94
21.00 Нядзеля
21.50 Спартыўны ўік-энд
22.05 Кабарэ «Усе — зоркі»
23.10 Вестуны

### Канал «Расія»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.25 Мульці-пульці
7.45 Здорава жывеш
8.00 Студыя «Рост»
8.30 Добрай раніцы, Еўропа
9.00 Лепшыя гульні НБА
10.00 Аты-баты...
10.30 Правінцыяльныя пісьмы
11.00 «Упершыню замужам», м/ф
12.35 «Славянскі базар-94»
12.40 Шэсць сотак
13.20 «Не высечы...»
13.35 Каробка перадач
13.50 «Ліпень»
14.00 У свеце жывёл
14.55 Футбол. «Дынама» — ЦСКА
17.00 Чароўны свет Дыснея
17.55 Свята кожны дзень
18.05 «Залаты Астап»
19.25 «Амерыка, Амерыка...», с. 2
20.50 Гульні Добрай волі
21.25 У Ксюшы
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Гульні Добрай волі

### Санкт-Пецярбург

7.45 «Гаючае слова»
8.15 Гульні Добрай волі
9.20 «Клемянціна»
9.55 Лёгкая атлетыка
11.00 «Нядзельны лабірынт»
12.25 Лёгкая атлетыка
14.00 Экспрэс-кіно
14.20 Казка за казкай
15.05 Храм
15.55 Плаванне
17.00 Клуб «Класіка»
18.30 Інфарм ТБ
18.55 Баскетбол
20.55 Адамаў яблык
22.00 Гульні Добрай волі
23.00 Ваш стыль